(цягу) Я да самазахаваньня (жыцьця) і да самаруйнаваньня (сьмерці), ускладненую ўзаемаадносінамі Эраса й Танатаса, а таксама ягоны пагляд на маральную функцыю Звыш-Я. Можна сказаць, што героі твору адчуваюць варожасьць ад усіх трох фройдавых небясьпек: зьнешняга сьвету, лібіда Яно й суворасьці Звыш-Я.

Своеасаблівыя праявы Эраса (любові — нянавісьці) і Танатаса — лініі Цярэма й Міхася, да таго ж у абодвух дамінуе *«інстынкт сьмерці»*. Адзін зь сюжэтаў раману «Яно» насьледуе лёгіку Фройдавай думкі пра *«зьняцьце засьцярог»* культуры, уседазволенасьці, пра сутыкненьне адных і тых індывідуальных схільнасьцяў у абставінах зьняцьця гэтых засьцярог і ў сытуацыі тырана-дыктатара. Канфліктная схема раману абумоўленая гэтымі ідэямі — узаемаадносінамі Я й Звыш-Я. Згодна з Фройдам (у працы «Я і Яно»), энэргія агрэсіўнасьці пераходзіць ад сфэры Я ў супрацьлеглую ёй сфэру Звыш-Я, выклікаючы ў Я маральныя імпульсы, пад ціскам якіх Я можа нават загінуць. Фройд прапаноўвае тую частку нашай псыхікі, што не супадае з нашым Я, назваць Яно: гэта тая цёмная стыхія жаданьняў і памкненьняў, якую мы гостра адчуваем у сабе й якая актыўна супрацьстаіць розуму. Яно — жарсьці. Я — розум і памяркоўнасьць. Для Яно існуе адзін прынцып — насалоды, Я — носьбіт прынцыпу рэальнасьці. Можа, эпіграфам да раману маглі б стаць словы Фройда: *«Прырода чалавека як у адносінах дабрыні, гэтак і ў дачыненьні зла далёка пераўзыходзіць тое, што ён сам ведае ў сабе, іншымі словамі, тое, што вядома яго Я пры дапамозе сьвядомага ўспрыняцьця»*.

*Споведзі небывалыя слухаеш,*
*ад сьвятароў, судзьдзяў ці*
*палічнікаў?*
*Споведзь лепшую і наганяй*
*псыхіятары нам даюць.*

*«Новая Элегія»*

Аўтар вызначае жанр «Яно» як аповесьць у начырках, але твор можна назваць і ўспамінамі, сярод прататыпаў — і былыя знаёмыя зь вёскі, і Ермачэнка, Сабалеўскі ды іншыя. Рэальны час, падзеі, месца. Але ж адкуль гэта?

*«Ніколі раней, як тады, ён адчуваў сваё адзіноцтва, адзіноцтва чалавека, якому застаецца толькі чагосьці спадзявацца або жыць ільлюзыямі жыцьцёвых сноў, ці мо' інакш: упрыгожваць самога сябе мрояй выпуклай і магчымай. У словах мрояў няма формы, але ёсьць будучыня, што возьме ад іх сваяформная — праўдзівая сапраўднасьць у душэўным хароме чалавека, безь якой блудзіў-бы або поўзаў, як чарвяк, у падзямельлі».*

Чалавек XX ст. стаіць на парозе духовага сьвету, і ў напаўсьвядомасьці, у снах, мроях бачыць-адчувае свайго «вартаўніка парога» — таго самага «Антыхрыста» Ніцшэ. Адсюль і зацікаўленьне чортам — характэрная рыса перажываньня на парозе як разуменьне ўласнай незавершанасьці, недасканаласьці. Перажываньне свайго двайніка — гэта як дыскусія з чортам. Хто ён будзе, чалавек ці не-чалавек, свой ці чужы? Ці пераможа яго, ці, як у Ніцшэ, дасьць авалодаць сабой Арыману?

У пошуках адказаў Юхнавец задумваецца над прыродай сноў:

*«Што такое сны? У астралягічныя разважаньні ня кінуся. Я вяртаюся ад будзённага, учарашняга да мамэнту магчымасьці неабманнага, але яно часта прыводзіць да зусім іншага. Знаходзіцца штосьці незайменнае ў азначанай частцы думаньня. Яно творыцца сваёй формай мастацтва, з узмоцненымі вывадамі пазбаўленьня сэнсу, або наадварот, дадаюць сапраўдныя сцэны, выцягнутыя ўласным жыцьцём. Сны, хто любіць гэта чуць, — трагедыя падказная. Яўна заўсёды падказвае: як ад трагедыі пачынаецца жыцьцё — вярнуцца да свайго бытаваньня»*[175].

Ці ў іншым месцы:

*«Кожную ноч сьняцца сны. Дыктуюцца нават вершы. Пакідаюцца ўрыўкі. Хвалююць раніцай. У снах я выходжу на падмосткі тэатру. Мае вобразы ўяўныя не адчуваю жывымі, а скалечаныя бязжаласьлівай формай, а я люблю зьмест. Зьяўляюцца дзікаабразныя асобы, не прывучаныя любіць чалавечай любоўю. Можа, гэта ад балючага жыцьця. Нешта ёсьць, што ў мінуласьці фізычна не адолена, раптам вырашаецца ў падсьвядомай сіле — снах»*[176].

Ёсьць у вершах ды думках Юхнаўца і сум, і туга. Толькі ня тая туга па радзіме, што перашкаджае бачыць, адчуваць навакольнае жыцьцё й часам выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах. Туга Юхнаўца ў адчуваньні, што беларусы ў Беларусі — таксама выгнанцы. Няма ў ягонай паэзіі й дэкларацыйных патрыятычных вершаў:

*…«событіе» здарылася.*
*Чорт мітычны, горды,*
*скінены зь нябёсаў у чорнай вопратцы,*
*але з абліччам белым, як у нас, людзей,*
*адчуў усё ад самага пачатку спаду*
*трагічнасьцяй снавацца ў Маўзалеях.*
*Вясёлку каляровую — боскае прыгоства летам*
*чорнай аркай над людзьмі зрабіў.*
*Вельмі хутка навучыўся*

[175] Юхнавец, Янка. Запіскі і зацемкі… С. 33.
[176] Тамсама. С. 64.

*апускацца на зямлю,*
*чымся лётныя сэрафімы,*
*моўкна стоячыя перад Богам*
*(не асудзі сурова, паэзія Айчынная:*
*пра Чорта ўспамінаць?!).*
*Ледзь крыху аддзяляюся ад твае сучаснае патрэбы.*
*Але прывычка ў чалавека ёсьць*
*свайго трымацца, калі ня дзейнасьцяй,*
*дык думкай урасьці ў цела і душу,*
*можа некаму да мяне падобнага*[177].

Усё і прасьцей, і складаней. У паэзіі Юхнаўца, якую часта параўноўваюць з паэзіяй Алеся Разанава, выказваючы тым самым неразуменьне паэтаў, — філязофія, сусьветная ў глыбіні й беларуская ў мэнтальнасьці. Філязофія ня Фрыдрыха Ніцшэ ці Жана-Поля Сартра, ня Поля Элюара ці Эзры Паўнда. У паэта Янкі Юхнаўца філязофія Янкі Юхнаўца:

*…сябе ніколі не прапаноўвай на'т да сьціплага*
*пінаньня*
*за няздольнасьці ў жыцьці.*
*Ня люба прапаноўваць — разьбі акно*
*ў сваім уласным доме.*
*І яно разьбітае.*
*У яго паўзуць пачвары,*
*бы сказкі ад Яна Баршчэўскага.*
*На стол сядаюць, прычэпліваюцца да столі.*
*А ў мяне намеры волі*
*не палохацца.*
*Пазбаўляюся, сялю ў стадоле парожняй,*
*якую ад людзей сваіх купіў.*
*Падпалю! Страхоўку атрымаю.*
*Янка Юхнавец з Полаччыны пасяліўся ў сваёй*
*душы*
*з пачварамі Баршчэўскага*[178].

---

[177] Юхнавец, Янка. Дань майго часу. С. 163–164.
[178] Юхнавец, Янка. Запіскі і зацемкі… С. 31.



# ПАЭЗІЯ Й ПРАЎДА ЖЫЦЬЦЯ: ЯНКА ЮХНАВЕЦ

У амэрыканскай паэзіі — Эзра Паўнд, Томас Эліёт. У летувіскай — Мікалоюс Чурлёніс. У расейскай — Велімір Хлебнікаў, Іосіф Бродзкі. У беларускай — Янка Юхнавец. Такое збліжэньне й супастаўленьне вельмі адрозных аўтараў, несумненна, «прыцягнутае», умоўнае, але, разам з тым, дазваляе празь вядомае зьведаць нязьведанае, убачыць месца паэта ў літаратуры. Праз чужынскае — сваё.

*Геніямі й генамі чужымі захапляемся.*
*Пазьдзеленые ступкі ўсёткі,*
*паміж імі ёсьць — наша,*
*атрыманая ад Часу вечнага*[179].

Так, менавіта нязьведанае, бо нягледзячы на тое, што імя мысьляра, паэта, празаіка, драматурга, перакладчыка, мастака, скульптара, выдаўца Янкі Юхнаўца трывала ўзгадваецца побач з імёнамі іншых пісьменьнікаў-эмігрантаў, ягоная творчасьць па-ранейшаму застаецца *terra incognita*. Нават горш — прыблізнаўяўленая, бо выдадзены ў Беларусі зборнік «Сны на чужыне» ставарае ў чытача памылковае ўражаньне веданьня пісьменьніка[180]. Астатнія ж зборнікі, выдрукаваныя ў ЗША, — хутчэй размножаныя машынапісы, бо выдаваліся самім аўтарам па 5–10, зрэдку 15 асобнікаў, і бачылічыталі іх лічаныя асобы.

Знаёмства з творчасьцю пісьменьнікаў беларускага замежжа адбываецца звычайна адначасна з знаёмствам зь іхнымі біяграфіямі, пэрыпэтыямі лёсаў, жыцьцёвымі шляхамі, што сваёй пакручастасьцю недзе паўтараюць гістарычны шлях Беларусі.

Зь Юхнаўцом адбылося інакш. Па сёньня вядомыя адно агульныя рысы ягонай біяграфіі, як кажуць, пункты адбыцьця й прыбыцьця. Свайго жыцьцёвага маршруту паэт раскрываць не хацеў, хаваў ад староньняга вока, як хавалі ў свой час геаграфічныя мапы першапраходцы ў пошуках зямлі запаветнай, абяцанай. *«Нарадзіўся-памёр»*[181]*,* — адказваў ён на неаднаразовыя просьбы

[179] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 186.
[180] У 2012 г. намаганьнямі аўтара кнігі ў менскім выдавецтве «Лімарыюс» выйшаў грунтоўны том «Паэзія» Янкі Юхнаўца. — *Рэд.*
[181] «In my beginning is my end» (T. Eliot).

напісаць аўтабіяграфію. *«Мая біяграфія — у вершах, у зацемках»*. У гэтым, паводле ягонага прызнаньня, — нелюбоў да ацэнкі творчасьці на ўзор «жыў-быў».

А ўсё ж патрэба больш-менш падрабязнага апісаньня жыцьця й творчасьці паэта адчуваецца востра. Бо «Біябібліяграфічны даведнік беларускіх пісьменьнікаў» ужо ўзаконіў факталягічныя недакладнасьці. І «міт» Юхнаўца, народжаны на эміграцыі, знайшоў працяг на бацькаўшчыне.

*Я ніжуся быць паэтам, а ня мітам,*
*у Часе апрацованым майго жыцьця...*[182]

Зрэшты, у сваёй працы «Жыцьцё паэта» Лоўрэнс Ліпкінг вылучыў тры моманты жыцьця-біяграфіі, калі паэт уступае ў дыялёг зь лёсам і ўласнай творчасьцю, *«канстатуе жыцьцёвы вопыт»*: 1. Момант прарыву, ініцыяцыі (*initiation*); 2. Час падрахаваньня, «збору камянёў» (*cartonium*); 3. Момант пераходу (*tombeau*), калі паэтычны набытак, ягоная душа, сутнасьць перадаюцца нашчадкам, пераемнікам[183]. Можа, гэтыя «пункты» і ёсьць адзіная сапраўдная біяграфія, якую нам трэба ведаць, якая адна толькі й важная для гісторыка літаратуры — для мадэляваньня таго псыхалягічнага асяродку, у якім высьпявалі творы? Мусіць, мелі рацыю паэты, калі гаварылі пра пачатак-канец?

Згодна з канцэпцыяй Ліпкінга, праз ініцыяцыйны твор паэт упершыню знаходзіць сябе, надае свайму жыцьцю эпічны сэнс. У Юхнаўца такім творам стаўся верш «Вежы стрункія ўзвысіў замак», надрукаваны ў часапісе «Шыпшына». Па сутнасьці гэта невялікая паэма:

*Пад далінаю з куртатымі лясамі,*
*між скалаў сівых, абгрызеных вятрамі,*
*дзе лісьце клёны скідваюць увосень,*
*плачучы па лету рыжымі сьлязьмі, —*
*мінуўшчынай паніклай у прарэхі хмараў*
*вежы стрункія ўзвысіў замак.*
*Яго спакой і сьвятасьць мараў*
*вартуе толькі вольны вецер.*
*У ноч маўклівую калісьці*
*у роў глыбокі із вадою*
*зыходзіў месяц, каб із хмараў*
*ныраць у хвалі з галавою.*

---

[182] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 188.

[183] Lipking, Lawrence. The Life of the Poet: Beginning and the Ending Poetic Careers. Chicago, 1981.

*І тысячай залатых вачэй*
*ноч ціхая на яго глядзела.*
*І зоркаю дрыготнаю ярчэй*
*сьвяціліся празорцы вежаў.*
*Гады тут чынна гартавалі*
*мячы адважнейшых людзей.*
*І век для іх прывольля, славы*
*гады бяз жалю аддаваў*[184].

Ужо першыя радкі Юхнаўцовых вершаў сьведчаць: гэта — сапраўднае. Нават калі ў чытача няма поўнага разуменьня, ёсьць адчуваньне. І яшчэ — алюзіі да пачаткаў нашае літаратуры, да Трышчана, да Ластоўскага, да паэмы Купалы «На Куцьцю».

*Ды сьмерць тваю —*
*аплаціць сьмерць.*
*Ён цепліць сам агні ў пекле.*
*Яго прысуд,*
*што быў табе,*
*багіня Парка*
*сьціпла, пекна*
*яму самому прачытае.*
*А між тым,*
*з другіх плянэтаў*
*(якім шчэ сьніцца абарона латаў),*
*зь зямлі сьцюдзёнае,*
*памёрлай*
*сьмяецца, вылупіўшысь, атам, —*

пісаў у 1947 г. у сваім першым творы малады паэт.

Неразуменьне крытыкамі паэзіі Юхнаўца часта-густа прыводзіла да стварэньня вобразу гэткай надсусьветнай асобы, што вандруе па-за жыцьцём, над ім, або зводзіла яго паэзію да ілюстрацыі ідэяў знакамітых заходніх мысьляроў[185]. Ах, якая спакуса знайсьці філязофскія або паэтычныя аналёгіі: сюррэалізм, мадэрнізм, імажынізм… Ну, сапраўды, ці ж нельга, гаворачы пра паэзію Юхнаўца, прыгадаць знакамітае з Кручоных:

---

[184] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 189.

[185] Пра Янку Юхнаўца напісана параўнальна няшмат. Першая ў Беларусі праца — артыкул Алеся Бяляцкага «Цішыню нерастлумачу анікому» (Роднае слова. 1993. № 6). Тамсама варта адзначыць разьдзел у кнізе Яна Чыквіна «Далёкія і блізкія» (Беласток, 1997) і нізку матэрыялаў у часапісе «Крыніца» (1996. № 2).

*«Расейская літаратура да нас — футурыстаў — была сьпірытычнаю й танклява-румзьліваю. Яна круцілася ў коле чорта — ухапіць чорта, выкрыць, праклясьці ці прынамсі нудна ўхваляць! Выратаваць некага й прадбачыць поўны й рашучы канец сьвету гэтага!..»*[186]

Ці не пра тое ж кажа й Юхнавец: *«Мяне папракалі, што не пішу патрыятычнай лірыкі. А для каго яна тут патрэбна, калі ўсе сьвядомыя»*. Але Юхнавец — не футурыст, гэта відавочна.

Шмат гаварылася пра Юхнаўцову мадэрновасьць, нават штучнасьць, але Юхнавец настойліва паўтарае, што ўсё ў ім — ад фальклёру. У ягоных вершах больш фальклёрнага, народнага, чым у лубочных творах шмат якіх сучасных (і ня вельмі) паэтаў. Наўрад ці будзе перабольшаньнем сказаць, што, паводле паэта, быцьцё выяўляе сябе праз фальклёрна-міталягічную традыцыю. У складаным фальклёрным палілёгу пераплятаецца мноства галасоў і пазыцыяў, розныя культурныя наслаеньні адбіваюцца адно ў адным, бы ў люстэрку. У іх выяўляецца нешта агульнае — сьлед міталягічнай сьвядомасьці. І суразмоўе культураў адбываецца ўжо на вэрбальным узроўні. Нават у перакладах — Эзры Паўнда ці каго з антычных аўтараў — заўсёды застаецца юхнаўцоўскае, нацыянальнае, першаснае. Гучыць хор — у антычным яго значэньні, — як вызначальны голас, што ўзвышаецца над голасам кожнага асобнага ўдзельніка трагедыі. Беларускі голас Юхнаўца.

Ужо выказвалася думка пра пошукі-стварэньне Юхнаўцом Эдэму, страчанага Раю, Саду. Ганс-Георг Гадамэр вызначаў мову як *«усеахопную перад-тлумачальнасьць сьвету»*[187], што па сваёй генэзе ўзыходзіць да гайдэгераўскага азначэньня мовы як разьбіцьця сьвету. Мова ёсьць разьбіцьцё (*Aufriss*) сьвету ў тым сэнсе, у якім мы гаворым пра закладаньне саду. Закласьці Сад ня значыць проста «растлумачыць» яго, быццам ён існуе ўжо, і нам застаецца адно спасьцігчы ягоную будову. Закласьці Сад — значыць стварыць яго й пры гэтым зруйнаваць, перайначыць тое месца, на якім мы яго пасадзім. Зь іншага боку, закласьці сад — ня значыць зрабіць па падрыхтаваным праекце такое, чаго няма й не было ў задуме-плянах тае зямлі, якой і прызначана стаць Садам. Мы не прыдумваем Сад, як і абстрактны плян ягонага жыцьця; яны існуюць, хоць іх яшчэ й няма. Ён закладзены ў зямлі, бо зямля мусіць стацца Садам. Зямля бяз Саду — не зямля яшчэ.

---

[186] Крученых, Алексей. Апокалипсис в русской литературе. Москва, 1923. С. 3.

[187] Gadamer, Hans-Georg. Die Sprache ist die allumfassende Vorausgelegtheim der Welt. Begriffsegeschte als Philosophie: Kleine Schriften. Bd. 3. Tubingen, 1972. S. 237–250.

Той Сад — Беларусь. І Эдэм — Беларусь. І Юхнавец ня першы, хто зьведаў гэта. А хто быў першы?

> *Ён, Хрыстос! Забыўся, можа?*
> *Абвясьціўся найперш у стадоле зь веткаў*
> *між лесу Беларускага*[188].

Юхнаўцоў Сад бачыцца яшчэ — а мо пераважна — як далучэньне да традыцыі, якую страцілі беларускія паэты, трапіўшы пад *«жаронцы лёсу»*, як далучэньне да традыцыі, зь якой яны не былі злучаныя. У сваёй працы «Традыцыя й індывідуальны талент» (1919) Томас Эліёт сьцьвярджае, што традыцыю нельга насьледаваць, атрымаць у спадчыну; за авалоданьне ёю трэба змагацца, працаваць. Гэта пагляд на культуру аўтсайдэра, эмігранта, Ды-Пі, якому анічога ня дорыцца, які мусіць усё пачаць спачатку[189].

З аднаго боку — Традыцыя, да якой імкнецца паэт. З другога — фармальныя прыкметы відавочна дугасныя ў традыцыі. Як зазначыў Г'ю Кенэр, *«пакаленьне Паўнда ды Эліёта навучылася па-новаму асэнсоўваць мову»*[190]. Паэт-мадэрніст (а мо проста сучасны паэт?) заяўляе свае правы на спляценьне гісторыяў, культураў, імёнаў, і для яго аднолькава роднасным набыткам стаецца Эсхіл, Скарына, Гусоўскі, Сартр, Ніцшэ… У вершы «Пра мастацтва» (1950), з эпіграфам з Цвайга «Абавязак у мастацтве — выкажы свае перакананьні», Юхнавец піша:

> *Пятнялы Час разьвіць у сіле Боскай*
> *не маляваць краіну Беларускую*
> *знакамі, прыклеенымі із цэмэнту*
> *да помнікаў*[191].

Так праз чужынскія рэаліі, праз словы, што ўяўляюцца чужымі (а мо толькі забытымі?), паўстае вобраз Беларусі. Юхнаўцовай Беларусі, дзе вызначальным стаецца не ручнік, не васілёк, ня песьні жальбы на жалейцы.

---

[188] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 182.

[189] Ды-Пі (ад ангельск. *Displaced persons* — перамешчаныя асобы) — людзі, якія ў выніку вайны аказаліся па-за межамі свае краіны. Цікава, што выраз «перамешчаная асоба» Эліёт выкарыстоўвае таксама ў артыкуле пра Энэіду (Eliot, Thomas Stearns. Virgil and the Christian World // Eliot, Thomas Stearns. On Poetry and Poets. New York, 1961. P. 143). Ён ужываецца ў дачыненьні ангельска-амэрыканскай культурнай мяжы — мяжы традыцыі.

[190] Kenner, Hugh. Ezra Pound // Voices and Visions: The Poet in America. New York, 1987.

[191] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 114.

Малады чалавек, які як паэт нарадзіўся на чужыне (мабыць, варта падкрэсьліць — адзіны з усіх беларускіх пісьменьнікаў на эміграцыі), асэнсоўвае сябе:

*Я чужынец.*
*Прыгаство захоплівае кляштор.*
*Я палоньнік красатосьці.*
*...Я палоньнік у лягеры Гасподнім*[192].

Можа, напісаны ў 1947 г. у Баварыі верш «Нобэлеўскія прэміі» падаўся б некаму сьмяхотным, але гэта быў шлях паэта, надзіва ясны (але не празрысты). Шлях узвышэньня творцы, якому пашчасьціла адразу знайсьці, зразумець сябе — і далей адно ня здрадзіць. Абраны шлях дазволіў шмат пазьней напісаць:

*...цярплівым рыбаловам прывучыўся жыць.*
*З паплаўком блізу, абліччам-позіркам у вірох,*
*плыву і плыў*
*лавіць, што злоўлена не было*
*ў вазёрах Айчыны.*
*Мова злоўленая (беларуская наўвеце)*

*трымалася ў памяці і з задавальненьнем*
*яе багацьце разьдзяліць далёка ад Айчыны*[193].

Ужо ў першым творы Юхнаўца прысутнічае плынь сьвядомасьці, маналёгі-разважаньні — для сябе, дзеля сябе, калі чытач аказваецца ў ролі падслухача. Аўтар — не суразмоўца, ён нават ня вельмі клапоціцца, каб яго разумелі. Адсюль, магчыма, і такая адметнасьць ягонае паэзіі, як яе празаізм. Зрэшты, Юхнавец сам кажа, што для яго няма розьніцы між паэзіяй і прозай.

*Вершы твару бліжэй да прозы —*
*люблю, што люблю, але ўмэт*
*ўздымаю крылы вольнага Пэгаса*[194].

У прозе, створанай за межамі Беларусі, па сваёй значнасьці мэмуары, успаміны займаюць ці ня першае месца. Акрэсьленьне мэмуараў як жанру — даволі плыткае. Як заўважыў Поль дэ Мэн, *«і тэарэтычна, і эмпірычна аўтабіяграфіі зь цяжкасьцю можна*

[192] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 172.
[193] Тамсама. С. 187.
[194] Тамсама. С. 186.

*акрэсьліць адзіным азначэньнем; кожны прыватны выпадак падаецца выключэньнем з правіла»*[195].

Час — адзін з асноўных герояў у рамане (а мо ўспамінах?) Янкі Юхнаўца «Яно». Апроч раману й шэрагу апавяданьняў ёсьць яшчэ «Запіскі» — успаміны-роздумы па жанры (а мо раман?), якія ахопліваюць падзеі духовага жыцьця аўтара:

*«Мне было 10 год узросту (можаце верыць), я зразумеў недругарадным значэньнем жыцьцё ня толькі маіх бацькоў, а ўсяго агулу людзкай масы беларусаў у ваколіцах маёй вёскі. Кожнадзённае жыцьцё сялянаў не ішло ў адпаведнасьць (на кароткі час) устаноўленай Кастрычніцкай рэвалюцыяй у Расеі, і непрылучаных да яе "нацмэнаўскіх" тэрыторыяў. Я чуў ад бацькі, ад бацькоў свайго роду: "З хутароў уцяклі тыя, тыя". Мне было цікава (калі пасьвіў жывёлу зь вясковым пастарам) аглядаць пакіненыя сялібы. У блізасьці лес, крынічныя рачулкі (падземныя ключы), уежджаныя дарогі да сялібы, пакінутыя вульлі для пчол і роўныя палеткі, зарослыя цяпер пустазельлем. У мяне было адно цікавасьць без патрэбнасьці нейкай справядлівасьці (саплявак яшчэ быў), карысьць вартасьці гэткай гістарычнай дзейнасьці ўладаў. Магчыма, я стаўся тады дарослым чалавекам. Некаторы час аставаўся прыхільнікам уладаў. А пазьней перамяніўся. Стаўся замкнёным у сабе адпраўнікам. Вось гэтак ствараюцца асабістасьці ня "здробезных паступкаў"»*[196].

Асэнсаваць творчасьць Юхнаўца ў кантэксьце беларускай літаратуры нялёгка, як і зразумець, а, галоўнае, прыняць яе — гэтаму не ў апошнюю чаргу замінае яе «замкнёнасьць», што неаднаразова й закідалася паэту. Але ён ідзе сваім апрычоным шляхам. У лісьце да Юхнаўца Віцьбіч пісаў:

*«Маеце рацыю, калі асабліва не пераймаецеся з прычыны абыякавасьці некаторых да Вашае творчасьці. Вы маеце сваіх чытачоў, кола якіх пашырыць час. Давялося мне таксама чытаць і Вашую прозу — няблага. Між іншым, надысь у часе гутаркі зь дзядзькам Міхасём (Міцкевічам), які часта мяне наведвае, мы аднамысна прыйшлі яшчэ раз да выснаву пра незвычайнасьць Вашага запраўднага таленту. Прынамсі, ні да параўнаньня з Вамі розныя "агульназразумелыя" паэты. Ідзеце з Богам сваім шляхам»*[197].

Таму й гаворыць Юхнавец у адным з сваіх вершаў:

*Крытык мой, ты не ўзьнясеш мяне*
*да лёту птушак у паднябёсах.*

---

[195] Man, Paul de. Autobiography as De-facement // The Phetoric of Romantism. New York, 1984. P. 67–81.

[196] Юхнавец, Янка. Запіскі і зацемкі… С. 87.

[197] Ліст Юркі Віцьбіча да Янкі Юхнаўца ад 17.05.1968. Перахоўваецца ў БДАМЛІМ.

*Паэтычнай шумнасьці ў воддалях Радзімы*
*не было.*
*Хто яе паслухае на чужыне?*
*У снох хадзіў між ніў і селішчаў,*
*ледзь расплятаючы вузлы і з добрага і злога.*
*...дзіцём-маленцам навучаўся —*
*на зямлю ўпаўшы, радасна ўзьняцца.*
*І першы верш запаланіўся*
*каля падолу Мацеры-Айчыны*[198].

[198] Юхнавец, Янка. Дань майго часу… С. 186.



## АПОСТАЛ КАХАНЬНЯ: РЫГОР КРУШЫНА

Унікальнасьць паэзіі Рыгора Крушыны — ня толькі яе жанравая й тэматычная своеасаблівасьць, але й выразная эмацыйна-пачуцьцёвая накіраванасьць — ужо зьвяртала на сябе ўвагу дасьледнікаў[199]. Прымаючы відавочнае, паспрабуем разгледзець адметнасьць мастацкіх сродкаў адлюстраваньня эратычнага ў вершах паэта й зробім гэта пераважна на матэрыяле зборніка Крушыны «Выбраныя творы» (Нью Ёрк — Мюнхэн, 1957), дзе сувязь паміж вобразам, мовай і эрасам найбольш відавочная. Менавіта ў гэтай кнізе Крушыны бясполая беларуская літаратура губляе сваю цнатлівасьць.

*Эрот са мною. Прызнаюся,*
*Ён неразлучны сябра мой.*
*Мы разам зь ім на Беларусі*
*Дуэт наладжвалі ігрой*[200].

Герой паэзіі Крушыны на самоце аддаецца ўспамінам (марам, снам, летуценьням, мроям — паэт выкарыстоўвае вялікі сынанімічны шэраг найменьняў) пра мінулыя экстазы, адначасна актыўныя й пасіўныя, фізычныя й духовыя, паэтычна пераадольвае трагічную рэальнасьць расстаньня. І, мабыць, тут бярэ свой пачатак адметная нота эратычнай паэзіі паэта.

Гэта адчуваньне «каханка-пераможцы»: *«Ты моцна тулісься. Ты згодная»*[201]*, «Ціхі шэпат вуснаў пульхных, / Супраціву, просьбы жменькі: / — Кінь, ня трэба! Не, ня слухай… / Ах, яшчэ… Яшчэ… дурненькі»*[202]. Жаданьне быць першым і адзіным: *«Ты ўся мая — ад скроні і да пят»*[203]*, «І ты цяпер, твой сьпеў дзявочы / Раскрытай кнігай на стале. / Я хочу першым кнігу гэту / У рукі ўзяць і прачы-*

---

[199] Скобла, Міхась. Па акропалі казачных сноў // Роднае слова. 1993. № 8; Рагойша, Вячаслаў. Душа беларуса — крышталь // Беларусь. 1993. № 6.

[200] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1957. С. 136.

[201] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 65.

[202] Тамсама. С. 166.

[203] Тамсама. С. 69.

*тацьׅ»*[204], *«Я да цябе прыходжу першым»*[205]. Адстойваньне свайго права на блізкасьць: *«Ня трывожце маю маладую спакусамі, / Не чапайце рукамі, паглядам, замоваю. / Гэта я маю права гарачымі вуснамі / Пражыць ейнае цела пругкое, вясновае»* [206].

Нават Беларусь-Радзіма, незабыўная, пакутная, зьняволеная, вобраз якой у эміграцкай паэзіі нязьменна быў узьнёсла-вызначальны, у вершах Крушыны паўстае перш за ўсё як вобраз Жанчыны, Маці (са сьвятым у беларускай паэзіі значэньнем), Сястры (з хваляваньнем за лёс роднага), Каханкі: *«Сястра, каханка, мая маці, мой вобраз сьветлы і сьвяты»*[207].

Менавіта каханьне й зьвязаныя зь ім радасьці й страты — тое акно, празь якое паэт бачыць сьвет: *«Я пакінуў хату бедную, бы няўцешную ўдаву»*[208], *«бусел удовы»*[209], вішня — *«яна, як маладая»*[210].

Каханьне ў Крушыны заўсёды адкрыта эратычнае. Жанчына вабіць яго прыгажосьцю формаў, чаканымі магчымасьцямі, нарэшце — даступнасьцю.

*Ці ня раз плячыма*
*Паціскала:*
*Тут усё магчыма*
*Ў гордых скалах.*
*Тонкі шоўк бікіні*
*Скраў твой сорам…*
*Мора пену ўскіне, —*
*Мы паўторым,*
*Лясьнем даланямі*
*На тэй хвалі,*
*У якой мы днямі*
*Пал хавалі.*

*«На пляжы»*

---

204 Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 135.
205 Тамсама. С. 142.
206 Тамсама. С. 64.
207 Тамсама. С. 160.
Параўнай:
*Ты ляжыш неакрытая,*
*Бессаромна-прынадная*
*Мне чужая і ўсё-ж такі родная,*
*Бо нагадваеш Случчыну.*
(Крушына, Рыгор. Вячорная лірыка. 1963. С. 56.)
208 Тамсама. С. 30.
209 Тамсама. С. 23.
210 Тамсама. С. 56.

Трагічна, што жанчына прыцягальная ня толькі для лірычнага героя, але й для захопніка-гвалтаўніка: *«Красуню лашчыць Квазымода / На паняволенай зямлі»*[211].

Але паэт адштурхоўваецца ад трагічнага. Нездарма апошні прыжыцьцёвы зборнік «Сны і мары» (Нью Ёрк — Мюнхэн, 1975) распачынаецца вершам «Я жыў на акропалі казачных сноў» (С. 7). Як атрымалася гэта ў паэта-выгнанца — жыць у казачных снох? А як жа страта сваякоў, паняверка Бацькаўшчыны, усьведамленьне, што не пабачыш яе вольнай, няпростае жыцьцё на чужыне? Адказы знаходзім на старонках таго ж зборніку «Сны і мары». Крэда Крушыны: *«Я ня хочу бачыць хмары, / Верадзіць мой чысты зрок»* (С. 15), *«Ня кіну адно — будаўніцтва прыгожых паветраных замкаў»* (С. 88). Паэт называе сябе летуценьнікам, фантазёрам, носьбітам сноў (С. 86). Ён дазваляе сабе быць *«у спакоі і цяпле»* (С. 58).

Калі ж прыгадваецца Бацькаўшчына, Крушына гаворыць: *«Я ўстрывожу памяці гангрэну»* (С. 48). Сапраўды, *«бываюць, крый Божа, благія настроі»*, прызнаецца паэт, калі немагчыма ўцячы ад непрыемнага:

*З газэтнае хронікі злыя навіны:*
*Піраты ў паветры... Паўстаньні... Разбой...*
*Ці можна сьмяяцца ў такія хвіліны?*
*Ці горкі настрой адпадзе сам сабой?*
*Я ў смутку нямею на гэткім пытаньні:*
*— Чаму часта плодзіцца зло на зямлі,*
*А людзі маўчаць у душэўным хістаньні,*
*Насупраць нічога зрабіць не змаглі*[212].

Гэта радкі зь вершу «Элегія». А на наступнай старонцы — верш «Масты пачуцьцяў»:

*Хараство, чысьціня, цяплыня!*
*І ня хочацца думаць пра тое,*
*Што ёсьць войны і зьлёт груганьня, —*
*Непатрэбнае нам і пустое*[213].

Адсюль і жыцьцесьцьвярджальнае: *«Жаданы час надыйдзе [...] / Стаяцьме зноў ля родных весьніцаў / Былая белая нявіннасьць»*[214].

---

[211] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 149.
[212] Крушына, Рыгор. Сны і мары. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1975. С. 74.
[213] Тамсама. С. 75.
[214] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 33.

Крушына часта выкарыстоўвае слова «каханьне» й вытворныя ад яго (у зборніку «Выбраныя творы» ўжытыя 74 разы), слова «любоў» і вытворныя ад яго «люба», «любянятка» (67 разоў).

Эратычнае перадаецца ў мастацкім творы літаратурнымі найменьнямі, пазалітаратурнай лексыкай, эўфэмізмамі, мэтафарычнымі фігурамі. Эратычныя мэтафары Крушыны грунтуюцца звычайна на сутыкненьні нэўтральных назоўнікаў мужчынскага й жаночага роду, што ў адпаведным кантэксьце спараджае дадатковыя сэнсавыя адценьні.

Так, фон, на якім адбываецца дзеяньне вершу «Ля ракі»[215], надзвычай просты: Ён (верш ад першай асобы) і Яна на беразе ракі вудзяць рыбу. Лексыка нэўтральная: рака, вада, човен, плотка, павучок, кручок, патанаць, плыць, водная гладзь і г. д. І вось на гэтым фоне пачынаецца любоўнае збліжэньне — ад *«ціхенькага пытаньня»* да *«ты патанула ў абдымках маіх»*. Сутыкненьне назоўнікаў мужчынскага й жаночага роду «вада» — «плавучок», «плотка» — «кручок» стварае адкрыты эратычны падтэкст: *«Над вадою трымцеў плавучок. / Можа плотку падчэпе кручок?»* Тут кантэкстуальнае значэньне кручка — фалічнае. Верш завяршаецца дзеяньнем: «кручок» «патанае ў вадзе» — мэтафара *coitus*’у.

Такія вобразы нярэдкія ў Крушыны: *«Ідзе ў мае абдымкі ўпасьці, / Трымцець, як човен на вадзе»*[216].

Прыкладна гэтаксама будуецца верш «Каштаны», дзе першыя чатыры радкі ня што іншае, як разгорнутая мэтафара, створаная зноў жа на сутыкненьні назоўнікаў мужчынскага й жаночага роду: *«Сьпелы плод кастрычнік з дрэва рве. / Лопаецца мяккая шкарлупка. / І, падскокваючы, карыя каштаны / У густой хаваюцца траве»*[217]. Апошнія строфы вершу — пранікненьне мужчынскага ў жаночае:

*Дарагая, ў добры час прыйду!*
*Па вясьне ў дні шумнае паводкі*
*Я, нязломны ў бурах, прабяруся*
*Да цябе, як промень праз ваду*[218].

Вобразы «хвалі», «пены» ў паэтычным арсэнале Крушыны — адныя з найбольш любімых аўтарам, і, у першую чаргу, дзякуючы сваім магчымасьцям сэмантычнага пераасэнсаваньня. На такім разьвіцьці сэнсу і грунтуецца верш «Марская скала», які пачынаецца апісаньнем уяўнай недаступнасьці гераіні: *«Кінь залёты рупныя!*

[215] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 66.
[216] Тамсама. С. 141.
[217] Тамсама. С. 67.
[218] Тамсама.

*/ Я — з граніту скала, / Надта недаступная»*[219], а завяршаецца натуральным зьбліжэньнем:

*Мне руку сьціскала:*
*Бура падымалася,*
*І на ўзмор'і скала*
*Хваляй саграваласяя*[220].

Разгорнутай эратычнай мэтафарай зьяўляецца паэма «Эротава скрыпка». Як у музычным творы (як і ў *coitus*'е), у паэме вытрыманы этапы:

Увэртура:

*Кроў закіпае. Я хмялею…*
*Я ў палынеючым агні,*
*Агонь сьвятарнага алею*
*Душу працяў да глыбіні…*
*І моцна струны ўжо напяты*
*На ціхай ліры на маёй*[221].

Разьвіцьцё тэмы:

*Пад Эротаву іскрыпку*
*Імправізуе песьнятвор.*
*Вулькан свой жар хаваў глыбокі,*
*А потым зрынуў на прастор.*
*Я твой Вэзуві, ты — Пампэя,*
*Імпэтнай лявай абыму…*[222]

Момант *coitus*'у:

*Пяюнька-скрыпка аж дрыжыць,*
*А смык узьняты. Гукаў бура*
*Во-во па струнах прабяжыць*[223].

Кульмінацыя-«аргазм»:

*Эрот гатовы да фіналу.*
*Ізноў узьняўся смык старчма,*

219 Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 55.
220 Тамсама.
221 Тамсама. С. 136.
222 Тамсама. С. 138.
223 Тамсама. С. 143.

*Даткнуўся йскрыпкі, і памалу*
*Вакол рассоўваецца цьма*[224].

Фінал:

*Эрот узрушаны дазваньня.*
*Ірдзее кропелькамі кроў.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Адразу змоўклі струны-чары,*
*Схіліўся стомлены Эрот*[225].

Сапраўды, *«і як можа хто-небудзь, хто бярэ пад развагу гэтак аграмадны матэрыял і маральныя моцы, як боскія асобы, ня бачыць бога ў Эрасе, які злучае ўсе рэчы?»*[226]

---

[224] Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. С. 144.
[225] Тамсама. С. 145.
[226] Ёгэр, Вэрнэр. Тэалёгія грэцкіх думаньнікаў / Пераклад Яна Пятроўскага. Флярыда, 1980. С. 18.

## КАЗАЧНАЕ

> «Ach», sagte die Maus, «die Welt wird enger mit jedem Tag. Zuerst war sie so breit, daß ich Angst hatte, ich lief weiter und war glücklich, daß ich endlich rechts und links in der Ferne Mauern sah, aber diese langen Mauern eilen so schnell aufeinander zu, daß ich schon im letzten Zimmer bin, und dort im Winkel steht die Falle, in die ich laufe.» — «Du mußt nur die Laufrichtung ändern», sagte die Katze und fraß sie.
>
> *Franz Kafka, «Kleine Fabel»*[227]

За аднаўленьнем праўдзівай, несфальшаванай гісторыі Беларусі, за напісаньнем уласных непадцэнзурных твораў і публікацыяй забароненых на бацькаўшчыне эмігрантам было не да казак. Ці ўсё ж не?

Ужо ў паваеннай Нямеччыне ў лягерах Ды-Пі арганізавалі першыя школкі, і былі патрэбныя падручнікі з навучальным матэрыялам. Вучні старэйшага веку выкарыстоўвалі зборнікі Купалы й Коласа, Багдановіча й Багушэвіча, Смоліча й Ігнатоўскага. Уцекачы вывезьлі іх, хоць кнігі быццам ня рэчы першай неабходнасьці, пра якія мусяць думаць у складаных жыцьцёвых варунках.

З навучэнцамі малодшага веку, напэўна, было прасьцей, бо які настаўнік ня ведае зь дзяцінства, ня памятае казак! Толькі тут перад укладальнікамі чытанак, лемантароў паўстала адна праблема — праблема адбору: якія казкі з багатага айчыннага фальклёру найлепей падыходзяць да ўзгадаваньня ў спэцыфічных выгнаньніцкіх умовах?

Так, у 1946 г. у Рэгенсбурзе Аўген Калубовіч выдаў першы сшытак «Выпісаў з крывіцкае літаратуры. Падручнік для сярэдніх

---

227 *«Ах, — сказала мышанё, — сьвет штодзённа сьціскаецца. Напачатку ён быў настолькі вялізны, што мне было вусьцішна, і я бегла й цешылася, што, нарэшце, бачу муры і зьлева, і справа, і дзесьці наперадзе, але гэтыя муры так хутка імкнуліся адзін да аднаго, што нарэшце я апынулася ў апошнім пакоі, а ў куце — пастка, і я туды бягу». «Дык бяжы ў іншы бок», — сказала котка й зжэрла яе* (Франц Кафка, «Кароткая казка»).

школаў», куды ўлучыў песьні, казкі й прыказкі. Адна з казак называлася «Музыка й чэрці».

*«Быў адзін Музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі йграў. Яшчэ будучы хлапчуком, пасе, бывала, валоў або коней, зробіць з лазы дудачку ды й як зайграе, дык валы пакінуць пасьвіцца, разьвесяць вушы ды й слухаюць. А ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы ня крумкаюць. А як павдзе коней на начлег — лета, ночы цёплыя, аж парыць — папрыводзяць да дубровы коней хлапцы, дзяўчаты з усяго сяла, сваволяць, сьмяюцца, пяюць песьні — ведама, маладосьць, заўжды весела, — а Музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць.*

*Вось ім здаецца, што якаясь соладзь улілася ў іхнае сэрца, а якаясь сіла ўхапіла іх на плечы й нясе ўсе ўгору і ўгору, да ясных зораў, у чыстае неба — у чыстае, сіняе, шырокае неба.*

*Сядзяць яны, нічога ня думаюць, забыліся, што рукі й ногі млеюць ад цяжкае працы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася-б ім сядзець гэтак усё жыцьцё і ўсё слухаць, як іграе Музыка.*

*Вось ён замаўчыць, але ніхто ня сьмее паварухнуцца, каб не спалохаць таго голасу, што пошчакам рассыпаўся па дуброве, па лесе, падымаецца ў самае неба.*

*Але вось зайграе Музыка жаласьліва — і заплачуць і лес, і дуброва, набяжыць хмарка, і зь неба сьлёзкі так і пальлюцца. Ідуць позна да гасподы мужыкі й бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць, плачуць. Вось так усё іх горкае жыцьцё перад вачыма й стаіць, і такі іх апануе жаль, што і мужыкі — старыя, барадатыя мужыкі — плачуць, як бабы над нябожчыкам або як праводзяць сынкоў у маскалі.*

*Але вось па немалым часе Музыка ад жаласьлівага ды на вясёлае зьверне. Пакідаюць мужыкі й бабы косы, граблі, вілы, гаршчкі й біклагі й давай скакаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты й лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача й сьмяецца.*

*Вось які-то быў Музыка чараўнік — што захоча, то ён з сэрцам зробіць!*

*Падрос Музыка, зрабіў сабе скрыпачку і пайшоў у сьвет. Куды прыдзе — пайграе, а за тое яго накормяць, напояць, як самага лепшага госьця, і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па сьвеце, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцы.*

*Бачаць чэрці, што куды Музыка ні прыдзе, там менш людзі грашаць, і давай вастрыць на яго зубы.*

*Ідзе раз Музыка празь лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны Музыцы ў лесе дарогу, стаяць ды зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вугольле. Няма ў Музыкі нічога ў рукох, толькі пад пазухай у мяшэчку скрыпка.*

*— Што тут рабіць? — думае Музыка, — Што тут пачаць? Прыйшоў яму канец!*

*Дастаў ён зь мяшэчка скрыпку й смык, каб хаця яшчэ раз напасьледак пайграць, прысланіўся да дзерава дый пацягнуў смыкам па струнах. Як жывая, загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес і лістком не варухне, а ваўкі як стаялі, разявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць ды слухаюць, а сьлёзы так і цякуць з воўчых вачэй.*

*Перастаў Музыка йграць, а ваўкі бы сонныя пасунулі ў лес.*

*Пайшоў Музыка далей. Ідзе ён ды ідзе, падыходзіць да ракі. Сонейка закацілася за лес, толькі яшчэ сьвеціць на самыя вярхі і як-бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе — ніводзін лісток не варухнецца. Вельмі харошы вечар.*

*Сеў Музыка на камень на крутым беразе каля ракі, дастаў сваю скрыпачку й зайграў, ды так гожа, што яго заслухаліся і неба, і зямля, і вада, і давай усе скакаць. Зоркі мітусяцца, як зімою сьнег, хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршчку.*

*Але вось падняўся ў рацэ Вадзяны Цар ды як пачаў скакаць, дык вада так заплясала, што заліла берагі, а чэрці спалохаліся й павыскакалі з вады. Бачаць яны, што ім ад Музыкі нідзе супакою няма. Вось яны давай думаць, як-бы яго загубіць. Музыка-ж паглядзеў, што Вадзяны Цар нарабіў людзям бяды, перастаў іграць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісьці далей.*

*Але вось падыходзяць два панічы й просяць пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што захоча. Падумаў Музыка, што яму недзе начаваць дый грошай няма, паслухаў панічоў і пайшоў зь імі йграць вечарынку.*

*Прывялі панічы Музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак хоць гаць гаці. Покуль ён зьбіраўся йграць, заўважыў, што ўсе панічы падбягуць да стала, памочаць палец у місу й мажаць сабе вочы. Памазаў і ён. Ды як памазаў, дык і бачыць, што гэта не паны, а чэрці і ведзьмы, і што ён не ў палацах, а ў пекле. Вось і зайграў ён ім ды так, што ўсё пекла разьляцелася ў шчэпкі, а чэрці зь піскам ды візгам разьбегліся па ўсім сьвеце.*

*Вось з тае пары чэрці й баяцца Музыкі й больш яго не чапаюць».*

Казка займела такі посьпех, што ў наступным, 1947 г., была выдрукавана ў Госьляры асобным выданьнем з малюнкамі А. Скарахода, эмігранта з-пад Клецку, а ў 2005-м, ужо ў Мінэсоце, ЗША, яе «факсымільна» (з захаваньнем ілюстрацыяў, але павялічанага фармату) перавыдаў Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок.

Вобраз (і ідэя) Музыкі для беларусаў была важнай і значнай ад першых зборнікаў паэзіі: Багушэвічавых «Дудкі беларускай» і

«Смыка беларускага», ад «Скрыпкі беларускай» Цёткі, ад «Песьняў жальбы» Коласа ды «Жалейкі» й «Гусьляра» Янкі Купалы аж да *казкі жыцьця* «Сымон-музыка», пра якую Адам Бабарэка напісаў, што гэта *«мастацкае выяўленьне вобразу песьняра-героя адраджэнскага кругабегу»*[228].

Цікава, што сярод накідаў, зацемак Антона Адамовіча ў архіве БІНіМу захоўваецца й такі запіс: *«Абрабаванаму “чортам” музыку не заставалася нічога, як толькі з гора прапіваць атрыманае за скрыпку золата (мамэнт, які выразна наводзіў чытачу на думку шмат якіх беларускіх паэтаў-мастакоў, а найперш і найбольш — таго-ж Янкі Купалы); у арыгінальнай казцы зборніка Сержпутоўскага, ізноў-такі, гэтага мамэнту зусім няма»*. Праўда, тымчасам невядома, які менавіта тэкст і дзе апублікаваны ён меў на ўвазе; паводле дасьледніка беларускай казкі Льва Барага, казка «Музыка ў пекле й чэрці» мае да 7 варыянтаў[229].

Паказальна таксама, што калі ў газэце «Беларус» адзначаліся 100-я ўгодкі Сержпутоўскага, для публікацыі абралі казку «Цыган Музыка»[230].

Бадай адначасна пачалося пісаньне аўтарскіх казак або апрацаваньне народных. Жанр літаратурнай казкі хай моцна саступае ў папулярнасьці на эміграцыі іншым жанрам, але ігнараваць яго, тым ня менш, не выпадае.

Найвялікшым казачнікам быў Язэп Гладкі. Пад сваім імем, псэўданімам (Адам Варлыга) ці крыптанімам (*J. H-ki*) ён у 1949 г. у Ватэнштэце выдрукаваў некалькі сшыткаў з назовам «Казкі», якія перавыдаў пазьней: «Народныя казкі: пра ведзьмаў і нячысьцікаў» (Нью-Ёрк, 1967), «Народныя казкі пра краіну Ярылы» (Нью-Ёрк, 1969), «Народныя казкі пра жыцьцё-быцьцё» (Нью-Ёрк, 1972). У тым самым 1949 г. выдрукаваў і кніжачку «Рыцар Дабравід: казка паводле народнае тэматыкі»[231], што сталася, напэўна, адной зь першых літаратурных казак, створаных эмігрантамі.

У літаратурнай казцы як жанры звычайна вылучаюць наяўнасьць аўтара, адметны стыль, псыхалягізм, але пераважна абмінаюць ня менш істотны складнік: адбітак часу, калі стваралася казка, які, у сваю чаргу, уплывае на сацыяльную значнасьць і выхаваўчы падтэкст. І гэта аднолькава ўласьціва для такіх аддаленых у часе твораў,

---

228 Бабарэка, Адам. Збор твораў у двух тамах. Т. I. Літаратурна-крытычныя працы. Вільня, 2011. С. 367.

229 Бараг, Леў. Беларуская казка. Мінск, 1969. С. 153.

230 У сотыя ўгодкі Сержпутоўскага // Беларус. № 92–93. Лістапад — сьнежань 1964. С. 2–3.

231 H-i, J. Rycar Dabravid: Kazka pavodle narodnaj tematyki. Watenstedt, 1949. — 25 s.

як, напрыклад, «Казка аб праўдзе» Ніны Змагаркі[232] й «Душок. Беларуская нацыяналістычная казка. Апрацаваў і падаў да друку зь некаторымі скарачэньнямі Сяржук Сокалаў-Воюш, апублікаваная ад імя Б. Тапчагі-Вязьніцкага»[233].

У часапісе «Сакавік» (№ 1. 1947) пад псэўданімам В. Аганёк была надрукаваная *«казка багдановічавым беларускім вершам»* «Васілёк і Незабудка», дзе клясычныя героі й абставіны (дзед і бабуля, што ня маюць дзяцей; ведзьма, выкраданьне дзяўчыны *etc.*) падаюцца чытачам у двух вымярэньнях: звыкла-казачным і з алюзіямі на рэальнае:

*Плывуць сьнягі,*
*і лес, лугі,*
*і рэчкі аджываюць.*
*І Сакавік*
*Край ажывіў,*
*сьмяюцца ўсе, сьпяваюць.*
*Вясна, вясна!*
*Ідзець яна*
*Ў бялюсенькай кашулі,*
*дзе ні зірне,*
*дзе ні кіўне —*
*каханьне, песьні, гулі.*
*Ведзьма Васільку пасылала*
*будзіць травіцу, каб ня спала,*
*будзіць красачкі-пралескі,*
*каб паглядзелі ў сонца блескі.*
*А Сакавік ішоў, сьмяяўся*
*ды з Васільком спаткаўся,*
*павеяў ціха — і як спалі,*
*так красачкі ўсе ўсталі.*
*«Ой, вы, кветкі, вы, кветкі,*
*шчасьлівыя вясны дзеткі!*
*Дзе ні зірну, дзе ні гляну —*
*цьвіцяцё вы, а я вяну.*
*Каб я мог ружай красавацца*
*пры маёй роднай хатцы,*
*пад беларускім цьвісьці небам, —*
*нічога-б больш ня трэба!*[234]

[232] Бацькаўшчына. № 45–46 (124–125). 16 лістапада 1952. С. 3.
[233] Беларус. № 398. Люты 1993. С. 7–8.
[234] Сакавік. Літаратурна-грамадзкі часапіс. № 1. 1947. С. 8–9.

І гэтая казка, як і «Музыка і чэрці», была таксама перавыдадзеная — праз чатыры гады ў газэце «Бацькаўшчына»[235]. Напэўна, усё-ж патрабавала душа.

Затое *сучасная казка* (так пазначыў на тытульнай старонцы аўтар) «Князь і Лапаць» Вінцука Адважнага (а. Я. Германовіча)[236] — гэта хутчэй у разуменьні Франца Кафкі: казка-жудасьцік для дарослых.

Пачаткам твор Германовіча — бы працяг Коласавага «Сымона-музыкі». Так, у *казцы жыцьця*:

*О, край родны, край прыгожы!*
*Мілы кут маіх дзядоў!*
*Што мілей у сьвеце божым*
*Гэтых сьветлых берагоў,*
*Дзе бруяцца срэбрам рэчкі*
*Дзе бары-лясы гудуць,*
*Дзе мядамі пахнуць грэчкі,*
*Нівы гутаркі вядуць;*
*Гэтых гмахаў безгранічных*
*Балатоў тваіх, азёр,*
*Дзе пад гоман хваль крынічных*
*Думкі думае прастор;*
*Дзе ўвосень плачуць лозы,*
*Дзе вясной лугі цьвітуць,*
*Дзе шляхом старым бярозы*
*Адзначаюць гожа пуць?*

У сучаснай казцы:

*А бывае сын выродны,*
*Што забудзе матку:*
*Край чужы яму дагодны,*
*Жыць абы ў дастатку.*
*Не ў спадобу родна мова,*
*Хоць чужой ня знае,*
*Хоць калечыць іхны словы,*
*А сваю кідае!*
*Даў Бог голас ўсім народам,*
*Даў і птушаняці:*
*Мы чаму стаім пад сподам?*

235 Бацькаўшчына. № 78–79. 25 сьнежня 1951. С. 6.

236 Адважны, Вінцук. Князь і лапаць. Сучасная казка. Лёндан, 1964. — 25 с.

*Шчасьце не ў багацьці.*
*Між суседзяў, шыта-крыта,*
*Ты быць іхным хочаш:*
*Пад чужое ўлез карыта*
*І адтуль сакочаш.*
*Як саромна! Чырванеем*
*За тых адшчапенцаў:*
*Іх вітаць ужо ня сьмеем —*
*Нашых чужаземцаў...*[237]

На вокладцы адзінага, лёнданскага, выданьня намаляваныя сапраўды князь і лапаць. Можа, так невядомы мастак алегарычна падаў вобразы галоўных герояў, а мо прачытаў толькі назоў, хто цяпер скажа. Толькі казка апавядае пра жыцьцёвыя нягоды Сымона Дука *(«Мы, Дукі — старога роду, / Мы — князёўскага заводу, / У мяне у скрыні ў хаце / Ёсьць паперы і пячаці»)*[238] і Анюты Лапаць.
Сем'і ледзь не на гвалт выпіхваюць іх у Амэрыку. Сымонаў

*Бацька вельмі быў круты,*
*Кажа: — Сынку, дурань ты!*
*Свой крывавы грош дастаў*
*І ў Амэрыку пагнаў*[239]*.*

Ну, а Янка Лапаць, хоць *«гаспадар з усіх тутэйшых — працавіты, наймацнейшы»*[240], але ж — дзевяць дачок!

*Прадаў бацька сёе-тое:*
*Для сьвятога супакою*
*Ён, каб збыць такое гора,*
*Аньцю выкінуў за мора.*
*Кажа: — Едзь, няхай ты скісьні!*
*Каб усе вы з хаты выйшлі,*
*Меў бы радасьць я такую,*
*Што пяяў бы «Альлелюя!»*[241]

Так што незнаёмыя адзін аднаму маладыя беларусы сталіся часткаю даваеннай эканамічнай эміграцыі.

Аўтару мо й прасьцей было скіраваць іх у знаёмы яму Лёндан, толькі караблі тады з працоўнаю сілаю плылі менавіта ў Амэрыку; хоць і казка, але межы трэба ведаць:

---

237 Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 4.
238 Тамсама. С. 12.
239 Тамсама. С. 11.
240 Тамсама. С. 21.
241 Тамсама. С. 22.

*Дук здаўна быў эмігрантам:*
*Маладым калісьці франтам —*
*Беларускі гладкі блін —*
*Укаціўся у Бруклін.*
*А Бруклін — такая вёска:*
*Ад Нью Ёрку толькі трошка*
*Адхіліўся за вадою.*
*Толькі-ж вяжуцца з сабою*
*І тунэлямі, мастамі,*
*І сталёвымі дратамі,*
*Каб у мора не адплысьці —*
*Ня згубіць усей карысьці,*
*Што плыве да іх са сьвету*
*У Бруклін дый у Мангэтан.*
*Як марскія браты два —*
*Нью Ёрк толькі — галава*[242].

Верагодна, у гэтай казцы — адныя з самых цікавых апісаньняў Амэрыкі ў беларускай эміграцыйнай літаратуры, бачаньня й разуменьня яе, хай і зробленыя ня ў жанры псыхалягічнай прозы: аўтар быў чалавекам ня толькі з гумарам, але й назіральным. Як жыхар Брукліну, магу сьцьвердзіць: шмат што да сёньня застаецца праўдаю:

*У Амэрыцы, у тлуме*
*Чалавек загіне ў глуме.*
*А ў Брукліне, ўправа-лева,*
*Кажна дзеўка — каралева.*
*Непатрэбны навет сват:*
*Тут «краянкі» — нарасхват!*[243]

Сымон і Анюта сустрэліся, пабраліся шлюбам. Жыцьцё не было лёгкім: ня проста з працаю, а чалавек яшчэ любіў выпіць. Дый часы ў Амэрыцы надышлі складаныя эканамічна. А тут звальваецца на галаву сямейцы агітатар Капшук — з сваёй казкаю: *«Цёмны Захад, ясны Ўсход — малады у нас народ»*[244]. Даўшы веры, яны вырашаюць рээміграваць. Пачынаецца кафкіянскі працэс вяртаньня.

254 старонкі — забагата нават для выбарнага цытаваньня. Знаёмства герояў з самай сучаснай казкаю, зрэшты, лёгка ўявіць па назовах разьдзелаў: «Сьледзтва», «На Ўсходзе», «Чырвоная Камісія

[242] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 13.
[243] Тамсама. С. 23.
[244] Тамсама. С. 63.

і Народны Суд», «Стукач», «Першае сьледзтва», «Чырвоны Рай», «Калгас», «Сібір».

Зламаныя чалавечыя лёсы, зламаная сям’я. Гісторыя, якую расказвае выпушчанаму з-за кратаў Сымону Анюта — толькі ня Дучыха, а Шаціха — пра тое, як ад яе патрабавалі падпісаць прызнаньне яго шпіёнам, пра новага мужа, пра іхных дзетак — сышло быццам з старонак успамінаў самога Германовіча «Кітай — Сібір — Масква» ці «Споведзі» Ларысы Геніюш. Ці мо гэта адна з тых гісторыяў, што расказвалі сукамернікі, і ў якой варыянтаў непараўнальна болей, як у «Музыку й чарцях»?

Але ж аўтар — сьветлы чалавек, і казку сваю, хай і сучасную, пражытую ім самім, заканчвае сьветла:

*Сонца яснае нам гляне —*
*Беларусь, дасьць Бог, паўстане:*
*Будзе вольная, багата —*
*Божа, дай такое сьвята!*
*Ажыве народ, устане,*
*Ясна сонейка прагляне:*
*Хай засьвеціць, хай прыгрэе,*
*Хай душа павесялее!*
*Вострабрамская, прыгожа,*
*Заступіся, Маці Божа!*
*Ногі млеюць, дух ляціць —*
*Наш Сымон Дук хоча жыць*[245].

Лепей пра сэнс літаратурнай казкі на эміграцыі й ня скажаш.

---

[245] Адважны, Вінцук. Князь і лапаць… С. 254.

## ПІСЬМЕНЬНІК АНАТОЛЬ ЖМЕНЯ

У беларускай (тарашкевіцаю) «Вікіпэдыі» айцец Леў Гарошка названы *«выдатным беларускім хрысьціянскім празаікам»*. Сапраўды, гэты кніжны чалавек быў ня толькі выдаўцом часапісу «Божым Шляхам», аўтарам філязофска-тэалягічных, гістарычных, мовазнаўчых кніг і артыкулаў, але й пісьменьнікам. Для кожнай дзялянкі ў яго былі свае псэўданімы, і менавіта *Анатолем Жменям* было пазначана аўтарства выдадзенага ў Парыжы ў 1967 г. зборніку апавяданьняў «Кветкі і церні жыцьця».

Што а. Леў вызнаваўся пісьменьнікам у эміграцыйным коле — і задоўга да выхаду зборніку — сьведчыць хоць бы тое, што менавіта ён меўся рэпрэзэнтаваць беларускіх літаратараў-эмігрантаў на сходзе, пра які (ці — ягоную падрыхтоўку) тым часам у нас нічога ня ведама, а таму варта зацытаваць троху айцовы лісты з Парыжу да Вітаўта Тумаша:

*«Тут у суботу мае адбыцца першая арганізацыйная зборка ў справе зьезду пісьменьнікаў-эмігрантаў з СССР. На Вашую рэкамэндацыю (ці сапраўды так?) і мяне запрасілі, каб удзельнічаць у той зборцы. Пайду пагляджу, што там будуць гаварыць, але мне хацелася-б ведаць, што і як адносна гэтага зьезду думае Арсеньнева, Віцьбіч і Адамовіч, бо-ж уласьціва яны будуць сябрамі таго праэктаванага зьезду. Калі Вы ў курсе справы, дык напішэце мне, калі ласка, Ваш пагляд у гэтай справе і перадусім Вашы жаданьні»*[246].

*«Сёньня атрымаў Ваш ліст і неадкладна адказваю, пакуль яшчэ сьвежае ўражаньне не зацерлася з падрыхтоўчае канфэрэнцыі ў справе зьезду пісьменьнікаў-эмігрантаў. Асабіста я крыху расчараваўся тою канфэрэнцыяю, бо былі прысутныя пераважна толькі расейцы, а зь іншых народаў быў толькі адзін армянін і я. Меў быць так-жа грузін, але, здаецца, захварэў; справа прыналежнасьці і ўдзелу ўкраінцаў яшчэ ня вырашана. Дзеля гэтага я заявіў, што калі справа ўкраінцаў ня будзе вырашана пазытыўна, дык я так-жа адмаўляюся ад удзелу, але не таму, што быццам мы зьвязаны з украінцамі і робім так, як яны хочуць, толькі дзеля таго, што ў выпадку, калі яны ня будуць удзельнічаць, дык тады практычна астануцца адны толькі расейцы, бо-ж мы і армяне*

[246] Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 16.05.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

*проста згубімся ў іхняй масе. Мне ніяк ня хочацца, каб расейцы гаварылі ў імені ўсіх народаў СССР. Зажадаў я так-жа, каб заклікалі прадстаўнікоў прыбалтыйскіх народаў, няхай сабе як госьцяў. Украінцы дамагаюцца, каб заклікалі так-жа палякаў і агулам усе падсавецкія “дэмакратыі”. Яшчэ ня меў магчымасьці гаварыць аб гэтым з Абрамчыкам, бо ён якраз цяпер у Мюнхэне.*

*Калі вырашыцца справа ўкраінцаў, дык трэба будзе выслаць некага ад нас у падрыхтоўчы сакратарыят. Ня ведаю, ці я змагу ўзяць на сябе яшчэ такі абавязак, бо і так маю працы хоць валіся, але, як на бяду, тут больш нікога няма.*

*Гледзячы на расейцаў, як яны падаюць цэлыя дзясяткі сваіх кандыдатаў з розных краінаў на будучы кангрэс, мне хацелася так-жа падаць і нашых людзей магчыма больш. Бачу, што ў гэтым выпадку мы сваею сьціпласьцю сабе можам пашкодзіць. На маю думку, варта падаць з дзесятак кандыдатаў з розных краінаў. Ці ведаеце Вы бліжэй Глыбіннага (Плашчынскага)*[247] *і ягоны адрас? Калі так, дык падайце мне на ўсякі выпадак ягоную адрэсу і адначасна Вашую думку аб ім. Здаецца, што ўжо аб Віцьбічу гаварыў Абрамчык, дык ня выпадае цяпер адклікаць ягоную кандыдатуру. Ягоную хваробу ведаю зь ягоных-жа лістоў*[248]*. Думаю, што тут неяк супольнымі сіламі пару дзён яго неяк-бы ўпільнавалі.*

*Адносна колькасьці рэфэратаў на той канфэрэнцыі, дык я казаў, што ад беларусаў будзе чатыры, а найменей тры рэфэраты»*[249].

*«Пасьля атрыманьня Вашага апошняга лісту ў справе арганізацыі зьезду пісьменьнікаў нічога пацяшаючага ня сталася, але выявіліся некаторыя факты, якія значна ўскладняюць усю справу, а на якія адразу чамусьці ня зьвернена ўвага:*

*Ініцыятыўная група пісьменьнікаў у праэкце складаецца з 10 чалавек, зь якіх 5 расейцаў і 5 нерасейцаў (2-х украінцаў і па аднаму беларус, армянін і грузін). У сакратарыят для падрыхтоўкі зьезду так-жа камбінавалі мець 2 расейцаў і 2 іншых; на маю катэгарычную адмову згадзіліся ўзяць 3 іншых, але цяпер практычна ўжо гэты сакратарыят зложаны ўсяго з 2 расейцаў і вядзе працу. Такім чынам, на вонках і ўнутрана гэта ўсё выглядае на чыста расейскую арганізацыю, у якой толькі для дэкарацыі хочуць узяць пару іншых нацыянальнасьцяў, каб гаварыць ад імя СССР. Словам, на мой пагляд гэта шопка горшая, чым бальшавіцкая «нацыянальная палітыка», і я асабіста маю намер катэгарычна адмовіцца ад удзелу. Украінцы яшчэ агулам да гэтага прадпрыемства ня выказалі*

---

247 Гарошка блытае: сапраўднае прозьвішча Глыбіннага — Сядура.

248 Маюцца на ўвазе Віцьбічавы стасункі з алькаголем.

249 Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 23.05.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

*свае згоды, і маю ад іх запэўненьне, што аб далейшых перагаворах будуць мяне інфармаваць.*

*Будзьце ласкавы, паведамеце аб гэтым усім Натальлю Арсеньневу.*

*Калі-б на гэтым справа ня спынілася, дык мой пагляд такі, што неабходна павялічыць лік нерасейскіх прадстаўнікоў у ініцыятыўнай групе прынамся да 10 чалавек і ўвесьці абсалютны парытэт у сакратарыяце.*

*Што да выбару між Віцьбічам і Сяднёвым, дык на мой пагляд акрамя засланьня трэба мець на ўвеце так-жа вонкавую рэпрэзэнтатыўнасьць, а гэта бяз сумніву ёсьць на баку Віцьбіча. Зразумела, што я ня маю нічога супраць Сяднёва і супраць таго, каб яны нават абодва былі на Кангрэсе і нават у ініцыятыўнай групе.*

*Калі-б сучасны стан падрыхтоўчых органаў да Кангрэсу ня быў змадыфікованы, дык я на найбліжэйшым паседжаньні прадстаўнікоў ад іншых групаў катэгарычна адмоўлюся ад далейшага ўдзелу, тое-ж зробяць і ўкраінцы. Вельмі Вас прашу паведаміць мяне, ці ў такім выпадку я буду мець нейкае права сказаць, што такая ёсьць пастава беларусаў агулам, ці гэта будзе толькі маё асабістае становішча?»*[250]

*«Амаль адначасна з Вашым апошнім лістом я атрымаў ліст ад арганізатараў зьезду пісьменьнікаў з-за зялезнае заслоны, што гэты зьезд адложаны. Калі-б нешта падобнае камбінавалі наладзіць у Нью Ёрку, дык уважайце на самым пачатку арганізацыі на паводзіны расейцаў: для іх думка дамінацыі над нерасейскімі народамі СССР ужо ня толькі прайшла ў косьці, што ніяк ня могуць вызбыцца жаданьня дамінацыі, і таму ўсякую маніфэстацыю, якую-б ні задумалі амэрыканцы, яны хочуць замяніць на маніфэстацыю гэтае дамінацыі»*[251].

Калі з Гарошкам-празаікам больш-менш зразумела, азначэньне *«хрысьціянскі»* — у дачыненьні мастацкай прозы — выклікае пытаньні. Гэта таму, што аўтар — сьвятар? Тады ці можна сказаць, што ўспаміны «Кітай — Сібір — Масква» Вінцука Адважнага больш хрысьціянскія за, прыкладам, Аляхновічавы «У кіпцюрох ГПУ», бо першыя напісаны айцом Язэпам Гэрмановічам? І ці не вынікае з гэтага, што Ўладзімер Жылка, напісаўшы «Альбігойца» й «Марту», мусіць быць залічаны ў антыхрысьціянскія альбо, прынамсі, «апакрыфічныя» паэты?! А таксама — ці ёсьць вузейшы

---

[250] Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 09.06.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

[251] Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 13.07.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

падзел: на празаікаў каталіцкіх, праваслаўных (у сваю чаргу — на аўтакефальных і «грэцкіх»), вуніятаў?

У наяўных энцыкляпэдыях не ўдалося адшукаць азначэньня «хрысьціянскага празаіка». Магчыма, лепш сказаць, што гэта пісьменьнік, які піша на хрысьціянскія тэмы, вызнае хрысьціянскія каштоўнасьці?

Зь якімі, што праўда, таксама далёка ня ўсё зразумела. Прыкладам, Васіль Трубчык, адказны рэдактар выдавецтва «Крыніца жыцьця» Саюзу ЕХБ у Беларусі, пералічвае іх у такім парадку: *«Такім чынам, найвышэйшая каштоўнасьць у хрысьціянстве — гэта Трыадзіны Бог. Гэтае перакананьне ў хрысьціянаў сфармаванае ня нейкім навукоўцам, асьветнікам ці багасловам, а Самім Ісусам Хрыстом. Другой каштоўнасьцю ёсьць Біблія або Слова Божае. Для хрысьціянаў — гэта безумоўны аўтарытэт. Іншымі словамі, усе свае дзеяньні хрысьціянін павінен правяраць на падставе пісьмовага паведамленьня, інсьпіраванага самім Богам праз Духа Сьвятога. І трэцяй каштоўнасьцю для хрысьціянаў ёсьць Царква. Гэта ня храм ці Малітоўны дом, а супольнасьць ці сход асобаў, якія вераць у Ісуса Хрыста»*[252] (заўсёды чамусьці думалася, што галоўныя каштоўнасьці, якім вучыць Біблія, гэта любоў, дабрыня, дараваньне).

Так ці інакш, але прасьцей узяць зборнік «Кветкі й церні жыцьця», дасюль ігнараваны дасьледнікамі эміграцыйнай прозы, і паглядзець, пра што й як у ім распавядаецца.

Назоў кнігі даволі празрысты — калі казаць пра царкоўную традыцыю (дастаткова згадаць хоць бы цярновы вянок[253]). Але тут ёсьць таксама адзін цікавы нюанс: аднаму зь першых аўтар даслаў сваю кнігу Юрку Віцьбічу[254], заснавальніку літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына» й аднайменнага часапісу, у дэклярацыі якога гаварылася наступнае:

*«Недзе над шпаркаю Дзьвіною, а можа над ціхаю Ясельдаю схілілася шыпшына. Восень абскубе зь яе лісьце, але нават зіма ня здолее абдзерці зь ейных галінак чырвоныя ягады. Нібы паходня, гарыць яна над закутай ракой. Увясну падмінае пад сябе шыпшыну крыгаход. І здаецца, як зьнікае паміж жорсткімі жорнамі зерне,*

---

252 Цыт. паводле: http://www.imhoclub.lv/ru/material/hristianskie_cennosti. Гл. таксама даклад Натальлі Васілевіч «Хрысьціянскія каштоўнасьці ў сучаснай Беларусі: праблема ідэнтычнасьці» тут: http://churchby.info/bel/140/.

253 *«і апранулі Яго ў пурпуру і, сплёўшы цярновы вянок, усклалі на Яго»* (Марк 15:17).

254 У лісьце да Юркі Віцьбіча ад 29.09.1967 а. Леў Гарошка паведамляў, што зборнік яшчэ друкуецца, а ўжо ў лісьце ад 16.12.1967 піша: *«Спадзяюся, Вы ўжо мусілі атрымаць кнігу Жмені»*.

*таксама зьнікне і яна паміж важкімі крыгамі. Але сплыве паводка, і гордая расьліна зноў выпроствае свой стан.*

*Хто адважыцца ўзяць шыпшыну голаруч, сотні дзідаў бароняць яе ад ворагаў. І нарэшце паміж дзідамі і лісьцем зьяўляюцца адна за аднэй чырвоныя кветкі. Яны нагадваюць сьвятую кроў тых суродзічаў, што аддалі ці аддадуць яе да апошняе кроплі за Беларускі Народ»*[255].

Аднаго факту раньняй дасылкі, зразумела, недастаткова для катэгарычнага цьверджаньня што да Гарошкавых думак, але сам факт падобнай паралелі цікавы, асабліва station становячы, пазытыўны сэнс церняў у такім кантэксьце.

Кніга, як сьцьвярджае ў прадмове аўтар, пісалася працяглы час[256]. Пад адным з апавяданьняў нават стаіць дата: *Наваградак 1935*. Таму зразумела, што сабраныя пад агульнай вокладкаю творы будуць розьніцца.

Алегарычных апавяданьняў, насуперак чаканьням, найменш. У самым паказальным, «Скала і выступ», Выступ захапляўся прыгажосьцю краявідаў у даліне й наракаў на свой лёс у вышыні, дзе няма нічога, апроч шуму ветру й рэдкага клёкату арла. І вось неяк узімку пад цяжарам лявіны Выступ адарваўся ад скалы й паляцеў разам зь ёю.

*«Скочваючыся ўніз, Выступ па дарозе разануўся з громам у другі вялікі выступ.*

*— Куды цябе нячыстая гоніць, шалёны! — адазваўся грозна зачэплены выступ.*

*— На волю! — гукнуў прывярэдлівы Выступ.*

*— На якую волю? Коціцца ўніз і толькі ўніз, што-ж гэта за воля? Каб ты паляцеў уверх ці на другую скалу, а гэты прэцца бязвольна ўніз, у балота за зьнішчальнаю лявінаю»*[257].

Натуральнае й для такога тыпу апавяданьняў заканчэньне: *«Калі апала паводка, ад калішняга Выступу не асталося й сьледу. А Скала й далей стаіць непахісна на сваім мейсцы, і яе шпіль усьцяж высіцца высока ў небе»*[258].

Большая ж частка апавяданьняў у зборніку, калі скарыстацца тэрмінам Шэлінга[259], наадварот — таўтэгарычныя, тоб-то якія трэба разумець літаральна.

---

[255] Шыпшына. Літаратурна-мастацкі часапіс. № 2. 1946. С. 46.

[256] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця. Зборнік апавяданьняў. Парыж, 1967. С. 5.

[257] Тамсама. С. 86.

[258] Тамсама. С. 87.

[259] Шеллинг, Фридрих. Сочинения в двух томах. Т. 2. Москва, 1989. С. 325.

Яны таксама неаднародныя й могуць быць падзеленыя, у сваю чаргу, на дзьве купкі. Першая зь іх характарызуецца падназваю аднаго з апавяданьняў — «У райваенкамаце»: сапраўдная падзея. Для гэтых апавяданьняў характэрная абмежаваная колькасьць герояў, а таксама дыялягічнасьць, як, напрыклад, у апавяданьні «Ля магільнае брамы», што сваёй ідэяй блізкае да «Сярэбранай табакеркі» Зьмітрака Бядулі:

*«— Ну ты, Рамане, мусіць, сёньня недзе ўпіўся; якія-ж гэта жарты са сьмерцю?*

*— Якія? Вось дзівак. Ты адно думаеш, што сьмерць кладзе ў дамавіну жыцьцё чалавека, а ня бачыш, што яна адначасна кладзе канец людзкому цярпеньню і адчыняе дарогу для новага жыцьця. — Сябры ішлі якраз алеяю, усланаю апаўшым лісьцем. — Во глянь пад ногі, колькі тут між гэтых апаўшых асеньніх лістоў паедзеных вусьнямі, пабітых градам, парваных ветрам. І вось цяпер апалі яны, згніюць, а на іх мейсца вясною дрэвы ўкрыюцца новым, сьвежым і прыгожым лісьцейкам. Або вось у тых магілах, колькі там калекаў, колькі пакрыўджаных, колькі зьняможаных, колькі друзлых старых, колькі розных хваравекіх? А каб-жа людзі даўжэй жылі, дык сьвет аж кішма кішэў-бы ад калекаў. А так вось спачываюць яны спакойна, а ім на зьмену прыйшлі новыя пакаленьні з юнацкімі сіламі, з анёльскаю красою, з імклівымі думкамі. А калі жыцьцё паломіць іхныя крыльлі, сьцьміць іхныя вочы, згорбіць іхныя стройныя постаці, як нас цяпер, дык што можа быць лепшае для нас, як пайсьці на вечны супачын?*

*— Хораша ты гаворыш, Рамане, добра слухаць такую гутарку, але калі-б гэта адносілася толькі да іншых, дык тады пэўна-ж дамавіну можна размаляваць прыгажэй за ўсякія палацы, але калі самому ў гэтую дамавіну легчы трэба, дык тады, нябось, скажаш: Хораша ў найме, ды ня дай Бог мне.*

*— Яно ня зусім так, бо я ўжо лепш скажу: Што будзе ўсяму сьвету, тое й бабінаму сыну, і пайду сабе сьледам за дзедам.*

*— Ну ў цябе-ж сёньня й настрой, усёроўна не як на магільнік ідзеш, а на якое вясельле.*

*— Магільнік магільнікам, а праўда праўдаю, і калі гэтая праўда для мяне ня страшная, дык чаго я маю маркоціцца»*[260].

Дарэчы, творчасьць Зьмітрака Бядулі была, выглядае, асабліва блізкай Гарошку. У яшчэ адным апавяданьні — *сапраўднай падзеі* («Першая малітва») неназваны пісьменьнік расказвае настаўніцы пра сваё першае асэнсаваньне прысутнасьці Бога, і тая пытае ў яго:

*«— А вы часам ня сьвіснулі, як малы Габрусік Зьмітрака Бядулі? — голасна заўважыла настаўніца.*

[260] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця… С. 104–105.

*— Ды не, я такі сапраўды пачаў сьпяваць — прадаўжаў спакойна сваё апавяданьне пісьменьнік — але пасьля таго я перакананы, што апавяданьне Зьмітрака Бядулі “Малітва малога Габрусіка” гэта ня выдумка аўтара, але сапраўдная падзея»*[261].

Рэшта апавяданьняў, а іх пераважная большасьць, належыць да так званай каляндарнай літаратуры. Створаныя Дыкенсам апавяданьні *«Christmas carol in prose»* у Расеі набылі папулярнасьць як *«пасхальные»*. У беларускай літаратуры аўтарскі, не калектыўны зборнік айца Гарошкі хіба адзіны такі (хоць магу памыліцца). Паспрабую акрэсьліць найбольш характэрныя рысы.

Сюжэт апавяданьняў разгортваецца напярэдадні або на самое царкоўнае сьвята; у зборніку гэта Куцьця, Вадохрышча, Каляды. Зьвязанага зь Вялікаднём няма ніводнага сюжэту, таму, напэўна, правамоцна аднесьці Гарошкавы апавяданьні да ангельскай, заходняй традыцыі, а не расейскай — пасхальнай.

Галоўны герой ці гераіня, паводле законаў жанру, мусіць перажываць глыбокі крызіс, матэрыяльны ці духовы. Так, Зьмітра й ягоную жонку вось-вось заб’юць рабаўнікі («Брат спасіцель»); Нупрэй на мянушку Жмінда зьбіў да паўсьмерці суседа Сьцяпана, але праз згрызоты сумленьня пачынае паміраць сам («Сумленьне загаварыла»); Дзяман, ненавісьнік сабакаў, выправіўшыся ў Мір, усю дарогу адганяе, палкамі ды каменьнямі, прысталага да яго Лыску — аж покуль не перастракае злодзея, які пачынае душыць яго й адбіраць грошы («Неспадзеўка»); Ганулька пасьля сьмерці маці засталася сіратою й, выпраўленая да цёткі, замярзае ў зімовым лесе («Сірата пад крыжам») і г. д.

Ратуе герояў цуд, але цуд побытавы, ня казачны, мо нават простая выпадковасьць, зьбег акалічнасьцяў. Той, пра які Бэрнард Шоў сказаў: *«Цуд — гэта немагчымая рэч, якая, разам з тым, магчымая. Штосьці, што ніколі ня можа здарыцца, і разам з тым, здараецца»* («Назад да Мафусаіла»)[262]. Зьмітра ратуе брат, які адчуў неспакой і прыбег да яго ў хату; Нупрэй прыходзіць прасіць даравання, атрымоўвае яго й выздароўлівае; Дзямана ад злодзея ратуе Лыска.

Ганулька ў лесе выходзіць да крыжа.

*«Расьпяцьце яна бачыла няма ведама колькі разоў, бо-ж у іх хаце на покуці быў такі абраз, але тут Хрыстос выдаўся ёй не такі, як на абразох. Ён тут быў быццам жывы і такі спагадлівы, такі блізкі, што яна пачала па-дзіцячаму выказваць перад Ім свае турботы і жаль.*

---

[261] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця… С. 148.

[262] *«A miracle is an impossible thing that is nevertheless possible. Something that never could happen, and yet does happen»* («Back to Methuselah»).

*— Я ў Сьветавічы да цёткі йду, але далей ня ведаю дарогі. Мне вельмі холадна і я яшчэ сягоньня нічога ня ела. У мяне ўжо няма ні таткі, ні мамкі...*

*Моцны парыў ветру перабіў яе гутарку. Яна спрабавала прытуліцца да куста, але там ня было ніякага зацішша.*

*— Божанька, мне холадна.*

*Тут яна прыглянулася ўважней да Ўкрыжаванага і змоўкла. Пасьля хвіліны задумы гаварыла сама да сябе:*

*— Але як-жа мусіць быць холадна Хрысту. На мне дык і сарочка, і плаце, і сярмяжка, а ў Яго няма нічога, акрамя хвартушка на паясьніцы.*

*Адубейшымі рукамі яна пачала расшпільваць сярмяжку, скінула яе і пачала ўзлазіць на крыж. [...]*

*Крыж быў завысокі для Ганулькі, і рукі адубелыя, дык узьлезьці на крыж не змагла. Але глянуўшы на куст, яна пабачыла, што адтуль зусім блізка да правае рукі Хрыста. Праз хвіліну яна ўжо была на кусьце і трымалася за перакладзіну крыжа адною рукою, а другою закінула сваю сярмяжку проста на галаву Хрыста. З радасьці, што ўдачна выканала сваю задуму, яна саскочыла з куста пад крыж і проста села ў сьнег»*[263].

Па дарозе праяжджалі сані, але ніхто не зьвяртаў на сіротку ўвагі. Толькі празь нейкі час яна пабачыла чалавека, які зьвярнуўся да яе й запытаў, чаму яна адна й распранутая. Ганулька адказала.

*«— Хрысту сярмяжку аддала... — паўтарыў ціха падарожны, гледзячы на крыж, — а сама... На, патрымай мой кастыль, — зьвярнуўся ён да Ганулькі.*

*Яе адубелыя рукі ледва маглі трымаць кастыль. Падарожны пачаў хутка распранацца. Ён скінуў свой халат і перадаў яго Ганульцы.*

*— На, апранайся хутчэй!*

*— А як-жа вы будзеце неапраненыя, вам-жа будзе халодна.*

*— Апранайся, апранайся хутчэй... — Ён памог ён зашпіліць гузікі і расьцёр яе адубелыя рукі. — Аба мне ня турбуйся. Падбяры крыху крысы халата, каб не цягнуліся па сьнезе, ды йдзі са мной. У мяне ў хаце яшчэ знойдуцца сякія такія лахі і лыжка цёплае стравы...»*[264]

Для твораў гэтага жанру абавязковы дыдактызм, часцей за ўсё менавіта ім заканчваецца апавяданьне: *«Праўду кажуць старыя людзі: якое жыцьцё, такая й сьмерць. З чыстым сумленьнем абое яны нават і перад сьмерцю маглі ўсьміхацца і спакойна пайшлі перад аблічча Ўсявышняга»* («Людзі з чыстым сумленьнем»[265]);

---

[263] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця... С. 107–108.
[264] Тамсама. С. 109.
[265] Тамсама. С. 130.

*«За дзьвярыма цяжка разрозьніць ворага ад найлепшага прыяцеля»* («Нэрвы ня вытрымалі»)[266]; *«Людзкая кроў ніколі марна ня гіне»* («Людзкая кроў ня гіне марна»)[267].

Найчасьцей творы гэтага жанру — апавяданьні, але ня толькі, што й засьведчыў зборнік Гарошкі: тут зьмешчаная аповесьць «Няведамыя шляхі» — пра выхад у людзі, пра здабыцьцё навукі пастушком Андрэйкам, і галоўная ідэя (той самы дыдактызм) выказаная на самым пачатку: *«А ці дасьцё веры, вы жэўжыкі, што часам дарога да шчасьця йдзе праз бяду й гора*?*»*[268], падкрэсьліваючы тым самым, што церні з загалоўку ня толькі непазьбежныя, але мо й неабходныя ў пошуках лепшага жыцьця. Як у шыпшыны.

Зборнік пісьменьніка Анатоля Жмені — айца Лява Гарошкі — цікавы ўзор жанру, рэдкага ў беларускай літаратуры. Зрэшты, традыцыя адраджаецца.

---

[266] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця… С. 138.
[267] Тамсама. С. 142.
[268] Тамсама. С. 153.

# ШТО ХАВАЕ «ТАБАКЕРКА»

> Чую шорхат лапат… Гэта бібліятэкары-далакопы хаваюць мае кнігі на спэцыяльных паліцах-могілках.
>
> *Зьмітрок Бядуля,*
> *«Сярэбраная табакерка»*

Як часам цікава складваецца ў нашай гісторыі літаратуры з асобнымі творамі. І як незаўважна гэта паўз нас мінае.

Апошні твор Зьмітрака Бядулі «Сярэбраная табакерка» (далей — СТ) быў напісаны, ці, дакладней, скончаны, калі верыць датаваньню пад рукапісам, што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у 1940 г. Урыўкі з казкі друкаваліся ў газэтах таго ж 1940 г., але цалкам яе апублікавалі адно ў 1953 г.[269] Аўтар гэтага не пабачыў, бо памёр у лістападзе 1941 г.

Апошні драматургічны твор, «Круці не круці — трэба памярці», *«сцэнічны гратэск у шасьці абразках з пралогам»*, Францішак Аляхновіч зьмясьціў на старонках «Новага шляху» ў 1943 г.[270]; налета выйшла асобнае выданьне, якое ён, магчыма, і не патрымаў у руках: пра брашурку з тэкстам п’есы «Беларуская газэта» паведаміла 31 траўня 1944 г., а 3 сакавіка драматурга забілі ў ягонай кватэры.

От жа калі Бядуля дакладна ня мог прачытаць п’ескі Аляхновіча, дык віляньчук — тэарэтычна — абсалютна быў у стане пазнаёміцца з урыўкамі казкі, бо савецкія газэты ў беларускую Мэкку дастаўляліся больш-менш спраўна. Шкада толькі, што праз неўкамплектаванасьць беларускіх пэрыёдыкаў таго часу ў амэрыканскіх бібліятэках немагчыма спраўдзіць, якія менавіта кавалкі былі выдрукаваныя.

Што яднае згаданыя творы, за выняткам трагічнага падабенства ў лёсе аўтараў, ды які іх зьмест, пераказваць ня буду: і так забагата ў нашым літаратуразнаўстве шматстаронкавага пераказу. То лепш паглядзім, што сказалі пра казку й п’есу прафэсіяналы.

Мой калега з асьпірантуры ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі Уладзімер Ковель пісаў пра п’есу свайго паддасьледаванага — Аляхновіча: *«Драматург нібы размывае водападзел*

---

[269] Полымя. № 10. 1953.

[270] Новы шлях. 1943. № 17–24.

*паміж дабром і злом, фіксуе тую каштоўную нявызначанасць, якая ўзнікае са стратай чалавекам маральных арыенціраў. П'янства — адна з пастаянных адмоўных велічынь, характарызуючых жыццё народа. Нездарма адну са сваіх п'ес на гэтую тэму М. Гарэцкі назваў "Атрута". Ад "атручанага" мужыка нячыстая сіла дазнаецца, што той запрадаў Смерць алхіміку-доктару, які і хавае яе. Нячысцікі падымаюць людзей на бунт супраць жыцця ўвогуле, але за жыццё ўласнае, меркантыльнае. У сваёй антычалавечай салідарнасці аб'ядноўваюцца далакоп і сталяр, шляхціцы, поп і ксёндз і г. д. Драматург праводзіць думку, што ў жыцці людзі часта кіруюцца не розумам (што можа быць больш неразумным, чым вызваленне Смерці?!), а мімалётнымі парываннямі, жаданнямі, безгрунтоўнымі мроямі*»[271].

Пакінем па-за ўвагаю нечаканае антыалькагольнае прачытаньне ды «антычалавечы» бунт фактычна ўсіх герояў п'есы (хто ж тады тое чалавецтва, супраць якога ўзьняліся? адзін Альхэмік?[272]) і

---

[271] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 1. 1901–1920. Мінск, 1999. С. 356–357.

[272] Хоць гэта стаіць трохі ўбаку ад схаванага ў табакерцы, не магу прамінуць і ня даць чытачу на параўнаньне два перадсьмяротныя дыялёгі. Першы — Альхэміка з гратэску: *«Чакайце!.. Дайце сказаць!.. Людзі! Чакайце, паслухайце мяне! Я шчасьце вам хачу даць, я Сьмерць трымаю ў няволі, яна ня вырвецца ніколі!..*

*Чартоўская сяброўка, Люцыпарава сваячка, наш вораг найвялікшы, праклятая душагубка — Сьмерць — у маіх руках!.. Яе ня выпушчу на сьвет праз тысячу гадоў і болей!.. Ужо ня вырвецца ніколі з маіх рук!..*

*Я — ваш друг, я — ваш брат, даю вам вечнае жыцьцё... Я несьмяротнасьць вам даю!.. Ці разумееце вы гэта? Ці можаце вы ўцяміць гэта?! Маёй перш-наперш было мэтай, каб эліксыр знайсьці жыцьця... Гадоў шмат гэтак мучыўся... Навукі ўсе як сьлед пазнаў... Сваіх я сіл не шкадаваў, каб ашчасьлівіць род людзкі...*

*Пашанцавала мне ў жыцьці, бо Сьмерць лёс добры ў рукі даў, дык крэпка я яе схаваў, каб вам даць вечнае жыцьцё, каб несьмяротнымі зрабіць...*

*За гэта славы не шукаў і непатрэбны грошы мне, даволі сьведамасьці гэтай, што думкі зьдзейсьніліcь мае!*

*Чаго вам трэба ад мяне? Ці ашалелі вы тут усе? Чаму праклёны на маю, маю сівую галаву так кідаеце легкадумна?.. Эх, людзі неразумныя! Вы самі ня ведаеце, што робіце!»*

І дыялёг іншага доктара, што вывучыў і філязофію, і права, і тэалёгію, і мэдыцыну:

> *Ня скорана пагібельная багна,*
> *На плён, здабыты мною, зеўрыць прагна,*

паглядзім, што пісаў старэйшы калега, прафэсіянал-тэатразнаўца Анатоль Сабалеўскі… Зрэшты, зацытаваць асабліва няма чаго, акром, хіба, наступнага: *«Асноўная праблема п’есы — жыццё і смерць — пераважна вырашаецца ў філасофскім плане, без асаблівай канкрэтызацыі побыту і каларытных рэальных дэталяў, якія ўласцівы большасці твораў Ф. Аляхновіча»*[273].

Дзеля аб’ектыўнасьці трэба нагадаць, што творчасьць Францішка Аляхновіча — параўнальна новая тэма для беларускага літаратуразнаўства, была вернутая й дазволеная да разгляду й ацэнак усяго толькі ў 1990-х гг. і ад таго часу займела нават манаграфічны досьлед, які, што праўда, цытаваць ня хочацца[274].

---

*Ды я падступную стыхію змушу*
*Аддаць захопленую сушу*
*Мільёнам рупных пасялян.*
*Няхай пагрозай вечнай калыхацца*
*Ля дамбы будзе грозны акіян,*
*Свабодны люд і радасная праца*
*Шчасьлівым зробяць гэты ўбогі край,*
*І на зямлі яны здабудуць рай.*
*Няхай разьюшаны марскі прыбой*
*Аб дамбу хвошча, люта б’е —*
*Народ зьяднанаю сям’ёй*
*Стыхію грозную скуе.*
*На запавет мой гэты скіраваны*
*Усе мае зямныя справы, пляны,*
*Увесь цялесны і духоўны гарт.*
*Дык вось канечны вынік мудрасьці людской,*
*Што толькі той жыцьця і волі варт,*
*Хто кожны дзень за іх ідзе на бой.*
*Хай так жыве стары і малады.*
*Калі б у працы ўбачыў я заўсёднай*
*Народ свабодны на зямлі свабоднай,*
*Імгненна б я сказаў тады:*
*«Цудоўнае, спыніся! — панясу*
*З сабой у вечнасьць я тваю красу».*
*Ня можа ў вечнасьці прапасьці*
*Усё, што я пасьпеў зрабіць для шчасьця.*
*Я, прадчуваючы трыюмф надзей маіх,*
*Жыцьця перажываю лепшы міг.*

[273] Сабалеўскі, Анатоль. Драма жыцця // Францішак Аляхновіч. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 19.

[274] Няфёд, Уладзімір. Францішак Аляхновіч: тэатральная і грамадскапалітычная дзейнасць. Мінск, 1996. — 144 с.

Зусім іншая справа — Зьмітрок Бядуля, клясык, чыё імя заўсёды стаіць у адным шэрагу з імёнамі Купалы, Коласа, Багдановіча, а пасьля прабачэньня й дараваньня — і Гарэцкага ды Гаруна. Праўда, размова пра Бядулю рэдка самастойна выходзіць за межы гэтага пераліку, і складана сказаць, што менавіта замінае больш зацікаўленаму пагляду на ягоную творчасьць ці на творчасьць — назаву першае імя, што прыйшло ў галаву, — Юлія Таўбіна, таксама паэта «з шэрагу», але далёка не шараговага паэта; застаецца тым часам толькі канстатаваць сам факт.

Гэткае незразумелае стаўленьне да твораў ці постаці Бядулі характэрнае ня толькі для мэтраполіі, але й для дыяспары. На эміграцыі падрыхтавалі шыкоўныя салідныя выданьні Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, выйшлі важныя й важкія творы Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага, Уладзімера Жылкі, Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгі. Перадрукоўвалі й памнажалі ня ў самыя спрыяльныя часы ў лягерах Ды-Пі зборнікі Ўладзімера Дубоўкі й Язэпа Пушчы.

Публікацыі ж Бядулевых твораў, як і пра яго, льга пералічыць на пальцах абедзьвюх рук. З спадчыны пісьменьніка былі надрукаваныя — у газэтах, ня кнігаю: «Малітва малога Габрусіка»[275]; «Салавей»[276]; «Волат»[277]. З публікацыяў пра яго можна толькі назваць успамін Коласавага брата Міхася Міцкевіча «Вольная Беларусь» і ейныя супрацоўнікі»[278]; М. Гайніча (нерасшыфраваны псэўданім) «Зьмітрок Бядуля (23.04.1886–3.11.1941)»[279]; непадпісаны, але, без сумніву, аўтарства Антона Адамовіча «Ясакар-Бядуля на пазыцыях «нутраное эміграцыі». [З радыёвай хвалі «Свабоды»]»[280] ды Станіслава Станкевіча «Зьмітрок Бядуля-Ясакар»[281].

(Праўда, на календары 1953 г., выдадзеным у Кліўлэндзе, партрэт Зьмітрака Бядулі прысутнічае — побач з партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Максіма Багдановіча, Язэпа Пушчы і Ўладзімера Дубоўкі).

---

[275] Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 3.

[276] Бацькаўшчына. № 47–48 (329–330). 25 лістапада 1956. С. 4–6; № 49 (331). 2 сьнежаня 1956. С. 2–3; № 51–52 (333–334). Каталіцкія Каляды 1956. С. 5–7; № 1–2 (335–336). 7 студзеня 1957. С. 3–6; № 3 (337). 20 студзеня 1957. С. 2–3; № 4 (338). 27 студзеня 1957. С. 2–3.

[277] Беларус. № 71. Лістапад 1961. С. 3.

[278] Беларус. № 59. 10 сакавіка 1957. С. 4–6.

[279] Беларус. № 71. Лістапад 1961. С. 3.

[280] Бацькаўшчына. № 3 (603). 25 сакавіка 1963. С. 4.

[281] Беларус. № 110. Травень 1966. С. 3.

Шмат зрабіла Вера Рыч, пераклаўшы нізку Бядулевых вершаў[282] ды прысьвяціўшы ягонай прозе колькі старонак у кнізе пра вобраз габрэя ў беларускай літаратуры[283].

Калі б той Станіслаў Станкевіч рыхтаваў Бядулевы творы ў сваёй «Бацькаўшчыне», ён бы прымусіў напісаць добры ўступны артыкул-успамін Антона Адамовіча, і шмат якія б сакрэты ды таямніцы прыадчыніліся.

Праўда, Вітаўт Кіпель згадвае[284], што творчасьцю Бядулі захапляўся Вітаўт Тумаш; ён зьбіраў матэрыялы, марыў выдаць кнігу[285]. Але гэтаму супраціўіўся акурат Адамовіч, які адмоўна ставіўся і да Тумашавай ідэі, і наогул да Бядулевых твораў, а мо й да самога пісьменьніка. Магчыма, прычынаю было нешта асабістае, з часоў «Узвышша»; цяперака папытаць ужо няма ў каго.

З разглядам СТ Бядулевай спадчыне пашанцавала найменш: жанр, пазначаны аўтарам як казка, вывеў яе з-пад увагі літаратуразнаўцаў як штосьці няздольнае стаяць побач зь «Язэпам Крушынскім», «Салаўём», «Пяцьцю лыжкамі заціркі» ці хоць бы аўтабіяграфічнай аповесьцю «У дрымучых лясах».

У СТ губляецца мяжа тропу й жанру — мэтафары й казкі: не адрозьніваеш чалавека ад зайцоў, сарок, іншай жывёлы, не заўважаеш пераходу ад звыклай нам рэчаіснасьці да фантастычнага сьвету казкі. І от атрымоўваецца, што зайцу ўласьцівыя рысы чалавека, а чалавеку — характар зайца. Адным словам, *«на прыкладзе аб козах і розных стракозах яны паказваюць жыццё. Яны паказваюць жыццё дзе хочаш і як хочаш»*[286].

---

[282] Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day. London, 1971. — 347 p.; The images swarm free: bi-lingual selection of poetry by Maksim Bahdanovič, Aleś Harun and Źmitrok Biadula. London: The Anglo-Byelorussian Society, 1982. — 135 p.

[283] Blum, Jakub. Rich, Vera. The Image of the Jew in Soviet Literature. London — New York, 1984. — 256 p.

[284] Вуснае паведамленьне Вітаўта Кіпеля ад 23.07.2011.

[285] Зь ліста Вітаўта Тумаша да Аўгена Каханоўскага ад 07.12.1954: *«Зьмітрок Бядуля — у мяне асабіста ёсьць “Збор твораў” у 4 тамох выданьня 1951–1953 гадоў. Гэта фактычна ня “збор” твораў, а толькі выбар, і выбар вельмі няпоўны. Там перадрукаваныя раманы “Салавей” і “Язэп Крушынскі”. Ёсьць ягоныя кнігі і ў тутэйшай Ляйбрары: і абодва раманы, і “Апавяданьні”, “На зачараваных гонях”, “Дэлегатка”, “Буралом”, “Нязвычайная гісторыя”, “Паэмы” (1927), “Выбраныя творы” і інш.».*

[286] Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5. Мінск, 1989. С. 339.

Казцы ў прысьвечаных творчасьці Бядулі працах аддаецца апошняе месца: ня толькі як апошняму твору пісьменьніка, але й па колькасьці прысьвечаных ёй старонак і думак[287].

Міхась Клімковіч лічыць, што СТ *«накіравана супраць «памоцнікаў смерці» — капіталістаў, папоў»*[288].

Міхась Смолкін пачынае быццам ісьці ў шматабяцальным напрамку (*«Казка Бядулі паставіла пытанне інакш: а што, калі паспрабаваць схапіць смерць і схаваць яе ад чалавека? Што будзе, калі людзі адчуюць сябе неўміручымі?»*[289]), але ня можа адказаць, чаму ж людзі й бязь сьмерці не пачуваліся шчасьлівымі, і піша: *«Пісьменьнік напоўніў казку грамадскім, сацыяльным зместам. У ёй, побач са звярамі і птахамі, дзейнічаюць людзі (скамарохі, аптэкар Савіцкі, каваль Ксаверый, Люсенька, кардынал Баніфацый, папа Пій X і інш.). Усе яны дзеляцца на два варожыя лагеры: прадстаўнікі народа, простыя людзі (да іх адносіцца і заяц па прозвішчу Дзіда-дзе), якія затыкаюць смерць у цёмную табакерку; ворагі народа — яны хочуць выпусціць смерць, бо без смерці няма войнаў, а без войнаў няма жыцця пануючым класам»*[290].

Для Валянціны Лашкевіч СТ — *«гэта твор пра гуманізм і інтэрнацыяналізм»*[291], а таксама *«пра заўтрашні дзень навукі»*[292].

Вось Івану Навуменку *«думаецца, у аповесці ў завуаліраванай форме адлюстраваны сталінскі дэспатызм, жорсткія, бесчалавечныя рэпрэсіі 1937–1938 гг.»*[293]. Гэтым ён тлумачыць факт, што пры жыцьці аўтара твор ня быў выдрукаваны цалкам.

Акадэмічны аўтар не паразважаў добра ці хоць бы па-школярску не падрахаваў, што казка, скончаная ў 1940 г., ня мела шанцаў пабачыць сьвет да лістапада 1941 г.: ніякі тагачасны Логвінаў не пасьпеў бы, нават каб не замінаў яму такі малазначны побытавы факт, як Другая сусьветная вайна.

---

[287] У том з «залатой бібліятэкі», выдаванай «Кнігазборам», казка нават не была ўключаная (Бядуля, Змітрок. Выбраныя творы. Мінск, 2006. — 496 с.).

[288] Клімковіч, Міхась. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1962. С. 115.

[289] Смолкін, Міхаіл. Змітрок Бядуля. Мінск, 1961. С. 205.

[290] Тамсама.

[291] Лашкевіч, Валянціна. Змітрок Бядуля — дзецям. Мінск, 1986. С. 60.

[292] Тамсама. С. 61.

[293] Навуменка, Іван. Змітрок Бядуля. Мінск, 1995. С. 129. Гэтую думку ён паўторыць праз чатыры гады ў «Гісторыі беларускай літаратуры» ў разьдзеле пра Бядулю, напісаным пры дапамозе нажніцаў і клею.

І забыўся таксама Навуменка, а мо хутчэй за ўсё й ня ведаў, што тры перадваенныя гады, калі адбылася замена Яжова на Бэрыю ў 1938 г. (так званая малая адліга) і вяртаньне двух мільёнаў з «сталінскай акадэміі», былі параўнальна спрыяльным часам у літаратурным ды й наогул культурным жыцьці СССР.

Да таго ж, як сьведчыць выяўлены архівістам Віталём Скалабанам дакумэнт, СТ была аддадзеная на рэцэнзію й выклікала закіды й нараканьні зусім іншага пляну[294].

Ня згадваў зусім СТ Антон Адамовіч, але менавіта яму належаць самыя цікавыя ў нашым літаратуразнаўстве зьвесткі й думкі пра Бядулю.

У сваёй працы «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры» Адамовіч піша, што Бядуля *«ішоў тым самым шляхам літаратурнай нутраной эміграцыі, што й Янка Купала, і Якуб Колас»*[295], а творчы мэтад пісьменьніка акрэсьліў як *«мэтад “гістарычнага пераапрананьня” ўлучэньнем партрэтаў сваіх сучасьнікаў пад выглядам гістарычных асобаў (як у roman á clef — “рамане з ключом”)»*[296], і Бядуля называе — распранае — прататыпаў[297].

Той самы мэтад скарыстаны Бядулем і ў другой кнізе «Язэпа Крушынскага», дзе ён гратэскава малюе Шчылу (Міколу Шылу), Гамоньку (Язэпа Мамоньку), Саколіча (Аркадзя Смоліча), Гарунову (Палуту Бадунову), Кахарку (Васіля Захарку), «лейб-крытыка» Максіма Гайдача (Міхася Гарэцкага), «худую, сінявокую, юрлівую» княгіню Радзівіл. Пра Лявона Зайца, сябру Рады Першага Ўсебеларускага кангрэсу, дзяржаўнага кантралёра ва ўрадзе БНР, казаў вуснамі пані Марыі: *«А Лявончыка ведаеце? Спрытненькі, чорненькі, у марцічынках»*.

Відаць, у 1950-х, калі выдаваўся чатырохтамовы збор твораў Бядулі, усё было яшчэ настолькі пазнавальным для дасьведчаных[298], што рэдакцыйная калегія мусіла зазначыць: *«Пісьменнік імкнуўся як мага дакладней выкрыць злачынствы зусім канкрэтных ворагаў. Адсюль наяўнасць у кнізе публіцыстычных мясцін, якія мелі цікавасць на той момант, калі адбывалася само выкрыццё таго ці іншага нацыянальнага дзеяча, злоўленага з палічным. Такая публіцыстыч-*

---

[294] Рублевская, Людмила. Скалабан, Виталь. Время и бремя архивов и имен. Минск, 2009. С. 96–101.

[295] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускай літаратуры. Менск, 2005. С. 820.

[296] Тамсама. С. 881.

[297] Тамсама.

[298] Магчыма, гэта быў Міхась Клімковіч. Ягоныя калегі з рэдкалегіі, А. Семяновіч і У. Карпаў, былі значна маладзейшыя.

*насць не магла доўга жыць у мастацкім творы. […] Рэдакцыйная калегія палічыла неабходным апусціць некаторыя месцы з падобнай публіцыстыкай, са спасылкамі на творы і дакументы, якія на сённяшні дзень не прадстаўляюць ніякай цікавасці чытачам і будуць толькі псаваць уражанне ад мастацкага твора»*[299].

Лягічна дапусьціць, што і ў СТ скарыстаны такі самы мэтад, і слушна піша Зоя Мельнікава, што гэта твор-загадка, своесаблівы твор-код[300]. Але замест разгадкі: *«Многія эпізоды твора надзвычай сугучны эпосе масавых рэпрэсій. Яны — не проста вольнае фантазіраванне аб спосабах масавага ўсыплення чалавецтва і духоўнага знішчэння людзей. Яны — трапнае мастацкае люстэрка беларускага жыцця канца 30-х гадоў»*[301]. Цалкам верагодна, што яно сапраўды так, але якраз гэты пласт — навідавоку й не патрабуе дэшыфрацыі.

Дык як расшыфроўваць СТ, калі код невядомы?

Патлумачу, што маю на ўвазе.

Напрыклад, адна з варагінь Дзіды-дзеда — пані Сарачынская. Чаму менавіта так назваў яе Бядуля? Проста ў сугуччы з сарокаю? А можа, аўтар меў на ўвазе сарачынскі капялюш[302], як часам называлі шапку Манамаха — сымбаль расейскай улады? І тады вобраз сарокі ўспрымаецца зусім па-іншаму, ці ня так?

Хутчэй за ўсё, былі рэальныя прататыпы і ў кардынала Баніфацыя (*«худы даўганосы чалавек»*[303]), і ў хірурга (*«высокі чарнявы заіка»*[304]), ды шмат у каго, але вылічыць іх сёньня ўяўляецца малаверагодным, хіба — з прыпадковым шанцаваньнем.

Затое бадай не выклікае сумненьняў прататып вобразу кучаравага паэты, цара скамарохаў — на маю думку, адзін з цэнтральных, а мо й найгалоўнейшых герояў у СТ: гэта сам Бядуля: *«У маладога чалавека была густая кучма валос, мройныя вочы незвычайнага колеру, далікатныя рукі з доўгімі пальцамі»*[305].

---

[299] Бядуля, Змітрок. Збор твораў у чатырох тамах. Мінск, 1951–1953.

[300] Мельнікава, Зоя. Беларускае гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства. Брэст, 2003. С. 239.

[301] Тамсама.

[302] Гл. пушкінскае з поўнай вэрсыі «Казкі пра рыбака і рыбку»:
*«Перед ним вавилонская башня.*
*На самой на верхней на макушке*
*Сидит его старая старуха.*
*На старухе сарачинская шапка,*
*На шапке венец латынский,*
*На венце тонкая спица,*
*На спице Строфилус птица».*

[303] Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5. Мінск, 1989. С. 313.

[304] Тамсама. С. 321.

[305] Тамсама. С. 332.

Менавіта такім паўстае аўтар ва ўспамінах: *«з пышнай густой шавялюрай, яго кучаравыя валасы былі быццам толькі што пасля завіўкі»*[306], *«валасы ў Бядулі былі цёмныя, кучаравыя, па іх плылі то дробныя, то буйныя хвалі, і гэта дадавала яго абліччу паэтычнай натхнёнасці»*[307], *«штосьці дэманічнае было ў яго абліччы з кучаравымі валасамі, вялікімі вачыма і губамі»*[308].

Віктар Каваленка лічыў СТ алегарычнаю казкаю з выразнаю фальклёрна-вобразнаю сыстэмаю[309]. Мне ж думаецца, што СТ — ня казка, а апокрыф; жанр, падказаны, магчыма, назвай твору заўчасна памерлага блізкага сябры Бядулі, твору, дзе ёсьць наступныя радкі: *«3. І хадзіў Ён па Забраным Краі: і па Занёманшчыне, і па Задзьвіншчыне, і па Бярэзінскай зямлі. 4. І разам зь ім сьвяты Пётра й сьвяты Юр'я. Але ніхто зь людзей не пазнаваў Яго»*[310].

У СТ пайшоў вандраваць па сьвеце й Дзіда-дзед, а *«Саўка і Юрка таксама далі згоду не пакідаць яго»*[311], і кучаравы паэт, супляменьнік Ісусавы, цар скамарохаў з сваім народам — *«назіраць, як неўміручыя людзі будуць шыць свой вечны бот жыцця»*[312].

У гэткім вандраваньні, па начох, калі падданыя кладліся спаць, кучаравы паэт пісаў скамарошныя п'есы. І напісаў п'есу, лёгкую ды маленькую, пра паланеньне сьмерці, бо *«прыходзілася напамінаць пра Смерць, каб больш шанаваць жыццё»*[313].

Тэксту п'есы ў СТ, як вядома, няма, але ці не напісаў яе замест Бядулі Аляхновіч, які ўжо меў у нечым падобны досьвед — з Купалаваю «Паўлінкаю»? «Круці не круці…» па сваім жанры якраз надаецца да скамарошнага відовішча. І там сапраўды прысутнічаюць непрыхаваныя намёкі на Сталіна:

*«Люцыпар: Усе нячысцікі сюды! Ведзьмы! Чэрці! Упыры!*

*Я — Люцыпар, — я ваш пан, ваш вучыцель, ваш вялікі, наймудрэйшы, найяснейшы, геніяльны, найсвяцейшы, усемагутны, неабмыльны, гаспадар ваш, старшыня — адчыняю гэты сход. […]*

*1-шы Чорт: Наш вучыцель! Наш вялікі! Родны бацька наймілейшы! Наймудрэйшы. Найсвяцейшы! Геніяльны! Незраўнальны! Правадыр наш! Наша сонца! К свету яснаму аконца! Усемагутны!*

---

[306] Успаміны пра Змітрака Бядулю. Мінск, 1988. С. 15.

[307] Тамсама. С. 41.

[308] Тамсама. С. 128.

[309] Каваленка, Віктар. Пошукі і здзяйсненні. Творчасць Змітрака Бядулі. Мінск, 1963. С. 206.

[310] Багдановіч, Максім. Вянок паэтычнай спадчыны. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1960. С. 234.

[311] Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 312.

[312] Тамсама. С. 336.

[313] Тамсама. С. 339.

*Неабмыльны! Над чартамі найвышэйшы! Найдужэйшы гаспадар! Прашу слова, наш ўладар!»*[314]

І ставіў сваю п'есу кучаравы паэт, цар скамарохаў, і ішлі ўсе далей. І ўся казка-апокрыф натуральна падводзіць падрыхтаванага чытача да паэтавае прапановы самому зрабіцца богам, а ўсім астатнім — анёламі (якая спакуса тут правесьці паралель з «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»!). І ня гэтулькі істотныя прычыны падобнае пастановы, колькі неабходнасьць сур'ёзнага стаўленьня да яе, бо, як кажа Дзіда-дзед, *«хто плюе ў сваю вясну, будзе мець неўраджайную восень»*[315].

Прататып яшчэ аднаго героя, аптэкара Савіцкага, наўрад ці варта шукаць паводле падабенства: той *«мае два гарбы, адзін спераду, другі — ззаду. Рукі і ногі ў яго доўгія. На носе ў яго барадаўка. Барада і вусы чорныя. Вочы чорныя»*[316]. А вось аўтаравая спагада да чалавека, які ўсімі сіламі намагаўся рабіць добрае для людзей — расьціць мясныя буракі, прыдумваць парашкі, але, тым ня менш, насуперак уласным інтэнцыям стаўся фактычна здраднікам, гаворыць сама за сябе. Як і зусім ня казачныя словы дзеда-апавядальніка пра аптэкара: *«Справа ў тым, што не кожны чалавек можа быць героем»*[317]. Аўтар ліста «Патрабую самых суровых мер для прыхвасьняў польскага фашызму»[318] ведаў тое ня з чутак.

Калі казаць пра адлюстраваньне ў СТ рэаліяў Беларусі часу напісаньня твору, то найбольш красамоўным будзе ўкладзенае ў вусны Савіцкага неразуменьне: *«Я цяпер нібы Смерць у табакерцы, — падумаў аптэкар. — Але ж я нікога не крыўдзіў. А калі я прыдумаў сонны парашок на людзей, дык не для таго, каб яго ўжываць. Я ж не думаў ім карыстацца... У чым жа справа?»*[319]

Зрэшты, пры ўсіх намаганьнях выявіць прататыпы герояў СТ і нават пасьпяховым вырашэньні гэтай сапраўды важнай праблемы, наўрад ці тое дэшыфруе сам твор, калі не разберамося з тэмаю, падазрона замоўчанаю ўсімі дасьледнікамі Бядулевай творчасьці.

Ідзецца пра тэму сьмерці. І адпіскі, што, маўляў, у СТ уздымаюцца праблемы жыцьця й сьмерці, не працуюць, бо нічога не тлумачаць.

Можна шмат напісаць пра барацьбу дабра й зла, але якое гэта мае дачыненьне да ўкратаваньня сьмерці ў Бядулевай СТ і абразку

---

314 Аляхновіч, Францішак. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 179.
315 Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5... С. 376.
316 Тамсама. С. 347.
317 Тамсама. С. 360.
318 Звязда. 6 снежня 1930.
319 Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5... С. 353.

Аляхновіча? Дзе там дабро й дзе зло, ды, нарэшце, што гэта за казка, дзе зло перамагае?

Надзвычай дасьціпна заўважыў акадэмік Навуменка: *«Беларускай літаратуры пашанцавала ў тым сэнсе, што Змітрок Бядуля вучыўся ў хедэры, ешыбоце і добра ведаў Біблію, рэлігію, няхай сабе юдаісцкую»*[320]. Сапраўды, няхай.

Бядуля наогул чытаў багата: *«Калісьці ў маленстве ён чытаў у нейкай смешнай кніжцы аб тым, як акамянела на дарозе жонка вядомага на ўсім свеце п'яніцы Лота»*[321]. Тою вясёлаю кніжкаю быў Талмуд.

Хутчэй за ўсё быў знаёмы Бядуля й зь мітамі — ня толькі юдаісцкімі, але й старажытнагрэцкімі.

Альбэр Камю ў «Міце пра Сызыфа» піша, што пакаралі небараку, згодна з Гамэрам, за разбойніцтва, выдаваньне сакрэтаў багоў ды іншае штукарства, кшталту выпрабаваньня вернасьці сваёй жонкі.

Прабачце, але, далібог, вось гэта сьмешна, я б нават дазволіў сабе сказаць — абсурдна. У гамэраўскай Грэцыі было столькі герояў і разбойнікаў (часта-густа аддзяліць першых ад другіх наўпрост немажліва), што ніякай фантазіі багам бы не хапіла на прыдумваньне адмысловых, пэрсанальных пакараньняў. Дый што ім, алімпійцам, да дробных людзкіх міжсабойных зьвяг?! Не, тут было нешта іншае, асабістае; за штосьці, скіраванае ня супраць чалавека, але бога.

І мінімальна абазнаны ў старажытнагрэцкіх мітах лёгка адкажа, што менавіта. Так, увязьненьне Сызыфам бога Таната найбольш раззлавала Зэўса: перасталі паміраць людзі. Парушыўся заснаваны вярхоўным алімпійцам парадак на зямлі. За гэта ён быў пакараны настолькі езуіцкі, што стаўся крылатым выразам.

Тэмаю сьмерці Бядуля цікавіўся здаўна. Яшчэ ў 1920-х гг. ён напісаў артыкул «Народная імправізацыя» пра пахавальныя галашэньні, дзе назваў іх *«адной з першых форм у паэзіі»*, бо *«галашэнне творыцца не штучна, а ліецца з набалелай душы, з гаротнага сэрца проста, не задумваючыся аб тым, як сказаць свае словы, каб яны выходзілі прыгажэйшымі»*[322].

Вобраз сьмерці, стаўленьне да яе — адзін з найбольш кансэрватыўных элемэнтаў культуры любое нацыі. І гэта яскрава бачна ў такіх разнаплянавых творах, як Бядулева СТ[323], абразок Аляхновіча, камэдыя Кандрата Крапівы «Брама неўміручасьці» і Караткевічава «Ладзьдзя Роспачы».

---

[320] Навуменка, Іван. Змітрок Бядуля. Мінск, 1995. С. 130.

[321] Бядуля, Змітрок. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 362.

[322] Беларускі каляндар на 1922 год. Вільня, 1921. С. 26.

[323] Пра сувязь сьмерці з табакаю гл.: Волкова, Т. Повести и легенды о табаке в контексте мифопоэтических представлений о смерти // Смерть как феномен культуры. Сыктывкар, 1994. С. 75–95.

*«Няхай жыве смерць»* — кажа герой п’есы Крапівы вучоны Абадоўскі.

*«Людзі!.. Вы не ведаеце, што робіце! Шалёныя! Вы сцягнеце праклён на свае галовы!.. Няшчасныя!.. Смерць павінна жыць, бо без мяне жыццё людзям будзе неўмагату!»*[324] — адгукаецца яму Сьмерць з Аляхновічавага твору.

Справа ня ў тым, што сьмерць непераможная, а ў тым, што яна неабходная.

І Бядуля, які чытаў ня толькі Стары Запавет, але й Новы, напэўна, ведаў словы зь Сьвятога Дабравесьця паводле Лукаша:

*«Кажу ж бо вам, сябрам Маім: ня бойцеся тых, што забіваюць цела і потым ня могуць нічога болей зрабіць;*

*а скажу вам, каго баяцца: бойцеся таго, хто, пасьля забойства, можа ўкінуць у геену; праўда, кажу вам, таго бойцеся»* (12:4–5).

У гэтым заключаецца парадокс: хвароба й сьмерць мусяць існаваць, каб чалавек мог прыняць рашэньне жыць. Яна напаўняе жыцьцё сэнсам і глыбінёю; яна не руйнуе, а стварае. Для несьмяротнага такія паняткі, як небясьпека, мужнасьць, не існуюць, яму не вядомая самаахвярнасьць.

Гэта цьвердзіць хрысьціянства: сьмерць ёсьць апошняе пераканаўчае сьведчаньне любові. Неўміручасьць — пакараньне, што спазнаў на сабе Агасфэр, Вечны Жыд, адмовіўшы Ісусу ў спагадзе.

Вось у гэтым я бачу нутраны супраціў Бядулі ў СТ: не ў стварэньні алегорыяў на сталінскія рэпрэсіі, якія б імгненна вылічылі рэцэнзэнты-цэнзары ды зьнішчылі — рукапіс казкі ці жыцьцё аўтара, а ў сьцьверджаньні эвангельскай ісьціны: баяцца Бога, а ня злога, ды не ісьці супраць свайго сумленьня.

*«І ня бойцеся тых, што забіваюць цела, але ж душы забіць ня могуць; а бойцеся болей Таго, Хто можа і душу, і цела загубіць у геене»*. (Мц. 10:28).

Мо й невялікая знаходка ў табакерцы, але ж добрую табаку трэба браць ашчадна — на адзін нюх.

---

[324] Аляхновіч, Францішак. Выбраныя творы. С. 163.



# МЯСТЭЧКАВАЯ АПОВЕСЬЦЬ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

У назове артыкулу няма й ценю таго зьняважліва-пагардліва-га стаўленьня, што ўкладаецца ў выразы кшталту *местачковая літаратура* ці, прыкладам, *местачковы палітык*: правінцыйны, ніжэйшага гатунку.

Бо гэты нэгатыўны сэнс азначэньня ня можа належаць беларусу; ён, накінуты, прыйшоў зь іншае мовы, дзе й *жыд* — абраза. У беларускай жа літаратуры побач з тэрмінамі *гарадзкая проза*, *вясковая проза* мусіць існаваць і такі: *мястэчкавая проза*.

Мястэчка — гэта зусім іншы, не падобны ні да чога іншага, сьвет. У «Маім мястэчку», нібыта ўспамінах, але разам з тым адным з найбольш сакавітых, цікавых — па тым самым гамбурскім рахунку — мастацкіх твораў, напісаных на эміграцыі, у Васіля Стомы-Сініцы чытаем:

*«Што датычыць Рынку, то ён меў столькі асаблівасьцяў, аб якіх я пастараюся расказаць абшырней, але крыху пазьней; цяпер жа я перайду да апісаньня агульнага выгляду майго мястэчка.*

*Вось жа яно называлася Лужкі і ляжала амаль у цэнтры Дзісьненскага павету, на ўзвышшы, так што з якога б боку да яго ні пад'язджаў, то трэба было падымацца на гару. З трох бакоў яго, нібы поясам, абвівала невялікая, але месцамі даволі глыбокая і прыгожая рэчка Мнюта.*

*У самым цэнтры мястэчка, на Рынку, стаяла даволі прыгожая, зь зялёным дахам і агромным купалам царква, быццам перабудаваная з вуніяцкай, але ніхто ня ведаў, як там было ў сапраўднасьці. На ўскраіне-ж мястэчка знаходзіўся вялікі, прыгожы касьцёл з высачэзнымі гатыцкімі вежамі і стромкім спадзістым дахам, пабудаваны продкамі графаў Плятэраў, маёнткі якіх Гарадзец, Фаб'янова іІлоўка ляжалі ў ваколіцах мястэчка. І былі ў Лужках таксама некалькі сінагогаў, польская і жыдоўская пачатковыя школы, жыдоўскі банк, паліцыя, суд, гміна і невялічкі, на якіх ложкаў 25, шпіталь, зачынены польскімі ўладамі ў 1930-х гадах. Апрача гэтых установаў, у Лужках было больш за 20 крамаў, рэстаран z wyszynkiem napojów alkoholowych*[325]*, са тры піўныя і цукерня Фукса, якога, між іншым, дражнілі мянушкай Што-Маеш-Прадаць.*

---

[325] *Z wyszynkiem napojów alkoholowych* (польск.) — з продажам алькаголю.

*Крамы былі пераважна жыдоўскія, і толькі тры ці чатыры зь іх належалі хрысьціянам. Што праўда, у пачатку 1920-х гадоў была заснаваная кааператыва, якая чамусьці з расейскай [мовы] называлася кооперативная лавка, або, карацей, кооператив. Памятаю, нашая суседка Хайка Альтман, якая ганарылася тым, што нібы калісьці скончыла гімназію ў Шклове, — цьвердзіла, што трэба гаварыць компратив. Сяляне-ж з суседніх вёсак чамусьці называлі яго працiўная лаўка. Вось гэтая працiўная лаўка, не праіснаваўшы і пару год, ня вытрымала жыдоўскай канкурэнцыі і зачынілася. Праўда, некалькі год пазьней была адчынена так званая спулдзельня*[326]*, але яе пайшчыкамі ды пакупнікамі былі пераважна вайскоўцы зь недалёка ад мястэчка пабудаваных нядаўна казармаў. Для нашых людзей не падыходзілі там ані цэны, ані асартымент тавараў»*[327].

Меў сваё замілаваньне да мястэчка й народжаны ў Веліжы Юрка Віцьбіч. Вось ён піша да Вітаўта Тумаша:

*«Не пашанцавала таксама й маёй табліцы для календару БАПЦ — "Век гарадоў Беларусі", якую даслаў Вам для ласкавага азнаямленьня. Вам нават з гэтае прычыны згадаліся радкі Францішка Багушэвіча: "Ня люблю я места, па-расейску горад".*

*А Горадня, Гарадок Саламярэцкі, Гарадок Астрашыцкі, Давід-Гарадок, Гарадок, Гарадзея ды нязьлічоныя на Беларусі гарадзішчы? Няўжо Вам здаецца, што гэта расейцы іх гэтак ахрысьцілі, а не крывічы, дрыгавічы й радзімічы? Потым, як на сёньня, пры шалёным наступе абмаскаленьня, дык нам лепш ужо абараняць ня "места", а "мястэчка", што там зьіначанае на "городской поселок"»*[328].

І праз два дні — зноў:

*«Дазвольце цяпер перайсьці да тэрміну "горад" і "места". Мне здаецца, што гэта сынонімы нашае багатае мовы, якія маюць аднолькавае права на сумеснае існаваньне. Я толькі рашуча супрацьставіўся накідваньню апошняга тэрміну, што прапануе др. Я. Ст[анкевіч]. Тут маем з аднаго боку з Багушэвіча "Ня люблю я места, па-расейску горад", а з другога — назоў цудоўнага вершу Янкі Лучыны (Няслухоўскага): "Што думае Янка, вязучы дровы ў горад".*

*Вось затое аніяк ня ў стане пагадзіцца з др. Я. Ст., што трэба адкінуць "мястэчка", а ўжываць "мЕстачка". Між тым адразу згадваецца з народнае: "У мястэчку Берастэчку каманда стаяла" (Шэйн, "Жаўнерскія песьні"), а з літаратурнае:*

---

326 Спулдзельня (ад польск. *spółdzielnia*) — тут: каапэратыўная крама.

327 Стома, Васіль. Маё мястэчка // Полымя. № 9. 1998. С. 182–183.

328 Ліст Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 06.11.1969. Захоўваецца ў БДАМЛМ.

Мне падаецца больш як натуральным, што пісьменьнік шукаў сваіх папярэднікаў у айчыннай літаратуры, ня мог не шукаць — каб прынамсі ўявіць, што было ўжо зроблена. А ў такіх пошуках абмінуць імя й творы Юркі Віцьбіча было проста нерэальна: адзін зь нешматлікіх, хто пісаў на гістарычныя тэмы, дый дзеля знаёмства з творамі ня трэба было паляваць на нейкія эміграцыйныя выданьні ў спэцфондах, а проста разгарнуць даваенныя літаратурныя часапісы.

Як, скажам, «Полымя рэвалюцыі», дзе друкавалася апавяданьне «Марыля»:

*«Архітэктура — застыглая музыка» — сказаў, дарагія юнакі і дзяўчаты, паэт. І от у мурах гмаху захавалася музычная душа дзяўчыны. Паглядзіце, як імкнецца ён быццам сімхвонія ўгору. Гэта сімхвонія, дарагія юнакі і дзяўчаты, створана вольнымі будаўнікамі з самабытных песень — псальмаў беларускай зямелькі.*

*Мы слухалі выкладчыка, здзіўляліся вонкаваму бляску яго лекцый і не адразу змаглі агаліць іх сапраўдны змест. Нам, дзецям парабкаў, касцёл упарта нагадваў недабітага магната, а пахілыя хаты вакол касцёла — мінулае нашых бацькоў. […]*

*Праводка ішла проста на карціну, і я, шкадуючы працу мастака, збочыў, пачаўшы дзіркі над галавой Хрыста. Мускулы мае адпачылі, але цэгла супраціўлялася яшчэ больш, як раней. Цяпер з кожным ударам грымеў увесь касцёл. Я біў без пярэрвы, біў з усёй сілы і нечакана паляцеў на падлогу. Я не вераваў у бога, каб падумаць, што гэта ён скінуў мяне ўніз. Таму сціснуўшы ад болю зубы, зноў упарта палез на памост.*

*У сцяне чарнела дзюрка. Мой шлямбур праскочыў праз сцяну, прымусіўшы мяне згубіць роўнавагу. Мне прыгадаліся словы выкладчыка пра скарбы, і я радасна пачаў пашыраць дзірку. Потым нецярпліва прасунуў галаву ў вузкую прабоіну і адразу-ж з крыкам рынуўся да вокан.*

*Крык мой ускалануў увесь горад. Да касцёлу бег адусюль народ. Калі першыя людзі ўбеглі на пляцоўку, ім здалося, што я звар'яцеў. Сапраўды, хіба не нагадвае вар'ята юнак, які толькі што крычаў, заклікаючы на дапамогу, а цяпер моўчкі, не адказваючы на пытаньні, знішчае молатам карціну. Я ўсё-ж выціснуў з сябе некалькі адрывістых слоў, і таварышы таксама рынуліся ламаць затулены мастацкай брахнёй склеп. І неўзабаве мы разам трапілі ў сярэднявечча нашай краіны. […]*

*На плітах затуленага карцінай склепа мы ўбачылі касцяк з іржавымі кайданамі на руках і нагах. Па шырокаму тазу пазналі жанчыну. Па касе вызначылі, што яна была дзяўчына. Адзенне*

*струхлела. Захаваліся толькі шкуматкі ад зрэбнай спадніцы ды маленькія стаптаныя лапці»*[397].

Ці ня гэтае Віцьбічава апавяданьне дало пэўныя ідэі Караткевічу для «Чорнага замку Альшанскага», у тым ліку і для наступнай сцэны?

*«І там мы знайшлі тых, каго шукалі. Яны ўсё ж дачакаліся. Жывыя ўсё ж даклікаліся іх. Але ім гэта было “ўва векі вякоў”, усё адно што ніколі.*

*Ля самага мура блізка-блізка адзін да аднаго і пры жыцці, магчыма, абняўшыся, а цяпер проста блізка, ляжалі два касцякі. І ўвесь іхні жах адзін за аднаго і за сябе, і безнадзейнасць апошніх імгненняў раптам успляснуліся і затапілі ўсю маю бедную існасць.*

*Жахлівы старадаўні цынізм нібы самкнуўся з бяздоняй цынізму сённяшняга, таго, бязлітаснага, у цісках якога біўся я і гэтыя людзі ўсе гэтыя беспрасветныя месяцы.*

*Два. Абняўшыся?*

*Я ведаю, як вы зараз паглядзіце на маё апавяданне.*

*Меладрама? Гамлет з чэрапам? Шкілеты флінтавых ахвяр на «востраве скарбаў»? Баярын Орша?*

*Дудкі, каб вам ніколі не бачыць таго, што ўбачыў я і ўсе яны!*

*Таму што быў там адзін штрых, ад якога я доўга не мог адчуваць сябе поўнасцю жывым. Ад якога дагэтуль, калі ўспомню, прабіраюць дрыжыкі. Агіды да некаторых з пароды людской. Той апошні жах, за які выдумшчыкаў такіх меладрам паложана, уласна кажучы, біць па мордзе.*

*Пад тазавымі касцямі жанчыны ляжалі тонкія, як курыныя, жалкія костачкі.*

*...Дзіцяці, якое так і не нарадзілася»*[398].

Але ж цяпер вазьму на сябе сьмеласьць прапанаваць кандыдата на трэцюю крыніцу. Сьмеласьць заключаецца ў тым, што, па-першае, няма, ці, прынамсі, ня выяўлена на гэты момант вядомых мне спасылак у пацьверджаньне гэтай ідэі, а, па-другое, крыніца тая ў пэўнай ступені супярэчыць прыгожаму, хоць і наўрад ці карэктнаму цьверджаньню: *«Для таго, каб абудзіць беларускі нацыянальны дух, У. Караткевіч у часы ваяўнічага атэізму смела скарыстоўваў і апрацоўваў у творах сюжэты і матывы з Бібліі»*[399].

---

[397] Полымя Рэвалюцыі. № 12. 1937. С. 26–33.

[398] Караткевіч, Уладзімір. Чорны замак Альшанскі. Мінск, 1983. С. 246–247.

[399] Банцэвіч, Павел; Казлоўскі, Руслан. Праз прызму часу: беларуская літаратура XX стагоддзя ў кантэксце навуковых даследаванняў. Гродна, 2012. С. 228. Беларускі нацыянальны дух і — Біблія?! Зрэшты, для маладых навукоўцаў характэрна сьмела агучваць думкі й памкненьні пісьменьнікаў.

Твор, вылучаны мной на гэтае пачэснае месца, быў выдадзены ў Савецкім Саюзе кнігаю вялікім накладам у 1963 г. (на рукапісе «Хрыста…», нагадаю, стаяць 1965–66 гг.), але стаўся вядомы грамадзянам значна раней і шырэй — праз аднайменнае кіно. Кніга й стужка называліся «Сьвята сьвятога Ёргена».

Арыгінал меў крыху іншую назву — «Фабрыка сьвятых» — і належаў дацкаму пісьменьніку Гаральду Бэргстэту (Пэтэрсану) (1877–1965). Аповесьць была напісаная ў 1919 г., перакладзеная ў расейскую мову ў 1924-м, і адказныя за новае выданьне хіба ня ведалі, што аўтар у 1946 г. быў укратаваны на два гады за калябарацыянізм.

У Савецкім Саюзе кінастужка, зрэжысураваная Якавам Пратазанавым у 1930 г., была надзвычай папулярная, хоць, пэўне ж, меней за «Вясёлыя рабяты»: адыгралі сваю ролю інтэртытры, напісаныя аўтарамі «Дванаццаці крэслаў» і «Залатога цяля», а таксама акторская гульня Ігара Ільінскага й Анатоля Кторава. Крылатымі зрабіліся выразы: *«Сьцьвярджаю, што з навуковага пагляду галоўнае ў прафэсіі злодзея, як і ў прафэсіі сьвятога, гэта, канечне, своечасова змыцца»*, *«Вернікі! Галасуйце за партыю нацыянал-дэмакратаў у імя сьв. Ёргена!»*, *«На сьвятых ня мусяць злаваць нават іхныя нявесты»*, *«От людзі жывуць! Нябось, штодня рукі мыюць»*, *«— Стварыце, калі ласка, яшчэ адзін цуд, узьнясіцеся на неба. — А пад'ёмныя?»* ды іншыя.

Не магу, натуральна, запэўніваць, што Караткевіч бачыў стужку, але пры наяўнасьці ў тыя часы толькі трох каналаў можна зь верагоднасьцю 99 % дапусьціць: пісьменьнік ведаў яе, мусіў бачыць. Цікава тут вось што: кніга, у параўнаньні з стужкаю, мае адрозьненьні. Ці гартаў ён яе?

Ва ўжо цытаванай манаграфіі пра беларускую літаратуру XX ст. у кантэксьце навуковых дасьледаваньняў пішацца наступнае: *«[…] у творчасці У. Караткевіча выразна выяўляецца традыцыя, якая бярэ пачатак у фальклоры, дзе пануе жывая стыхія народнай свядомасці, а таксама ў творах, напісаных у стылі барока, такіх, як "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча", травесці "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе". У гэтым імкненні выкарыстоўваць творчыя дасягненні народнай карнавальнай літаратуры пісьменнік падтрымлівае вопыт Ф. Рабле, Дж. Свіфта, М. Сервантэса, М. Гогаля, М. Твэна, М. Булгакава»*[400].

Цалкам магчыма, што гэтыя творы й імёны сапраўды можна падвесьці пад адзін назоўнік (у якім, натуральна, мусіць быць імя Міхаіла Бахціна, ось толькі, далібог, адносна «карнавальнасьці» спрачацца — па-магчымасьці, карэктна — неабходна!) або паці-

400 Банцэвіч, Павел; Казлоўскі, Руслан. Праз прызму часу… С. 240.

кавіцца, чаму няма ў пераліку, прыкладам, Эразма Ратэрдамскага, Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, О. Гэнры ці Міхаіла Зошчанкі, але ўсё ж калі й шукаць якіх літаратурных сваякоў, то ў першую чаргу бясспрэчна трэба назваць імя Шарля дэ Кастэра й ягоную «Легенду пра Уленшпігеля»: раманы, чые тэмы (вобразы галоўных герояў) разьвіваюцца ад простанародных шванак і фастнахтшпіляў да трагічнай народнай сымфоніі, гучаць ва ўнісон.

Сваяк ім абодвум і герой аповесьці Бэргстэта: «каронны злодзей» Мікаэль Коркіс. Тэкст «Эвангельля ад Юды», пераканаы, у галовах чытачоў ці, як мінімум, на паліцы ўлюбёных кніг, а таму няма патрэбы прыводзіць паралельныя (сугучныя) месцы зь яго. Спынюся проста на пераказе цікавых для нас урыўкаў з «Эвангельля ад Ёргена» (хоць тое й не пазначанае на тытуле, але словазлучэньне згадваецца ў творы). Цытаты прыводзяцца ў перакладзе паводле электроннага выданьня кнігі[401], а таму падаюцца без пазначэньня старонак.

Зрэшты, казаць пра асобныя цытаты — наўрад ці будзе трапна. Хутчэй ідзецца пра сьцíслы пераказ з большай увагаю да асобных момантаў.

Калі адбылося тое, дакладна невядома. У 1845 г. у пустой піўной бочцы знайшлі аркушы з напісанай на іх гісторыяй. Пэргамэнтавыя аркушы. А гэта патыхае сярэднявеччам.

Затое вядомае месца дзеяньня: горад Ёргенстат.

Трыста гадоў таму ад падзеяў, апісаных на тым пэргамэнце, жыў у Ёргенстаце сьвяты Ёрген, абаронца гораду й галоты ад разбойнікаў. І ўзлавалі на яго багацеі гарадзкія, што былі ў змове зь ліхім людам і мелі ад таго добры прыбытак, і ў шлюбную ноч сьвятога напалі на яго й хацелі забіць, але той зьбег — паабяцаўшы вярнуцца.

А ў час нашае гісторыі горад жыве й квітнее дзякуючы сьвяту ў гонар гэтага сьвятога, бо паломнікі з усіх канцоў ідуць дакрануцца да ягонай плашчаніцы. І, натуральна, плацяць. *Ergo*, усім там кіруюць уцаркоўленыя асобы: гросмайстар, капэлян, скарбнік.

Былі гэта, мушу сказаць, яшчэ тыя маральныя аўтарытэты. Капэлян меў звычку падчас службаў выглядаць маладых ды гожых парафіянак, а празь нейкі час прыходзіў да іх дадому. І тады бацькі нябогаў моўчкі выходзілі з хаты й, утаропіўшыся ў вулічныя камяні, блукалі бязмэтна, а іхныя дочкі, зьняўшы паясы, пакорліва чакалі ў ложку. Пасьля аднаго з падобных візытаў на завулак Ружаў і нарадзіўся ва Урсулы сын Мікаэль. Рос дзіўным, непадобным да астатніх, і аднойчы, нікім не заўважаны, пралез у палац капэляна,

---

[401] Бергстед, Гаральд. Праздник святого Йоргена. Москва: Государственное издательство художественной литературы, 1963. 176 с. Гл. на flibusta.is.

уварваўся ў ягоны габінэт і сказаў: «Ты — мой бацька!» За што адведаў на галоўнай плошчы бізуноў і быў выгнаны з роднага гораду.

З гэтага моманту робіцца цікавей.

Спачатку Мікаэль трапіў у цыркавую трупу, зь якой аб'езьдзіў ці мала краінаў, быў канатным танцорам. Потым далучыўся да вандроўных актораў, ліцадзеяў, і неўзабаве стаўся адным з самых натхнёных выканаўцаў шэксьпіраўскіх роляў. На сцэне ён зліваўся з сваёй помстаю й будучай вялікасьцю, а ягоны гонар аніяк не адпавядаў ролі сьціплага скамароха.

Пазьней Мікаэль вырабіўся на сапраўднага разбойніка, стаўся каханкам прынцэсы Пармскай і скраў для яе каронныя брыльянты, нават забіваў. І ў час чарговага сьвята гораду хаваўся ў лесе ад ляндскнэхтаў курфюрста. Было яму троху за трыццаць: *«Высокі хлапчына зь цёмнай барадой і сумным тварам, простым і сьціплым; такія твары заўсёды выклікаюць давер»*. (*«Вельмі высокі і моцны, шыракаплечы, са смешным абліччам і густымі бровамі»*[402]). Ці такога хацеў сабе лёсу? Ён жа зьбіраўся вярнуцца ў любімы горад моцным, вялікім і адпомсьціць царкоўнікам! У сваёй лісінай норцы ён чуе званы места й раптам шалёная думка працінае яго: так! Ён вернецца туды, ён схаваецца сярод паломнікаў і ўвойдзе ў свой горад!

А горад рыхтаваўся, упрыгожваўся, мітусіўся, віраваў, піў і… На боцех, каб не расьцягваць пераказ, скажу толькі: гэтае царкоўнае сьвята паводле сваёй жыцьцярадаснасьці й прагі любові моцна нагадвае нашае Купальле.

Ня брала ўдзелу ў агульным тлуме толькі купка моладзі, дачок і сыноў першых уцаркоўленых асобаў гораду, якія кпілі, жартавалі, зьдзекаваліся: і зь сьвята, і зь сьвятога, і з народу, і з уласных бацькоў. Іх варта было б назваць атэістамі — анахранізмам, што праўда: упершыню гэты тэрмін быў ужыты нібыта, як сьведчыць «Вікіпэдыя», у *Hanmer Meredith. The auncient ecclesiasticall histories of the first six hundred years after Christ, written by Eusebius, Socrates, and Evagrius. London, 1577*, тоб-то троху пазьней за меркаваны час *пэргамэнтавых* падзеяў.

Пра анахранізмы ў творчасьці Караткевіча згадвалася нямала. Вось што піша, прыкладам, лёнданскі, але ўсё ж ткі наш літаратуразнаўца Арнольд МакМілін — з спасылкаю на кнігу Анатоля Вераб'я «Жывая повязь часоў: нарыс творчасьці Уладзімера Караткевіча» (1985): *«Можна нават сцвярджаць, што некаторыя анахранізмы кнігі, такія, як, напрыклад, з'яўленне езуітаў у Беларусі на пяцьдзесят гадоў раней таго, калі яны на самой справе прыйшлі,*

402 Караткевіч, Уладзімір. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. Мінск, 1980. С. 46.

*хутчэй за ўсё можна трактаваць як дапушчальную аўтарскую свабоду ў адносінах да перадачы рэальных падзей з мэтай прадставіць энцыклапедыю беларускага жыцця XVI ст.»*[403].

Думка больш як сумніўная; у ёй няма ні кананічнай навуковасьці, ні апакрыфічнай прыгажосьці. А з анахранізмамі даць рады вельмі проста, калі згадаць Ліёна Фойхтвангера, у прозе якога падобных прыкладаў процьма, і ягоны вядомы пагляд на гістарычны раман, у якім бачыў сродак адлюстраваньня балючых праблемаў свайго часу. Гістарычная алегорыя, казаў ён, дапамагае як мага праўдзівей пераказаць уласнае сьветаадчуваньне, уласную эпоху. Зацытую нямецкага раманіста: *«Я не магу сабе ўявіць, каб сур'ёзны раманіст, які працуе з гістарычным матэрыялам, мог бачыць у гістарычных фактах што-небудзь іначшае, як* ***сродак аддаленьня****, сымбаль, сродак максымальна вернай перадачы ўласнага сьветапогляду, ягонага ўласнага адчуваньня жыцьця, ягонага часу»*[404].

А вось што занатоўвае Караткевіч; як кажуць у такіх выпадках — параўнай:

*«Усе яны — сімвалы езуіцтва ўсіх вякоў, дурной пыхі — усіх вякоў, дэмагогіі — усіх стагоддзяў. Яны не мяняюцца. Мяняюцца толькі абставіны, у якіх яны дзейнічаюць. Яны, вядома, не робяць працэсаў над мышамі і не вінавацяць чалавека за тое, што ён пераўвасоблены чорны кот, які належаў раней касцёльнаму арганісту. Але яны ўчыняюць малпіны працэсы і сучасныя "паляванні за ведзьмамі", ды яшчэ і карыстаюцца пры гэтым не герольдамі і вестунамі, а дзесяціфунтовымі газетамі і камбінатамі жоўтай прэсы.*

*У астатнім жа яны — нашчадкі і двайнікі* ***тых****. Яны сімвалы цемрашальства, кажанства, нянавісці да навукі, ведаў, гуманізму, братэрства, волі, святла.*

*Дарэмна было б шукаць на большасці афортаў Гоі (і прытым — лепшых), якога часу, нацыі, прыналежнасці той ці іншы апакаліптычны звер.*

*Ён з апакаліпсісу, ён прыкідваецца анёлам, і гэтым ён страшны»*[405].

Але ж вернемся да моладзі. Кіравала ўсімі прыўкрасная Алеандра, дачка гросмайстра. Яны ня тое каб бунтавалі супраць Эвангельля ад Ёргена й духоўных скрэпаў, якія яго атачалі, — усіх

---

[403] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура ў 50–60-я гады XX стагоддзя. С. 281.

[404] Цыт. паводле: Мотовилов, Николай. Модернизация истории в произведениях Фейхтвангера // Семь искусств. № 4 (41). Апрель 2013. Гл. тут: http://7iskusstv.com/2013/Nomer4/Motovilov1.php.

[405] Караткевіч, Уладзімір. …Трэба церабіць сваю сцежку. Дзённік 1965–66 гадоў… С. 208.

гэтых плашчаніцаў, кубкаў; хутчэй проста над усім і з усяго кпілі, жартавалі, зьдзекаваліся й пасьмейваліся. Не апошняю тэмаю ў іх былі нявесты сьвятога: хоць і шанаваныя народам і добра такі ўладкаваныя ў жыцьці, але старыя, бяззубыя, ці, як сфармулявалі Ільф зь Пятровым, *«покуль у сьв. Ёргена будуць такія нявесты, ён наўрад ці вернецца на зямлю»*.

Мінакам падобнае стаўленьне не магло падабацца, а галоўнае — яно не спрыяла царкоўнаму бізнэсу. Таму гросмайстар напачатку спадзяваўся дамовіцца з дачкою, а як не атрымалася перацягнуць на свой бок — выдаць замуж. От толькі гордая Алеандра абсьмяяла бацьку з кандыдатамі на жаніхоў ня горш як зь вераю ў Ёргена. І тут яны нечакана для саміх сябе паразумеліся й аб'ядналіся: Алеандра станецца наступнаю нявестаю сьвятога! Для гросмайстра на тым закончацца ейныя пасядзелкі з маладой кампаніяй, а для яе — захаваецца магчымасьць заставацца вольнай і незалежнай. Далібог: і замужам, і ў хаце.

Моцна ўсьцешыліся мінакі ад такой навіны: нарэшце нявеста будзе маладая й прыгожая; так, яна грашыла, затое цяпер будзе замольваць свае грахі. Не эвангельская Марыя Магдалена й не караткевічава Марына Крывіц, але ўсё ж грэшніца.

А ў гэты самы момант у іншым канцы гораду Мікаэль, які тоўкся сярод мінакоў, слухаў іхныя нараканьні на ўцаркоўленых, што нават за сьвятым было лепей, як цяпер, думаў сабе: людзі застаюцца гэткімі ж наіўнымі, замест таго, каб мацаваць сваю волю ў барацьбе з прыгнятальнікамі, яны толькі плачуць, скуголяць, наракаюць ды мянташаць розную лухту. Думкі былі перарараваныя нейкім п'янтосам, што, загарнуўшыся ў белыя анучы, зароў: я сьвяты Ёрген! І Мікаэль зразумеў, кім ён вернецца ў горад…

Мяркую, зразумелі й знаёмыя з тэкстам пра гарадзенскага Хрыста. Так-так, Мікаэль «вярнуўся» сьвятым. Ён нават стварыў цуд, давёўшы да шалу натоўп вернікаў і да інфаркту бацькоў гораду, і адпомсьціў свайму роднаму бацьку, прымусіўшы цалаваць сваю руку перад усімі, і правёў ноч з сваёй нявестаю… Хоць гэта ўжо другаснае.

На наступны дзень гросмайстар з скарбнікам і капеланам (дый Алеандра) дазналіся, хто такі гэты Ёрген, але — што было рабіць? Пасьля пашаны, выказанай яму перад натоўпам? Ды іх проста растопчуць, калі сказаць праўду!

І тады паразумеліся яны на гэтакім гешэфце: «сьвяты» «ўзносіцца» на неба, а яму даюць за тое дзьве бочачкі золата, кілбасаў, сыру, карэту й… часткаю гэтай зьдзелкі захацела стацца Алеандра.. Але зноў жа, тое іншая гісторыя.

Мікаэлю зрабілася лёгка й вольна. Ён адпомсьціў за матку, за сябе. Ён зьдзейсьніў мару свайго жыцьця! І — раптам адчуў сябе

спустошаным, быццам жыцьцё страціла ўсякі сэнс. *«Ён глядзеў на мора вернікаў, што ўглядалася зь нейкаю саплівай бездапаможнасьцю і тупым спалохам, быццам першабытныя жывёліны, і ў сваёй амаль ідыёцкай рэлігійнасьці не жадалі нічога болей, як утульна спалучыцца з натоўпам такіх самых фанатыкаў, падпарадкоўваючыся іхнаму стыхійнаму ціску... Гледзячы на іх, Мікаэль раптам зразумеў, што гэтыя незьлічоныя натоўпы багамольцаў самі шукаюць сьвятыя храмы, каб глядзець на іх зьнізу ўверх, як жывёліна глядзіць на сонца, шукаюць цудатворныя плашчаніцы і лятуць да іх з усіх бакоў, пускаючы ад захапленьня ў порткі, і ні ў воднай з гэтых прыдуркаватых пахілых істотаў ніколі ня зьявіцца сьвятой думкі...»*

Мікаэль кажа сам сабе словы, якія ўголас прамовіў Максім Багдановіч: *«Народ, Беларускі Народ! Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот»*. Але для Караткевіча гэтага было замала — простая канстатацыя. Ён з сваім Хрыстом пайшоў далей, той зрабіў сапраўдны цуд, пра які згадваецца й на самым пачатку твору: *«У яго, у Юрася Братчыка, цудаў было больш. І галоўнае цуда — мёртвыя ўсталі, калі прыйшоў ён»*[406], — і напрыканцы: *«Вецер варушыў валасы Хрыста. Ён глядзеў, ён бачыў абліччы. Тысячы абліччаў. Бачыў жывых і забітых. І гэта было тое, неўміручае, імя чаму — Народ»*[407]. Такі народатворчы *rondel*.

Вось, бадай, і ўсё пра кандыдата на трэцюю крыніцу й трэці складнік раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Зрэшты, мабыць, варта яшчэ дадаць у абарону Гаральда Бэргстэта, што хай той і не знайшоў іншага шляху для свайго героя, як зьехаць і жыць далей шчасьліва, з жонкай і дзецьмі, у эпілёгу, аднак, згадваецца адзін з нашчадкаў сьвятога — кіраўнік народнага паўстаньня Конрад фон Фалькенбэрг.

А мо дацкі пісьменьнік ведаў пра Каліноўскага й думаў пра свае «Каласы пад сярпом»?

---

406 Караткевіч, У. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. 2. С. 6.
407 Тамсама. Т. 2. С. 392.

# СЬМЕРЦЬ У ЛЮСТЭРКУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ[408]

Шлях Паэта — шлях самотны. Вандруе Язэп Драздовіч. Сышоў у невядомасьць Уладзімер Дудзіцкі. Зьнік Мікола Цэлеш. Вярнуўся й не пакінуў па сабе вестак Янка Палонны. Бадай, каля кожнага нашага пісьменьніка стаіць сьмерць. Ня як завяршальны факт біяграфіі, а як таямніца. Сяргей Палуян. Янка Купала. Кузьма Чорны. Зьмітрок Бядуля. Рыгор Мурашка. Мікола Прашковіч. Міхась Стральцоў. Рыгор Семашкевіч. Яўгенія Янішчыц.

Некалі *memento mory* значыла *«сьпяшайся жыць»*, цяпер — *«сьпяшайся паміраць»* або *«навучыся паміраць»*. Бо — па шчырасьці — жыцьцё вельмі, вельмі кароткае. І нібы толькі цяпер прыйшло разуменьне гэтага сумнага факту. Але застаецца, як у даўніну, пытаньне пра сьмерць. Пытаньне пра сьмерць — пытаньне пра сэнс сьмерці, а мёртвага сэнсу не існуе. І яшчэ — пра жыцьцё па сьмерці.

У беларускім прыгожым пісьменстве існуе альтэрнатыва сьмерці — памяць. Мо таму столькі ў нашай літаратуры вяртаньня — да Эўфрасіньні, да Вітаўта, да Каліноўскага, да таго пункту адліку, зь якога кожны пачынаецца — сам для сябе. Мы пачалі пісаць пра гісторыю, калі задумаліся над пытаньнем сьмерці, у прыватнасьці, як нацыі, калі адчулі сябе самотнымі[409]. Акутагава, гэты вельмі бела-

---

[408] Артыкул напісаны паводле дакладу, прачытанага на канфэрэнцыі «Шлях да ўзаемнасьці». (Белавежа, Польшча, 22–23 чэрвеня 2002 г.)

[409] *«У гарадох-садох Самуіл Плаўнік пісаў бы, пэўна, оды, але апрача таго і больш таго — гістарычныя раманы. Нашым унукам, шчасьлівым і гордым, моцным і дакладным у рухах, ён расказаў бы пра стагодзьдзі вялікага змаганьня за іх, расказаў бы пра стагодзьдзі, якія гумусам ляжаць пад нагамі. Ён расказаў бы ня толькі пра тое, як корчыўся Фра Дольчыно, ня толькі пра тое, як вялі на шыбеніцу Кастуся Каліноўскага, як памёр Дэлеклюз, ідучы насустрач кулям вэрсальцаў, як невялічкая па колькасьці і валатоўная па духу група ўзвышаўцаў тварыла новую культуру вызваленага беларускага народу, перажываючы розныя нягоды… Тужлівы і ўсхваляваны, ён расказаў бы, як у тым часе жыў чалавек, шматмільённы чалавек.*

*І гэта было-б страшна.*

*Ён расказаў-бы, як памірала і не магла памерці Сымонава жонка.*

*Навошта-б ён гэта рабіў, я ня ведаю.*

рускі, паводле Сяргея Дубаўца, японскі пісьменьнік, неяк зазначыў: *«Здаўна людзі верылі, што пекла — апраметная. І толькі адно ягонае кола — кола самотнасьці — нечакана паўстае ў паветры над горамі, лясамі, палямі. Інакш кажучы, тое, што заўсёдна вакол чалавека, можа вокамгненна стацца болем і пакутай»*.

Колькі б мы ні гаварылі пра адраджэнцаў — пачатку стагодзьдзя XX ці XXI, — мы гаворым агулам, бы пра супольнасьць людзей, нейкі гурт, аб'яднаньне. Але яны заўсёды былі самотныя, нават сярод «сваіх». Хіба — найбольш сярод сваіх. Кожны сам па сабе. Ці не праз гэта сьмерць беларусаў — пісьменьнікаў і іхных герояў — мае свае, спэцыфічныя адценьні, свой пах, свой лад?

Сьмерць па-беларуску. Празь яе — зразумець, убачыць саміх сябе. Праз чужую сьмерць убачыць чужое й чужога.

Як бы ні карцела некаторым, надта розныя мы. І былі, і ёсьць, і заўсёды будзем. Розным жыцьцём жывем. Розным сьмерцю паміраем:

*каляровыя вопраткі разрываюць паветра*
*механічныя сэрцы паўтараюць свой цырк*
*ураджайнай глебе спакойна*
*родзяцца прадбачванні (апрача пагоды)*
*горад цудоўна пасолены глухатой*
*у безупыннай продажы смех і захапленне*
*тыя ж самыя маршруты для ўсіх ад*
*першых да апошніх дзвярэй*
*штучнае святло калышацца пад музыку*
*глухаты*
*пад модным лозунгам усё*
*моднае жыццё*
*смерці — розныя*[410]

Людзей — пры ўсёй іхнай рознасьці ды непадабенстве — лучаць дзьве падзеі: нараджэньне й сьмерць. Прычым першая застаецца па-за полем зроку чалавека, яна прыходзіць да яго ў аповедах маці, спробах уяўленьня, другая — якраз тое адзінае, што ён сьвядома перажывае — адно што распавесьці пра набыты досьвед няма магчымасьці[411].

---

*Можа, дзеля свайго вялікага замілаваньня да продкаў і вялікае крыўды за іх».* (Бярозка, Юры. Літаратурныя партрэты. 2. Зьмітрок Бядуля // Узвышша. 1928. № 4. С. 135.)

[410] Артымовіч, Надзея. Сезон у белых пейзажах. Беласток, 1990. С. 30.

[411] *«Няма такога месца на зямлі, дзе б не магла знайсьці нас сьмерць, нават калі мы ўвесь час будзем азірацца навокал, быццам у сьмяротнай і небясьпечнай краіне. (...) Людзі прыходзяць і сыходзяць, бягуць і танчаць, і ні слова — пра сьмерць. Усё цудоўна, усё выдатна. Але калі сьмерць рап-*

Чалавек ня думае пра сьмерць; і таму, што баіцца, і таму, што сьмерць цяжка паддаецца разважаньням, асэнсаваньню; а праз гэта сьмерць ці думка пра яе захоплівае нечакана, хоць, здаецца, мы ці не з маленства ведаем, што яна — ёсьць[412].

---

*там прыходзіць да іх, да іхных жонак, да іхных дзяцей, да іхных сяброў, захоплівае зьнянацку, непадрыхтаванымі, якія віры пачуцьцяў ахопліваюць іх, які плач, якая злосьць, які адчай!..»* (Мішэль Мантэнь).

412 *«Што ні кажы, а жыцьцё, ужо само па сабе, ёсьць радасьць, вялікае шчасьце, бясцэнны дар. Ёсьць дзьве важныя часьціны, зь якіх складаецца жыцьцё й яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода. Бо ніколі ня страціць для нас цікавасьці чалавек, бо праяўленьне яго розуму бязьмежна, бо дарогі яго ня вызначаны, бо формы яго жыцьця і яго ўзаемаадносін да другіх людзей бясконца размаіты, аканчальна ня выяўлены й ніколі ня могуць стаць аканчальнымі. А прырода! Колькі вялікага задавальненьня дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачыма кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе многалучныя напісы — хіба ж гэта ня ёсьць шчасьце?*

*Адно толькі шкода, што наша жыцьцё ня сузьмерна малое, каб начытацца гэтаю кнігаю. (...)*

*Часы прабілі поўнач. Настаўнік перанёс лямпу ў другі, яшчэ меншы пакоік, дзе стаяў яго прасьценны дзеравянны ложак, палажыўся ў пасьцелю й лежачы чытаў: “Зорныя сьветы і іх насельнікі”. Шырокі малюнак недасяжных сьвятоў раскрываўся перад вачыма маладога настаўніка ўва ўсёй таемнасьці й безгранічнасьці. І подлуг таго, як мысьль усё больш захаплівалася гэтым чароўным малюнкам і гэтымі нязьлічонымі сьветамі, раскіданымі сярод бяздонных багнаў, такіх страшных, такіх павабных, — зямля і чалавек, пагардлівы гаспадар яе, рабіліся ўсё меней і меней значнымі, нікчэмнымі. Гэта безгранічнасьць заціра ла зямлю, і яна гублялася ў ёй, як малюсенечкая пылінка. А якім малазначным, незаметным зьяўляўся чалавек, яго клопат, яго штодзённыя драбніцы жыцьця! Новыя думкі й настроі ахінулі маладога настаўніка. Але гэтыя думкі ў момант разьляцеліся, як вераб’і, калі ў іх вясёлы гурток паляціць каменьчык, кінуты рукою якога-небудзь падшывальніка-жэўжыка: страшны й няпрыемны вобраз сьмерці бліснуў сярод гэтых думак маладога настаўніка й разагнаў іх. На адзін момант жыцьцё ў ім як-бы спынілася. па яго целу прабегла дрыготка, бо гэты вобраз сьмерці вынік зусім неспадзявана:*

*— Я памру! — падумаў малады настаўнік: — будзе такі час, калі я стану няжывым трупам!*

*На кароткі міг ён як-бы адлучыўся ад сябе самога й зірнуў на сябе збоку, як пастароньні, другі чалавек, і жыва ўявіў сабе той момант, калі ён будзе нярухомым трупам.*

*— Фу! як гэта прыкра й няпрыемна! — падумаў Лабановіч. — А горай за ўсёго тое, што перад сьмерцю мы бяспомачны й слабы й ня маем спосабаў адхіліць яе ад сябе або хоць аддаліць час яе прыходу. Ад яе не адмолішся, ад яе не адкупішся нічым.*

Па-сутнасьці сьмерць няўяўная, яна ня мае рэпрэзэнтацыяў: яе няма ані ў сьвядомым, ані ў падсьвядомым. І каб уявіць сабе яе, накрэсьліць нябачныя контуры, чалавек мае адзінае выйсьце: убачыць яе праз нешта — сымбаль, алегорыю, праз нейкую рэчаіснасьць, што стаіць на мінусе, на пустым месцы — надмагільлі, што закрывае няісную ў магіле сьмерць.

Са старажытнай Грэцыі вядомая жахлівая фігура сьмерці — Гаргоны, пагляд якой ператвараў чалавека ў камень, нібы ўласнае надмагільле. Каб паглядзець ёй у вочы й застацца жывым, трэба было схітраваць: адвярнуцца ад гібельных вачэй і зірнуць у люстэрка.

*Не заглядвай у маё скраздоньне,*
*калі ты ня хочаш скамянець.*
*Ці ж я сам абраў такую долю,*
*што із дна люстэркаў зеўрыць сьмерць?*[413]

Тут, натуральна, ідзе пра фэномэн сьмерці ў кантэксьце не прыроды, а духу, таму й развагі датычаць адной з формаў адлюстраваньня духу — літаратуры. Люстэрка літаратуры.

Падабраць адпаведную мэтадалёгію для аналізу досьведу, а часьцей — *уяўнага* досьведу сьмерці — няпроста. Найбольш прыдатнаю тут бачыцца гермэнэўтычная традыцыя, працэсы суперажываньня, разуменьня ды інтэрпрэтацыі, сфармуляваныя Гансам-Георгам Гадамэрам (*Hans-Georg Gadamer*), трымаючы ў памяці й пазыцыю — таксама гермэнэўтычную — Фрыдрыха

*— Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што я памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцьця, падлягаю сьмерці, бо ўсё на сьвеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцьця, ужо мае ў сабе адзнакі й пячаць сьмерці. І людзі звыкліся з гэтым, і нікому навет і ў голаву ня прыходзіць выказаць свой пратэст проціў сьмерці й вясьці з ёю змаганьне, як-бы ўжо даўно-даўно ўмовіліся прызнаць над сабою яе ўладу, лічыць гэту ўладу справядліваю й законнаю. А яна, гэта сьмерць, кожны дзень ходзіць вакол, кожны час, кожную хвіліну нішчыць і маладзенькія й старыя формы жыцьця. І мы не зварачваем на гэта ўвагі, і толькі тагды яна робіць моцнае ўражаньне, калі ўмірае хто блізкі, або калі наваліцца мор, і людзі пачынаюць паміраць агулам. Тагды чалавека ахоплівае жах, і ён губляе галаву. І вось што цікава. Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызьціся за гэта й кусацца зубамі; там-жа, дзе разьбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву й моўчкі падстаўляе яе пад абух.*

*— Тфу! якая гэта агідласьць! — думаў далей малады настаўнік: жывеш, строіш пляны, чагось шукаеш, чагось дабіваешся, спадзяешся, а прыдзе час, і ты будзеш труп, гніль, спажытак чарвей».* (Гушча, Тарас [Якуб Колас]. У палескай глушы. Вільня, 1923. С. 10–13.)

[413] Пацюпа, Юры. Па той бок. Вершы 1999–2000 // Калосьсе. 2000. № 8.

Шляермахэра (*Friedrich Schleiermacher*), заснаваную на пошуках у творы сэнсу ня ўкладзенага аўтарам, але большага.

Гаворка пра сьмерць ускладняецца яшчэ тым, што ў падсавецкім грамадзтве, ня толькі псэўдасацыялістычным, але й псэўдааптымістычным, гэтая тэма была ня тое каб афіцыйна забароненаю, але надта ж непажаданаю. Сказаць пра сьмерць, напісаць пра яе было ўчынкам амаль непрыстойным. Гэта зразумела: у сьмерці ўлада бачыла выбар (нават калі размова ішла не пра самагубства, а сьмерць натуральную), нешта непадуладнае ёй, як, між іншага, і эрас, сэкс. (Сьмерць і сэкс аб'ядноўвае яшчэ нешта. Чалавек хавае сьмерць або сьмяротную хваробу гэтак сама, як хавае сваю сэксуальнасьць ці сэксуальную арыентаванасьць; гэта слушна як у дачыненьні асобнага чалавека, гэтак і сучаснага грамадзтва.) Зрэшты, пытаньне сьмерці, выбару сьмерці зьявілася нечаканым рэактывам і для пасьлясавецкага беларускага грамадзтва[414]. На Захадзе, у прыватнасьці, у ЗША, стаўленьне да сьмерці, да пытаньня сьмерці (як і іншых чалавечых слабасьцяў) прынцыпова інакшае[415]. Прыкладам, кніга «Сьмерць і паміраньне» (1969) Элізабэт Кюблер-Рос — адна зь «Сьпісу кнігаў стагодзьдзя»: *«Праца Элізабэт Кюблер-Рос як псыхіятра для невылечна хворых мела вынікам публікацыю "Сьмерць і паміраньне", якая паставіла пад сумнеў шматлікія табу XX ст. і адносіны, зьвязаныя са сьмерцю. Рэагуючы на ізаляцыю і санітарыю сьмерці, зь якімі яна сустракалася ў шпіталях, дзе працавала, Кюблер-Рос пастаралася прыцягнуць увагу мэдыкаў і грамадзтва*

---

[414] У лістападзе 2000 г. парлямэнт Галяндыі большасьцю галасоў легалізаваў эўтаназію, якая, што праўда, практыкавалася ў гэтай краіне на працягу некалькіх гадоў. Такім чынам, Галяндыя стала першай краінай у сьвеце, дзе дазволена добраахвотнае спыненьне жыцьця хворых — пры наяўнасьці жорсткіх крытэрыяў: пацыент мусіць быць безнадзейна хворым, трываць няспынныя болі й неаднаразова прасіць добраахвотнай сьмерці. Паводле апытаньняў, пераважная большасьць галяндцаў падтрымлівае закон.

На гэтае паведамленьне даволі нечакана зрэагавала «Наша Ніва», неафіцыйна трымаючы сьцяг носьбітаў новай думкі й новых павеваў. Адзін з сваіх нумароў, у адпаведнасьці з уласнай практыкаю, прысьвяціла «тэме» — добраахвотнай сьмерці, з артыкуламі, якія б цалкам пасавалі да якой-небудзь «Советской Белоруссии», калі не паводле мовы, дык стылю й, што галоўнае, спосабу мысьленьня. Ахвотных пераканацца дасылаем да № 50 (207), 11–18 сьнежня 2000 г. з артыкуламі СяргеяВарыводзкага «Носьбіты сьмерці» і Юліі Андрэевай «Забойства хворага», дзе аўтары пішуць: *«Эўтаназія! Слова выклікае ў нетрах спадчыннае памяці карціны масавых забойстваў часоў нацызму»*.

[415] Хоць, натуральна, нельга казаць пра Захад як нешта цэльнае ды цэласнае. Тыя ж самыя судовыя працэсы супраць доктара Геваркяна, прыхільніка эўтаназіі, празванага «доктар Сьмерць», сьведчаць пра тое.

*да фізычных і псыхалягічных патрэбаў тых, хто памірае. Ейная праца выклікала распаўсюджаньне госьпіснага руху ў Амэрыцы і пашырэньне больш годнага і гуманнага стаўленьня да заканчэньня жыцьця»*[416].

Нават болей, сьмерць зрабілася прадметам навукі. Напрыклад, у канадыйскім Лёндане (Антарыё), дзе жыў доктар Барыс Рагуля, у *King's College* існуе *Certificate Program Palliative Care and Thanatology* з курсамі *Introduction to Thanatology; Palliative care: The Application of Basic Principles; Bereavement and Grief; Children and death; Suicide; Spiritual, Philosophical and Ethical issues in Death and Bereavement; Individual and family Counselling; Field Placement in Palliative care.*

Калі ў савецкай Беларусі былі ідэалягічныя падставы замоўчваньня сьмерці, на Захадзе сытуацыя адрозная. Вось што пра гэта піша беларуска з Парыжу, Віржынія Шыманец:

*«Ты ведаеш, я адчувала, у Беларусі што людзі ня шмат размаўляюць пра сьмерць, а жывуць зь ёй. У Францыі сьмерць — гэта табу. Ніхто не жыве з гэтым. Вы стары, значыць, вы паміраеце ў шпіталю, ніхто ня ведае дакладна, як людзі ўміраюць. Ніхто ня думае, што гэта рэальна. Сьмерць можна ўбачыць у тэлевізіі. Гэта далёка. Гэта здымка. Паміраюць у Косаве, Чачэніі, Руандзе, Чарнобылі. А бліжэй — сьмерці няма ці мала... Калі сьмерць рэальна ўваходзіць у жыцьцё, усё вельмі чыста й хутка здараецца. Я ня ведаю, як гэта на Беларусі, але я чула, як людзі размаўляюць пра сьмерць і як жанчыны нараджаюць. Надзеі няма — у сьмерці, як і ў нараджэньні. Альбо — ёсьць надзеі ў сьмерці больш, як у нараджэньні? Гэта рэальна, і гэта жыцьцё. Гэты лёс выглядае так рэальна, што яго могуць уявіць сабе нават дзеці, як "Гансэль і Грэта". Я ня думаю, што ў Беларусі гэтая тэма маргінальная. Зірніце, колькі людзей прачыталі "Чарнобыльскую малітву"? Зірніце, які культ вайны ёсьць яшчэ ў Беларусі? Эміграцыя: я памятаю, што дзед заўсёды тлумачыў, што ён эміграваў, каб не памерці. Гісторыя: аб чым гісторыя гаворыць? Аб тых, хто цяпер пад зямлёй. Постмадэрнізм? У нас, пасьля Косава, размаўляюць аб постпэсымізьме. Гэтыя кірункі нараджаліся таксама супраць або за ідэю, што мы*

---

[416] *«Elizabeth Kobler-Ross's work as a psychiatrist with the terminally ill resulted in the publication of On Death and Dying, which challenged many 20th-century taboos and attitudes associated with death. Reacting to the isolation and sanitization of death she encontered in the hospitals she worked in, Kobler-Ross sought to make the medical establishment, and society, pay attention to the physical and psychological needs of the dying. Her work has resulted in the spread of the hospice movement in America, and in a more dignified and humane approach to the end of life».* (The New York Public Library's Books of the Century / Edited by Elizabeth Diefendorf. New York — Oxford, 1996. P. 100.)

*ўсе разам ідзем у мур, і што мы ўсе жывём пасьля надзеі. Як думаць пасьля Гітлера, Сталіна, Хірашымы, Чарнобылю й г.д., назовы якія адзначаюць прасторы сьмерці, насільля, цішыні?»*[417]

У падсавецкім грамадзтве сьмерць атрымала іншы статус, паўлегальны, які ўскладняе ўсякае знаёмства, за выняткам асабістага. Стаўленьне тое — савецка-беларускае — адлюстроўваецца ў стаўленьні да могілак, якія, у сваю чаргу, ёсьць адлюстраваньнем сьмерці. Падзеі апошняга часу, з Кальварыйскімі могілкамі ў Менску, з Курапатамі, — найлепшыя таму прыклады.

Могілкі — вельмі дакладнае люстэрка; месца, дзе ляжыць нябожчык, помнік або надмагільле з эпітафіяй — вось ідэя музэю продкаў (экспанат + шыльдачка з надпісам-тлумачэньнем), куды мы павінны ісьці на Дзяды[418]. Таму стан могілак — тое нашае стаў-

---

[417] З электроннага ліста Віржыніі Шыманец да аўтара ад 03.12.1999.

[418] *«Каб выразьней ахарактарызаваць гэтае спрадвечнае паганскае сьвята, прыстасованае да хрысьціянства, дык падам успамін-уражаньне ўдзельніка гэтага сьвята, калі ён быў зусім малы.*

*У суботу ясны, ясны сонечны дзень. З хаты вынесены ложкі, лавы, стол і ўсе іншыя рэчы да качарэжніка й таўкачоў. Пасьцель і ўся іншая адзежа праветрана й прасушана. Усе іншыя вынесеныя рэчы вымыты й высушаны. У хаце вымыты сьцены, стол, вокны й дзьверы. Удзень мама вынула зь печы тры вялікія булкі белага (зь веянай мукі) хлеба й каля дзесяці маленькіх піражкоў для ўбогіх. Адвячоркам усе вынесеныя рэчы ўнесены ў хату й пастаўлены на месца. Увечары тата зарэзаў барана.*

*Калі мы на Дзяды рана сьнедалі юшнік з авячыны й белаю капусту, дык сусед Янка пытаўся праз вакно: "Ці трэба гарэлка?" Але тата сказаў, што ня трэба.*

*Настае шарая гадзіна. Па кутках цямнее. Мама зь печы вымае місы й місачкі, цёрлачкі й чыгунчыкі. Гэта былі тыя стравы, што варыліся зраньня й ладзіліся да вячэры. Мама стаўляе гэту ежу на лаўку ля печы, бо трэба яшчэ паліць печ ды варыць болей страваў, бо трэба, каб на гэту вячэру было дванаццаць страваў. Прайшло больш са гадзіну часу. У печы канчае паліцца. Мама дастае зь печы яшчэ дадаткова звараныя стравы.*

*У хаце пануе ўрачыста-сьвяточны настрой. Стол засланы белым абрусам. Пасярод стала стаіць запаленая сьвечка ў кубачку з насыпаным жытам. На покуці сядзіць тата, ля яго на аберненым гарцы стаіць газьнічка. Тата з кнігі адчытвае літанію за душы змарлыя, а ля яго сядзіць Ганна (старэйшая сястра 12 гадоў) і яму дапамагае. Яна адчытвае "Выбаў іх, Божа". З другога боку тату сядзелі мы з Марыляй. Мы яшчэ зусім ня ўмелі маліцца, дык раз-пораз хрысьціліся. Янка, самы старэйшы брат (гадоў 15), ляжаў на печы. Мама, гаворачы пацеры, насіла на стол стравы. Яна некалькі разоў спыняла пацеры, падыходзячы да печы, ды клікала Янку да стала. Калі ўжо ўсе стравы былі на стале, дык мама абнесла іх наўкола запаленай сьвечкаю, гаворачы: "Вечны адпачынак". Нарэшце Янка зьлез з печы ды сеў на ўслоне. Калі маленьне скончылася,*

леньне і да сьмерці, і да продкаў, і да сваёй спадчыны як духовай, гэтак і матэрыяльнай.

Што пытаньне сьмерці ў літаратуры, ейнае адлюстраваньне, нават стаўленьне да яе вымяраецца не палітычнымі паглядамі — дакладней, ня толькі палітычнымі, — выдатна ілюструе сытуацыя з успрыманьнем творчасьці Ўладзімера Жылкі, якога яшчэ напрыканцы 1920-х гг. разумнік Юры Бярозка спрабаваў абяліць ад эпітэту «пэсыміст»[419]. Вось цытата з артыкулу эмігранта Язэпа Менскага (Ізыдара Плашчынскага) «Уладзімер Жылка» ў часапісе «Конадні»:

*«Выбраная Жылкам эміграцыя ў чужы край не магла не зрабіць уплыву на ягонае творства ды помсьцілася на паэце. Адсюль у ягонай паэзіі пашыраюцца матывы, адменныя ад вышэй разгляданых. Паэта пачынае пісаць пра "сьмяротны пах" ды "боль затоенай тугі ў кволым паху зьвялых кветак", пра сваю трывогу "ў бездарожжы, у бяспуцьці" зь няўцешным — "лёс нямілы" — "крыж пахілы і жарства", пра могілкі з крыжамі, сярод якіх лірычнае "я" ахапляе думка, "што маладосьць прайшла мая, што я астыг, калісьці сьмелы, калісь гарачы, яркі я", што чалавек ідзе "няроўным хібкім крокам", як "год тужліва-шалых сын". Паэтава ўвага запыняецца на вобразах духова-маральнага чалавечага ўпадку й кананьня, навет само лірычнае "я" трапляе пад уплыў, няхай і часовы, духовай выбітасьці. Але важна адцеміць, што Жылка, зварачаючы ў той час сваю творчую ўвагу на моманты кананьня жыцьця, ніколі не акцэнтаваў сваёй думкі й пачуцьця, не абрываў іх на закончанай і безвыходнай нірване»*[420].

---

*дык мама сказала да Янкі: "Чаму-ж ты, маё дзетка, гэтак робіш?" "А вы што робіце? Гэта-ж паганскае сьвята; ксёндз казаў, што грэх гэта сьвята сьвяткаваць". Тата нічога не адказаў, стаў распачынаць вячэру».* (Адам Варлыга [Язэп Гладкі]. Дзяды (успамін). Рукапіс перахоўваецца ў архіве БІНіМу.)

[419] *«Зь некаторага часу слова "пэсымыст" стала ў нас за лаянку. І стала гэткім не без падставы. У нас пэсымызм зьяўляецца вынікам або няпэўненасьці, або стомленасьці. Пасьля першага агульнага азнаямленьня з Жылкавымі вершамі лёгка і гэтага паэта Заходняй Беларусі назваць пэсымыстам. Ня рэдка пануюць над Жылкам цяжкія настроі. Пра сябе поэта ня рэдка думае з горычу. [...] Але ў тым і справа, што Жылка бадай не вылучае свайго асабістага лёсу ад лёсу колектыўнага. "Наш лёс" для Жылкі тое-самае, што і "мой лёс". Жыцьцярадасьць — прыгожая, патрэбная і разумная рэч, але трэба прызнаць для чалавека права быць сумным, калі бязьлітасна прыгнятаецца і вытручваецца ўсё, што чалавеку гэтаму асабліва міла».* (Бярозка, Юры. Уладзімер Жылка // Узвышша. 1928. № 2. С. 158.)

[420] Менскі, Язэп. Уладзімер Жылка // Конадні. 1954. № 1. С. 76.

Ня дзіва, што літаратуразнаўца Ўладзімер Калесьнік, аўтар манаграфіі пра паэта[421], піша наступнае: *«Калі чытаць асобныя інтымныя вершы паэта гэтай пары (1923 г. — Л. Ю.) без біяграфічнага кантэксту, дык можна памылкова прыняць іх за праяву ўпадніцкіх настрояў, уласцівых літаратурнаму дэкадансу. На самой жа справе гэта быў праўдзівы адбітак асабістай трагедыі смяротна хворага мастака. Прачытаныя ў кантэксце аўтарскай біяграфіі, такія творы нечакана выяўляюць унутраную мужнасць, рысу, якую слушна заўважыў у Жылкавай натуры Леапольд Родзевіч, пішучы да яго: "Моцны, браце, маеш дух, калі жартуеш у час, як кроў з горла ідзе". Праяваю мужнасці, а не слабасці лічыў Юліюс Фучык размовы са смерцю Іржы Волькера, гэта ж адносіцца і да дваццацічатырохгадовага Жылкі»*[422]. І далей: *«Дыялог са смерцю становіцца скразною тэмай інтымнай лірыкі Жылкі. І амаль нідзе паэт не паддаецца слабасці, упадку духу. За гэтым ён сочыць»*[423].

Насамрэч усё зусім ня так. Жылку не было патрэбы выяўляць мужнасьць пры сустрэчах зь сьмерцю, бо ён любіў яе — як мастак, як творца. Нездарма ж меў *«лятунак выдаць кніжку, не больш за 30–50 вершаў, выключна з матывамі кахання, смерці, хараства, прыроды, менскіх тавэрнаў і падобнага»*[424].

Зрэшты, Жылку сьмерць вабіла й як чалавека, думаньніка. Вось колькі цытатаў зь ягонага дзёньніку:

*«15 сакавіка. Смерць саўсім не страшыць, нават больш: яна жаданая госця. Пужае жах жыцця — жорсткі і няўломны, няўмольны. Я баюся пустаты і хаосу, а яны паўналадныя. Песні хаосу заўсёды з намі, чортавы, праклятыя песні. Толькі на час праяснее неба нашага духоўнага свету, і здаецца (здаецца толькі) гармонія. Ах! Як цяжка жыццё, які велізарны цяжар»*[425].

*«6 кастрычніка. Такім чынам, я зноў саджуся пісаць. Баліць і гарыць галава, баляць грудзі. Дактары кажуць, што ў мяне вельмі сур'ёзна ў лёгкіх, трэба лячыцца. Але, Божанька, я так утаміўся, такі цяжкі быў мой шлях, такі пакутны, што я ўтаміўся. Мне скарэй хацелася б смерці. Хутчэй адпачыць. Я ж маю права аб гэтым марыць, як працаўнік, натаміўшыся за дзень, мае права, павячэраўшы, легчы спаць. (...) ...Так, безумоўна, так — памерці радасць, але страшна падумаць, што прыходзіцца (а мо і далей прыйдзецца) жыць кульгаючы, хвораму і разбітаму. Так часта прыходзіць здрадная, салодкая думка — прыскорыць канец. Гэта*

---

[421] Калеснік, Уладзімір. Ветразі Адысея. Мінск, 1977.
[422] Тамсама. С. 155–156.
[423] Тамсама. С. 156.
[424] Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы. Мінск, 1998. С. 274
[425] Тамсама. С. 152.

*найлепшае выйсце, але… але я дурань і слабы, бязвольны. А мо хапіла б сіл, а пераконанасці ў гэтым няма!»*[426]

Уладзімер Жылка быў ня першы, як думаў ён сам[427], хто спрабаваў зазірнуць па той бок чалавечага існаваньня ў паэзіі, але, верагодна, яго можна назваць адным зь песьняроў сьмерці. Як хораша напісаў Міхась Скобла, *«Уладзімір Жылка ведаў пра сваю хваробу, успрымаў наканаваны лёс спакойна, нават такую непаэтычную (вось з гэтым цяжка пагадзіцца. — Л. Ю.) з'яву як смерць не цураўся пускаць на цвінтар свайго ціхага храма. А як жа — спрадвеку ў храме не толькі благаслаўлялі на новае жыццё, але і адпявалі. Смерць мелася быць адным з матываў задуманай ім кнігі. Яе, каго паэты звыклі малюваць кашчавай і бяззубай, паэт называе жаданай госцяй. Ягоная цудоўная элегія "Смяротны пах" гучыць як прычашчальная малітва. Напярэдадні з'яўленьня на Беларусі новай літаратурнай плыні віталізму (што абазначыцца творчасцю Я. Пушчы, У. Дубоўкі, А. Бабарэкі) Жылка як бы пачынаў ад адваротнага, спавядаючы мартызм»*[428].

Да вершаў з трэнічнымі матывамі, дзе чысты пэйзажны лірызм пераходзіць у лірызм трэнічны[429], належыць «Сьмяротны пах», «Зімовае», «Бяспынна, глуха», «Так, няшмат», «Прытулі, сястра, слабога», «Не кляні, о анёл-абаронца!», некаторыя іншыя. Ужо адзін пералік сьведчыць пра тое, што сьмерць у Жылкавай паэзіі заходзіла далёка за цьвінтар — аж да самага алтара. Бо яна — «сястра», «каханка-сьмерць», «як маці», «сьмерць-збаўца». Да яе паэта ідзе «закаханым», «з тайнай радасьцю спатканьня». Менавіта ёй — «апошні верш» («Прытулі, сястра»), бо *«будзе добра, лёгка, ціха, / Супакойна, люба мне»*.

*Як тастаменту новага Бог,*
*Сваёй смерцю ён смерць перамог.*
*Варажы, варажы, варажы,*
*Раскрыжуй на ружовым крыжы,*
*На ружовым крыжы сярод рож,*
*Варажбою мой боль упрыгож.*

---

[426] Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы. С. 158.

[427] Зь ліста да Антона Луцкевіча: *«Перасылаю Вам для альманаха вершык. Гадаю, што ён зусім літаратурны, і прыміце яго як нясмелую спробу (мо й першую ў нас) запыніцца перад праблемамі Вечнасці і Смерці».* (Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы. С. 262.)

[428] Скобла, Міхась. Шукальнік хараства // Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы. С. 19–20.

[429] Выраз Антона Адамовіча. У кн.: Жылка, Уладзімір. Творы. Да 20-х угодкаў сьмерці / Пад рэдакцыяй і з камэнтарамі Ант. Адамовіча. Ню Ёрк, 1953. С. 45.

*Як праб'е немінучая чвэрць,*
*Ах, якая прыгожая смерць*[430].

І да Жылкі, і пасьля яго нашыя паэты зьвярталіся да гэтай тэмы, але наўрад ці хто стаўся большым за яго песьняром Сьмерці.

То якая яна, нашая сьмерць?

*«Міфічная істота, якая ўвасабляла постаць смерці і нябыту, у крыўскім фальклоры дахавала некалькі эпітэтаў, якія характарызуюць яе даволі ўсестаронна. Да гэткіх належаць Баба Юга, або проста Югася (прыносіць зіму і завеі, рас.: вьюги), Мара, Смерць (валадарка мораку, цемні, нябыту) і, урэшце, Кастуся (якая не мае цела, а толькі адны косці; зраўняй прыказку — Баба Юга, Касцяная нага). Кожны з гэтых эпітэтаў акружаны ў народным фальклоры цэлым цыклам легендаў-міфаў або забабонаў, якія падробна і ўсестаронне характарызуюць міфічную постаць смерці. Падобна як страшному Лесавіку народ надаў, з боязні, каб не ўкваліць яго, эпітэт Дабрахот, гэтак і да эпітэта смерці Кастуся дадаюць яшчэ з боязні другое акрэсленне яе – Ласкавая: "Ласкавая Кастуся". (...) Гэты эпітэт, надаваны смерці нашым народам "Ласкавая Кастуся", характарызуе глыбока філасафічны погляд народа на смерць, каторая прымаецца ў некаторых здарэннях не як страх і зло, а як вышэйшая ласкавасць. Каб дайсці да гэткай характарыстыкі смерці, на гэта трэба быць народам з дужа старой культурай і з вельмі яркімі перажываннямі ў мінуўшчыне, якімі і сапраўды могуць пахваліцца адзіна крывічы на славянскім усходзе»*[431].

Сувязь творчасьці Ластоўскага з масонствам ужо закраналася нашым літаратуразнаўствам[432]. Тут можна выказаць яшчэ здагадку, што пагляд Ластоўскага на сьмерць як на найвышэйшую ласкавасьць і пошукі доказаў у нашае гісторыі атрымлівае дадатковы сэнс і часткова зьяўляецца адлюстраваньнем масонскага вучэньня, якое імкнецца *«выпрацаваць у сваіх адэптаў звычку да думкі пра сьмерць, быццам уздымаючы іх вышэй за міжвольны жах»*[433]. Для масонства таксама характэрна стаўленьне да сьмерці як да *«таямнічай гульні»*, *«нежахлівага жаху, што нязьменна вабіць чалавека»*[434]. Гэтаю засяроджанасьцю на пытаньні сьмерці й тлумачыцца

430 Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы. С. 126.

431 Ластоўскі, Вацлаў. Выбраныя творы. Мінск, 1997. С. 408–409. Упершыню: Крывіч. 1926. № 11 (1). С. 107.

432 Юрэвіч, Лявон. Камэнтары. Менск, 1999. С. 31–48; Барысенка, Вольга. Творчасць В. Ластоўскага ў ідэйна-мастацкім кантэксце беларускай літаратуры пачатку XX ст. Аўтарэферат дысертацыі. Мінск, 2000.

433 Морамарко, Микеле. Масонство в прошлом и настоящем. Москва, 1990. С. 153.

434 Тамсама. С. 16.

масонская сымболіка: труна, косьці, чэрап, што былі прызначаныя прывучваць да думкі пра сьмерць.

Пра сьмерць льга думаць нават з гумарам, плянуючы яе, як адбылося з Савостам Заблоцкім, героем апавяданьня Лукаша Калюгі «Шкодны вісельнік», што цудам захавалася ў архівах на эміграцыі (БІНіМ) і было выдрукаванае на бацькаўшчыне[435].

«Што яно?» — гэта, відаць, трохі больш за проста назоў аднаго з апавяданьняў Максіма Гарэцкага[436].

---

[435] Калюга, Лукаш. Шкодны вісельнік // Спадчына. 2001. № 4. С. 38–43.

[436] Пра гэта задумляўся й Антон Луцкевіч (Антон Навіна): Адбітае жыцьцё. Лекцыі і стацьці з беларускае адраджэнскае літэратуры. Кніжка 1. Вільня, 1929. С. 78–79. Цытаты з твораў Максіма Гарэцкага, прыведзеныя Антонам Навіной, падаюцца *разрэжаным курсівам*):

*«Адкуля ўсё і што яно?» — вось пытаньне, якое паўстае перад Гарэцкім і яго гэроямі, выведзенымі ўжо ў першых ягоных апавяданьнях, надрукованых у зборнічку «Рунь» (Вільня, 1914 г.). Гэтае пытаньне ўжыта Гарэцкім як загаловак вязанкі настрояў «Што яно?». А настроі гэтыя — такія характэрныя для таго «новага чалавека» ў нашай вёсцы, якога ўжо кранула цывілізацыя.*

*Адвечнае пытаньне аб жыцьці і сьмерці… Вось, на магіле любага — у начной цемры — яна, няўцешная, адзінокая, пакінутая. Жыцьцё было поўна шчасьця і радасьці, яно суліла радасьць бясконца, ды сьмерць разьбіла ўсё… «І адкуль яно ўсё? І чаму яно ўсё?»*

*— «Дзе душа яго, дзе дух яго?*

*— «А ў труне? Ён… Ня такі, ня жывы, страшны…*

*— Мёртвае цела, ня ён… Парахно, труп… Як тады, на хаўтурах, цяжкае паветра…».*

*— «Якжа гэта, няведамы Найвышні? Як яно? Жыў, хадзіў, любіў… Пакінуў, памер, няма яго… Трухляціна… Косткі, чэрап, попел…»*

*А вось другое — загадковае, таёмнае. Нейкая дзіўная сіла прыроды — прыцягваючая сіла месяца, які «з адвечнай маўклівасьцю цягне да сябе маленькую, сінявочкую Антосю, падыймае яе, малютку, узводзіць на высокую страху». Дзіўное зьявішча люнатызму… А сколькі дзіўных дум і настрояў будзіць сьвятло месіка ў нашай душы?*

*«Думаецца бешта ціхае, а неспакойнае…»*

*«Як прыгожа, як цудоўна люба, якое вялікае мастацтва ў кожнай драбязьніцы з творчасьці Вялікай Непазнавальнай Сілы!»*

*«Прыемна, люба, нястрашна, а неспакойна…»*

*«Адылі-ж падажды… У тваім ціхамірры няма спакою… Ты адбіраеш спакой… Нашто цягнеш к сабе, цягнеш, маўчыш?»*

*І, змучаны гэтым маўчаньнем без адказу на ўсе думкі-пытаньні, прабуджаныя дзіўным месячным сьвятлом, чалавек кідаецца ў роспачы на зямлю, і, «пачуваючы цёплыя, сьмешныя сьлёзы на вачох, зламаны нясходнымі сіламі», шэпча:*

Гэта тое пытаньне[437], што кваліла пісьменьніка, штурхала да спазнаньня ці то душы беларуса, ці то ягонай сьмерці: *«Незразумела, уцяміць не можна, што за штуковіна такая, — ламаў галаву медык, і на глыбіні ягонай душы пачалі капашыцца вобразы таемнага, страшнага, шчыра-беларускага»*[438].

Цяжка знайсьці адказ на пытаньні. Вось і студэнт-мэдык, Архіп Ліпкевіч, дакрануўшыся да *«роднага карэньня»* (назоў іншага апавяданьня Гарэцкага), губляецца ў здагадках-роздумах:

*«Мы не ведаем, што будзе пасля нашае смертухны, а на гэтым свеце на ўсё адгадкі знайсьці не можна*[439]*, шукай не шукай. І шчасліў той, хто мірыцца лёгка з гэткім будаваннем жыцця або хто бадай што не думае аб гэтых "шалёных" пытаннях, ці ў беганні за кавалкам хлеба забывае аб іх, шчасліў ён. І гора, вялікае гора таму, хто захоча хоць на адзін момант, адным вокам зірнуць на той бок заслоны! Яму адзін шлях к разгадцы, шлях страшны і, галоўнае, няпэўны, няпэўны шлях, і гэты шлях — смерць. (...) Нічога не ведаем, не ведалі і ведаць не будзем... Сэрца пачне біцца дужэй і сціхне, а нешта чорнае, вялікае стане перад вачмі, нейкія ўзоры*

---

*— «Што тама? А? Што тама?»*

*— «Вума арашуся, розум страчу, галовачка мая бедная, ломіцьжа яна, баліць, памуцілася ўсё, — гняты з сажалкі там, дзёўбаець у віскох, гарыць...»*

*— «Пуста на сэрцы... і нічога ня ведаю... І няма ўжо чаго рабіць... Думкі мае, лятуценьні мае, ідэалы мае... Скончылась дарога, няма куды бегчы-хавацца... Куды ісьці далей? Нічога і нікога няма ў мяне...»*

*А далей — нейкая «чартоўшчына», чары, чорнакніжства...*

*Вось куды заводзіць магутная, нічым нястрымная патрэба першабытнага чалавека, толькі-што збудзіўшагася культурна, усё разьведаць, усё пазнаць! Раней яму хватала ведаць аб Богу і Чорце, верыць у розных духаў і страхаў, паважаць таёмную сілу ведзьмароў... А цяпер? Старая вера памерла, а культурныя здабыткі чалавецтва не далі дагэтуль разумнага, здаволіваючага адказу на ўсе «праклёнвыя пытаньні». І вырываецца з душы новага народнага інтэлігента балючы крык-стогн:*

*«Чараўнікі сучасныя! Скажыце, як нячысьцікам душу прадаць, каб толькі спытацца нешта?»*

*«Вера, вера! Вера малая! — Няма веры ні ў тое, ні ў гэта, а жудасны кірунак ёсьць, ёсьць ён пракляты... На што мне далі яго, на што?»*

*«А быў-жа я некалі вясёлы, сьмяяўся-ж я...»*

[437] Цікава параўнаць беларускае «што яно?» з расейскімі «хто вінаваты?» ды «што рабіць?» на этнапсыхалягічным узроўні.

[438] Гарэцкі, Максім. Творы. Мінск, 1995. С. 18.

[439] Вылучана Максімам Гарэцкім.

*мітусяцца, і так добра, ладна ляжаць. Навука, чэрці, зданнё... Нічога не ведаем... Бог, чэрці, душы... Не ведаем...»*[440]

Дзіўна, але тыя самыя пытаньні займаюць і Янку-чарнакніжніка, чалавека зь іншым кругаглядам, адукацыяй, сьветабачаньнем: *«Так было, так ёсць, так будзе, і немаведама, адкуля яно гэта ўсё, хто гэта даў і што будзе пасля смерці? Памёр, згінуў... а сілы таёмныя?? Ніхто нічога не бачыў... З таго свету ніхто не казаў. Можа, і таго свету няма? Дык што ж тады, як тады? Нашто ж такі сьвет стварыў?»*[441] Што аб'ядноўвае гэтых двух? Хіба толькі роднае карэньне...

І вось ужо ад нявырашаных пытаньняў, у роспачы пытаецца (герой? аўтар?): *«Пaглядзіш на жыццё яе і замаркоцішся. І памерці хочацца. Жыццё, жыццё, ці ж ты вартае таго, каб жыць?»*[442]

Але трэба сказаць, што сумніву адносна выгляду сьмерці ў Гарэцкага не было[443]. Была патрэба зразумець сьмерць; прыцягальнасьці не было.

*«Браму скарбаў сваіх зачыняю. Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы.*

*Дык слава жыццю!*

*Слава і смерці!»*[444]

А якое ўяўленьне аб нашай сьмерці ў фальклёры?

*«Śmierć w wyobrazni ludu białoruskiego, jest to, z malemi odmianami, szkaradna, wiecznie blada baba z kosa i miotła w reku, zlozona z samych kości, okrytych skora, ktore grzechocza, gdy ona idzie komus odebrać zycie; grzechotu tego jednak nikt nie slyszy oprocz denata. Wskutek swej kościstości zwana bywa Kościa albo ciotka Kostomacha — Kaścia albo ciotka Kastomacha, to tez czlowiek stary podczas niedomagania mowi o sobie lub inni o nim mowia: "juz czyha na mnie (na niego) ciotka Kostomacha"»*[445], — пісаў адзін з клясыкаў беларускіх этнаграфічных дасьледзін Часлаў Пяткевіч.

---

[440] Гарэцкі, Максім. Творы. С. 24–25.

[441] Тамсама. С. 49.

[442] Тамсама. С. 51.

[443] *«Забіты чалавек, забіты чалавек. Што тут асаблівага? Здаецца, нічога. А як ўяўлю сабе тыя страшныя, мутныя, мёртвыя вочы, вывернутыя мазгі, кроў, сьцягнутыя сутаргай і пастаўленыя ўгору адубеўшыя рукі са сціснутымі кулакамі, — тады толькі чую значэньне слоў "забіты чалавек"»* // Гарэцкі, Максім. Творы. С. 382.

[444] Гарэцкі, Максім. Скарбы жыцця // Полымя. 1993. № 2. С. 34.

[445] Pietkiewicz, Czeslaw. Dusza i śmierć w wierzeniach białorusinow // Ziemia. Warszawa. 15 maja 1930. T. XV. № 10. S. 190–195.

Багіню сьмерці называлі Паляндраю. *«Паляндра, кажуць беларусы, знаходзіцца ў варожых адносінах з людзьмі і таму рада бывае, калі людзі часцей паміраюць: яна адразу ў выглядзе пачварнай жанчыны з'яўляецца ў хатах паміраючых людзей і там забірае душы. Душы гэтыя ў яе забірае Баба-Яга — касцяная нага, з якою моцна сябруе, таму што яны разам раз'язджаюць у адной жалезнай ступе. Прымаўкі: Багдай цябе паляндра змарнявала, Паляндра ўчамерылася, каб ты запаляндраваўся. Калі беларусы гавораць пра смерць якога-небудзь дарагога чалавека, то звычайна адплёўваюцца, кажучы: а кыш, паляндра, не табе б, а кыш!»*[446]

Прыказкі нашыя адбілі «народнае» стаўленьне да сьмерці, цьвярозае: немінучасьць сьмерці (далей, далей, бліжэй к сьмерці; жыві, будуйся й на сьмерць рыхтуйся)[447]; філязафічнае: сьмерць як канец клопатам і перажываньням (жыць, як набяжыць, а памрэцца — усё мінецца); сацыяльнае: роўнасьці перад сьмерцю (сьмерць не перабірае й не мінае; сьмерць усіх зраўняе)[448].

Эўфэмістычныя фразэалягізмы адлюстроўваюць стаўленьне да сьмерці, пазбаўленае ўсялякіх сантымэнтаў: галаву злажыць, косьці злажыць, ажаніцца зь зямлёю, Богу душу аддаць, чорту душу аддаць, галавою налажыць, душою загавець, ногі працягнуць, даць дубара, галаву скруціць, ногі выпруціць.

Аблічнасьць сьмерці розьнілася ад паэтычнай (панна сьмерці з вогненным вянком на галаве[449]; дзяўчына, убраная ў белае) да клясычна-трывіяльнага (жанчына, загорнутая ў белае, бледная й схуднелая, ці — шкілет у белым саване з доўгаю й вostраю касою; нячыстая істота, што выглядае як шкілет, з касою). Але ёсьць і «свойскія» вобразы: сьмерць — баба худая, вялікая, зь вялікімі зубамі, з касою й зь мяцёлачкаю ў руках.

У сваім клясычным выяўленьні сьмерць паўстае ў вершы Ўладзімера Дудзіцкага:

*Сьмерць жыўцом хутае плечы,*
*уціскае ў дамавіну…*
*Выскаляецца ад млосьці,*
*кіем стукае у дзьверы…*[450]

---

[446] Міфы бацькаўшчыны. Мінск, 1994. С. 61.

[447] Асобныя з прыказак сталіся тэзамі мастацкіх твораў: *«сьмерці ў бутэльку не заткнеш»* (Зьмітрок Бядуля, «Сярэбраная табакерка»), *«колькі ні вярці, а прыдзецца ўмярці»* (Франц Аляхновіч, «Круці ні круці, а трэба памярці»).

[448] Беларуская народная творчасць. Прыказкі і прымаўкі. Т. 2. Мінск, 1976. С. 405–418.

[449] Жыцця адвечны лад. Беларускія народныя прыкметы і павер'і. Кн. 2 / Укл. У. Васілевіч. Мінск, 1998. С. 1082–1085.

[450] Дудзіцкі, Уладзімер. Напярэймы жаданьням. Нью Ёрк, 1994. С. 199.

Адзін з устойлівых архэтыпаў гэткіх твораў — матыў перажываньня сьмерці й адраджэньня, непасрэднага кантакту зь ёю ў вобразах вандроўкі ў іншы сьвет. Перажываньне ўласнай сьмерці вядзе адэпта да тайнаў несьмяротнасьці, трансцэндэнцыі. Жывучы з думкаю аб сьмерці, ён навучаецца пераадольваць страх перад ёю, ён абнаўляецца. Сьмерць жывога, ужывую — містычная спроба спасьцігчы агульны вобраз сьвету, спроба зразумець сябе самога, далучэньне да таго досьведу, якога жыцьцё даць ня ў стане[451]:

*Шмат разоў гаварыў я сьмерці*
*пра звычайную рэч такую:*
*не жыву, і мне цяжка памерці,*
*хоць і ты ля касьцей такуеш.*
*Абдымі мяне ўпол рукамі,*
*як калісьці рабоў у Рыме…*
*Ці з пятлёю на шыю камень*
*мора з радасьцяй цела прыме.*
*Непрыемна — на слуп дарогі*
*ці на гострыя сэрцам восьці,*
*хай сьмяецца і кпіць двухногі*
*з пакалечанай маладосьці.*
*Наракаць на цябе я ня буду:*
*я-ж ад гора ня ўмею плакаць,*
*засьмяюся, як долу груды*
*пафарбуе ружовая мякаць…*
*Зашыпела у злосным блудзе,*
*быццам сэрца маё зжавала:*
*«Найцяжэйшаю карай будзе*
*табе, грэшнаму, сьмерць жывая»*[452].

Бачаньне сьмерці ў гэтага паэты, эсхаталягічнага паводле сьветаадчуваньня, наагул вельмі разнастайнае; у яго сустракаюцца вельмі рэдкія для нашае паэзіі матывы рэінкарнацыі, пераўвасабленьня пасьля сьмерці:

*Зь зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю,*
*каб пасьля тленьня цела, ліній, нормаў*

---

[451] Падобная практыка распаўсюджаная ў эзатэрычных рытуалах мэдытацыйнага характару, скрайнім выпадкам якога ёсьць культ індыйскага тантрызму з вызнаньнем багіні сьмерці Калі, даволі блізка да праўды адлюстраванага ў першым фільме пра археоляга Індыяну.

[452] Дудзіцкі, Уладзімер. Сьмерць жывая // Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью Ёрк, 1997. С. 64.

*(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)*
*укласьці зьмест свой у інакшасьць формаў*[453].

Паэты-эмігранты да тэмы сьмерці зьвярталіся часта, асабліва ў параўнаньні з паэтамі падсавецкімі. Сьмерць атрымлівала не філязофскае асэнсаваньне; пераважна яна разглядалася й прыраўноўвалася да перадэміграцыйнага пэрыяду жыцьця, і пара жыцьцё/сьмерць набывала варыянтнасьць: або Бацькаўшчына/эміграцыя, або, наадварот, эміграцыя/Бацькаўшчына[454].

Трэба адзначыць, што сьмерць у філязафічнай і рэлігійнай літаратуры традыцыйна разглядаецца як сыход, выпраўленьне, нэгатыўнасьць якога ў тым, што станцыя прыбыцьця невядомая. У казках — гэта выпраўленьне на край сьвету[455] дзеля сустрэчы зь невядомым і, магчыма, без надзеі на вяртаньне. Падобная сытуацыя ў вершах эміграцыі:

*Заставацца — небясьпечна,*
*а пайсьці — бліжэй да згіну*[456].

Сьмерць у мастацкім успрыняцьці й адлюстраваньні Ўладзімера Дудзіцкага ўбірае ў сябе як фальклёрныя, гэтак і біблійна-апакаліпсычныя рысы, праз што карціна сустрэчы сьмерці робіцца адначасна і свойска-пазнавальнаю, і клясычна-велічнаю:

*Ты наровіш, пазнаў я, употай паўзьці*
*за плячыма, туляцца і стынуць,*
*упівацца ў цела маё да касьці,*
*ценем чорным схіляцца ля тыну.*
*На паўкроку цікуеш пры сонцы хаду,*
*а па сонцы — даўгімі рукамі*
*у касьцістай істоце спустошаных дум*
*точыш, лашчыш абветраны камень…*
*Выгінаешся, кленчыш прад воблікам дзён,*
*перад першай вугоднай ахвярай…*
*Ненасытны пагляд твой, згібеньне, відзён*
*пры сьвятле і ў збоішчы хмараў.*
*Адступіся, касьцісты, жахлівы прывід —*
*цень сьмяротны сьмяротнага духу!*

---

[453] Дудзіцкі, Уладзімер. Прыйшлі і вернемся… // Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. С. 60.

[454] У адным з сваіх інтэрвію газэце «Літаратура і Мастацтва» Уладзімер Някляеў назваў эміграцыю *«рэпэтыцыяй сьмерці»*.

[455] У казках сьмерць *«набывала формы прасторавага руху»*.

[456] Дудзіцкі, Уладзімер. Напярэймы жаданьням. С. 199.

*Не скарыцца жывое на сьцежках крыві*
*перад сілаю грэшніцкай скрухі.*
*Ты наровіш, пазнаў я, употай паўзьці,*
*ценем чорным схіляешся коса.*
*Бой крыві ў маіх жылах ня счах і ня сьціх,*
*голас песьні расьце да нябёсаў*[457].

*(З паэмы «Цені сьмерці», 1944)*

Паэма Дудзіцкага «Цені сьмерці» засталася недапісанаю. Нялёгкая гісторыя была і ў аднайменнай паэмы Ўладзімера Клішэвіча[458]: надрукаваны толькі апошні варыянт[459], да таго ж невядома, ці поўны[460].

[457] Дудзіцкі, Уладзімер. Напярэймы жаданьням. С. 88.

[458] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. С. 204–205.

[459] Прыйсьце: Літаратурна-мастацкі часапіс. Саўт Рывэр, 1958. № 1. С. 27–30.

[460] *(Ноч. Паэт піша. Зьяўляецца цень замучанага)*
*ЦЕНЬ: Аб чым ты пішаш, сябра па няшчасьцю?*
*Я думаю, ты вершамі заняты надта,*
*Таму ня маеш нават часу адпачыць.*
*Пішы, пішы, хто-небудзь прачытае іх!*
*Любіў і я калісь красу мастацтва,*
*А зараз, мёртваму, яна зусім*
*Ніякага задавальненьня ня прыносіць…*
*Інакшыя праблемы нас, нябожчыкаў, турбуюць.*

*ПАЭТ: Жыцьця праблемы, ці праблемы сьмерці?*

*ЦЕНЬ: Памёршаму ня страшна сьмерць.*
*Мы дзівімся з жыцьця зямнога,*
*Завідуюць жывыя нам, памёршым.*

*ПАЭТ: Ды толькі ня ўсе, а частка зь іх.*

*ЦЕНЬ: Ня маю сілы праўдзе супярэчыць.*
*Дык раскажы хоць трохі аб сабе,*
*Як ты жывеш, як падабаецца табе*
*Воць гэты новы сьвет замежжа?*
*Чаго глядзіш? Спужаўся, можа?*
*Ня бойся, кажуць, тут свабода слова…*
*Ты можаш сьмела гутарыць са мною:*
*З жыцьцём зямлі ня маю дачыненьня.*

*ПАЭТ: І не баюся я цябе, нябожчык,*
*А толькі сам сябе баюся.*

*ЦЕНЬ: Чаму? Што сталася з табою?*

*ПАЭТ: Нічога дзіўнага ня здарылася тут.*
*каб не пакрыўдзіць госьця з таго сьвету,*
*Хачу сказаць хоць пару слоў:*
*Жыцьцё зямлі наогул — гэта пекла,*
*А разумей яго, як хочаш сам.*

*ЦЕНЬ: Я філязофію такую памятаю,*
*Яна канкрэтнага нічога не гаворыць.*

*ПАЭТ: Гаворыць, мне здаецца, больш, чым трэба.*

*ЦЕНЬ: Цяпер цябе я досыць разумею.*
*Дык на каго, скажы, там могуць спадзявацца?*

*ПАЭТ: Ня ведаю. Нічога не магу сказаць.*

*ЦЕНЬ: Спачатку я табе аб гэтым не казаў,*
*Хацеў паслухаць ад цябе паўслова.*
*Нябожчыкі сабраліся і вырашылі так:*
*Паслаць сюды, к табе, ад нас пасла,*
*Як бачыш, я абраным стаў,*
*Як самы блізкі твой калымскі сябра.*
*Наказ яны прыслалі вось які...*
*Палухаць хочаш? — Прачытаю.*

*ПАЭТ: Чытай! Я слухаю уважліва цябе!*

*ЦЕНЬ: (чытае)*
*«Скажы, дзе дзелася тваё сумленьне?*
*Няўжо так хутка забываюцца няшчасьці?*
*Успомні дзень свой страшнага жыцьця*
*І вечна памятай аб гэтым дні*
*Цябе спаткаць на кожным кроку можа*
*Мінулы твой няшчасны лёс.*
*Ці ты забыў, калі аднэй нагою*
*Ужо стаяў на веку дамавіны*
*І надта квола, напружваючы сілы,*
*Рукамі слабымі, схапіўшыся за бераг,*
*Насілу вылез з гэтай ямы сьмерці?*
*Ці ты забыў бязьмерны страх,*

---

*Ці ты забыў пра кроў сяброў сваіх,*
*Якім не давялося выбрацца адтуль?*
*Успомні ўсё! Няхай цябе дакор наш*
*За сэрца скалане, напомніць хай табе*
*Мінулае тваё яшчэ яскравей,*
*Хоць ты аб ім ніколі не забудзеш.*
*Чаго маўчыш? Чаму яшчэ ні слова*
*Не прабурчаў, аб тым, што бачыў ты,*
*Што перанёс, што перажыў учора?*
*Ты — сьведка з таго сьвету,*
*Дык скажы людзям, што іх чакае…*
*Зрабіць ты гэта можаш. Магутны Бог*
*Табе даў талент, розум, сілу,*
*Каб ты кранаў людзкія сэрцы, плавіў,*
*Каб плакалі яны ад слоў тваіх,*
*Сьціскалі моцна кулакі свае*
*І помстаю гарэлі у іх вочы…*
*Чакаем мы, калі настане час,*
*Што ланцугі зь нявольных упадуць,*
*Што там ня будуць забіваць жывых*
*І страшна мучыць іх, не даючы ўміраць…»*

*ПАЭТ: Усявышні Бог! Скажы, навошта Ты*
*Такую волю даў зямному чалавеку?*
*Няўжо Цябе ня кратае людзкая кроў,*
*Няўжо яны так цяжка награшылі?*
*І моляцца яны Табе і дзень, і ноч,*
*А Ты ня чуеш іх малітваў, Божа!*

*ЦЕНЬ: Дык што ты зможаш мне сказаць?*

*ПАЭТ: Я думаў так раней, як сёньня вы,*
*Ды погляд мой зусім пераменіўся.*

*ЦЕНЬ: Чаму? Хацеў бы ведаць я.*

*ПАЭТ: Хварэюць людзі прагнасьцю нажывы,*
*І гэтаму вар'яцтву няма межаў.*
*Здараецца — і надта часта — так,*
*Што тысячы ляжаць дзесь у панчосе,*
*А чалавек памёр з галоднай сьмерці.*
*Мы дзівімся і мы да сьлёз сьмяёмся.*
*Адны нажываю заняты толькі*
*І думаюць пра ўзросты капіталаў,*
*Другія прадаюць людзей галовы*

Тут цікава адцеміць сувязь сьмерці з паняткам «цень». Цень — гэта і перасьлед («ходзіць, як цень»), і незразумелая трывога, неспакой, і нутраны стан няўпэўненасьці («цень сумненьня»), і прывід, і падозраньне.

Прыкладна ў гэты ж час (1955) была напісана «сцэна» другога паэты-эмігранта, «калымскага сябры» Масея Сяднёва — «Сустрэча зь мёртвымі»[461].

Закранаў гэтую тэму Ўладзімер Клішэвіч і ў вершах: «Сьмерць Цэзара», «Сьмерць Янкі Купалы», «Сьмерць Сакрата»[462].

---

*Туды, адкуль ты сам зьявіўся,*
*А трэція рыхтуюць рэвалюцыю ў краіне,*
*І ўсіх далёкае нязнанае няшчасьце*
*Зусім ні кроплі ня турбуе.*
*Ня бачу я, каб хто падаў тады*
*Надзейна, цьвёрда руку дапамогі.*
*Здаецца мне (мыляюся я можа),*
*Чакае гэты сьвет вялікае няшчасьце.*

*ЦЕНЬ: Я ведаю зараней, што людзей чакае,*
*Хвала Табе, Усемагутны Божа,*
*Што я цяпер нябожчык!*

461 Сяднёў, Масей. Патушаныя зоры. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1975. С. 259–269.

462 Пра апошні Юрка Віцьбіч у лісьце да Антона Адамовіча зазначыў: *«Вельмі зьдзівіў мяне верш "Сьмерць Сакрата" Ўладзімера Клішэвіча, зьмешчаны ў "Бацькаўшчыне". Аўтар не разумее, што для таго, каб добра падаць сьмерць Сакрата, трэба добра ведаць ягонае жыцьцё. Менавіта таму, што аўтар апошняга ня ведае, або зусім ня ведае, ягоны верш складаецца з штампаў накшталт "нязломны дух", "пагляд арліны", "развага мудрасьці", "бязьмежныя глыбіні". У дачыненьні да Сакрата такі вось штамп, як "пагляд арліны", які аднолькава падыйдзе і да тыпова бруклінскага гангстэра, ёсьць проста недапушчальная брыдота. Першы радок, наконт вучняў Сакрата, супярэчыць 12-му. Апошнія два радкі па свайму прымітывізму выклікаюць мімаволі ўсьмешку, а гэтае ўражаньне зусім не гармануе з тэмай».* (Арыгінал ліста захоўваецца ў БДАМЛМ.)

*На тварах вучняў невымерны жах —*
*Жыцьця настаўніка палічаны хвіліны.*
*Трымае кубак ён з атрутай у руках,*
*Бясстрашны між сяброў Сакрат адзіны.*
*Атрута выпіта, і рот засмаг…*
*Нязломны дух у ім, пагляд арліны,*
*Развага мудрасьці ў яго вачах,*
*У словах генія бязьмежныя глыбіны.*
*Апошнія мудрэц прамовіў словы,*
*І вочы зачыніліся навек.*

Зусім іншы, прасьветлена-спакойны ўваход да сьмерці — у Натальлі Арсеньневай:

*Мы знаем — час плыве, па кроплі*
*кропля, ў змрок.*
*У кволай чары рук яго не ўтрымаеш.*
*Налета — ў цішыні*
*прысадаў і муроў*
*ён расьцьвіце мо' зноў,*
*але ўжо іншым маем…*
*Дык так сплялося, што —*
*ці хочацца, ці не —*
*ісьці кудысь ТУДЫ нам*
*з часам па дарозе.*
*Вось мы й брыдзём сабе,*
*а ў плаўкім тумане — абапал*
*то цьвітуць, то адцьвітаюць розы.*
*Парыпвае, хрумсьціць*
*падмоклы, гойстры жвір.*
*Сабакам верным сьцень*
*туляецца пры боку.*
*І добра.*
*Толькі менш*
*тых зораў у крыві*
*і зораў уваччу*
*із кожным новым крокам.*
*«Memento mory», гуў калісь,*
*загнаны ў кут*
*жудою небыцьця,*
*наш сьвет па цёмных норах.*
*Яшчэ й цяпер, парой,*
*на зблытаным утку*
*бярэ ён зноў снаваць*
*сваё «Memento mory».*
*Ды іншыя мы ўжо.*
*У вецер іх зарой*
*імкнемся мы зь вясной зялёнаю ў згодзе,*
*бо ведаем, што хоць калісьці*
*і памром, —*
*«Жыцьцё — нішто як сьмерць,*

---

*Спакойна адышоў у вечнасьць чалавек.*
*Схіліліся пакорліва сяброў галовы —*
*Была вялікаю, трагічнай стратай*
*Для чалавецтва сьмерць Сакрата.*

*а сьмерць — жыцьцё!»*
*І годзе!*[463]

А пачынала ж яна зь вершаў, што цалкам укладаліся ў традыцыі расейскай магільнай паэзіі — «На матыў хаўтурнага марша»[464], «Ты спытайся»[465].

У Алеся Салаўя тэма сьмерці частая, як была, бадай, толькі ва Ўладзімера Жылкі: «Крыніцы звонкае струмень…», «Нідзе не адступае», «Вароты ў невядомы сьвет», «Зямля ў вагні». «Вершамі сьмерці» назваў Антон Адамовіч творы, напісаныя летам — восеньню 1944 г. *Motto* паэтава: *«Жывому жыць. Зьнішчэньню — сьмерць».* Але *motto* больш дэкларацыйнае, бо ў вершах, дзе самыя ўжывальныя — словы кшталту *«шкілет», «труна», «мярцьвяк», «пекла», «Кастуся», «паміраньне»*, гаворыцца пра зусім адваротнае:

*І ля мяне, і ля труны*
*і века, і цьвікі…*
*Ідуць яны, ідуць яны —*
*шкілеты… мерцьвякі…*[466]

Айцец Леў Гарошка, які пісаў мастацкія творы пад псэўданімам Анатоль Жменя, бачыць сьмерць, як і належна сьвятару, у чым ён сыходзіцца з Казімірам Сваяком[467]:

---

[463] Арсеньнева, Натальля. Мы знаем // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 206–207.

[464] Арсеньнева, Натальля. Пад сінім небам. Вільня, 1927. С. 49–50.

[465] Тамсама. С. 50–51.

[466] Салавей, Алесь. Нятускная краса. Нью Ёрк, 1981. С. 117.

[467] *«Да маці над магілкай. Не гаруй ты, маці, і не забівайся, калі дзіцятка роднае, дарагонькае, як краску без пары зьвянутую, кладзеш у магілку!.. Ах, праўда — цяжка разлучыцца з каханьнем тваім, што грудзямі ўскарміла, сьлязамі абмыла, сэрцам служыла. Смутак нязьмерны шчэміць яго. Але-ж ты, маці — хрысьціянка! Дзе вера твая і спадзея жыцьця вечнага? Ці ж тут у магілцы пясковай канец усяму? Не, не! Там у сьвеце вышэйшым, дзе сьлёзы гінуць, дзе радасьць бяз меры, — ясна, што дарма забівалася над яго магілкай, зьдзівішся, што не зразумела шчасьця, скрытага ў маладой, на пачатку, або ў квеце веку, сьмерці! […]*

*Сягоньня пайду я пад разложыстае дрэва на могілках бацькоў маіх… Пагода плакучая… Загавару я да душ сялянцаў, што ‘адышлі згэтуль’ і паслухаю голасу прыроды магільнай і памалюся за душы ўсіх, што цярпелі і ўзываць буду іхнае апекі над маёй зямліцай…*

*Адчыніў я шырокую браму магільніка. Простая палісада дзеліць яго напал. На ўзгорку статуя Маткі Божай з скрыжаванымі рукамі на грудзёх. Дрэў і дрэўцаў галіны прысланяюць рады крыжоў, драўляных, простых. З мокрых пажаўцелых лістоў спадаюць каплі нябескай расы.*

---

*Між дрэў найстаршы — клён, пасярэдзіне магільніка. Пад ім яшчэ ніхто не ляжыць. Там мейсца для мяне…*

*Чаму я так люблю места памёршых? Чаму, прыехаўшы дзе на сьвежае мейсца, перш-наперш знаёмлюся з нябожчыкамі на магілах? Чаму для мяне голас магільны такі тужліва-сумны і разам блізкі, мілы?.. Вера мая! Табе дзякую за тое, што мяне знаёміш з духамі, — мілейшая мне лучнасьць з тымі, што ўжо на тым сьвеце, як з тымі, што жывуць яшчэ ў змаганьні, у далечыне ад Бога…*

*Вось стану я пад клёнам, дзе мо' спачне мая калісь галоўка, азірнуся кругом, плачу поўнай сьлязой! Колькі ўжо галіны паэты налічылі жалосных выправадзінаў на гэтай сумнай палісадзе. Колькі тут праз векі разьлягалася енку і плачу! А бацька-клён стаяў так заўсягды спакойна, разважна. Толькі дрыжаньне гальля і шэпт лісьця даводзілі, быццам клён чуе і ціха гавора малітву за спакой душы людзкой, што «нарадзілася да новага жыцьця»… Колькі тут пакаленьняў! А што-ж асталося па іх?.. Няварта было-б жыць, каб па сьмерці ўсё кончылася. Але на шчасьце — сьведка сам Бог, сьведка голас людзкасьці, — чалавек жыве і па сьмерці ў лепшай частцы сваей. Лёгшы пад крыжам, толькі пачатак дарогі прабыў: "Хоць і памёр, жыў будзе".*

*Чаго ж тут плакаць? Няхай галосяць бязьверцы! Але яны зімны… несьмяротнасьць сваю закладаюць у затраце сваей язьні і ў нябыцьці.*

*Як сьмерць прыгожа лучыць усіх. Якая стройная унія! Адно тут грамадзянства, адна вера, адна міласьць! Адзін Бог — адна людзкасьць. А гэтай людзкасьці адна міласьць Божая, або… адна ненавісьць. Так як і на гэтым сьвеце. Адзін касьцёл Божы Міласьці — і адзін збор шатанскі ненавісьці. Насупроціў… слова Божае: "Fiat lux" — станься сьвятло — і слова Ягонае: "Ecce nova facio omnia" — чыню во ўсё на нова — становяць два бакі аднэй карты бытаваньня істот разумных.*

*Гісторыя сьвету — гэта гісторыя пакоры і пыхі анёлаў і людзей. Пакора называе Бога панам сваім, пыха сябе ставіць на мейсцы Бога. Пакора хваліць Быт, пыха ніштосьць. Пакора вывышае, пыха зьніжае. Шчасьце, за каторым гнаўся род людзкі — гэта Сам Бог. Няшчасьце, каторае выбраў сабе першы і апошні грэшнік, гэта разлучнасьць з Богам. Шчасьлівы чалавек, каторы ўмее сказаць: "Бог мой і ўсё маё!"*

*Учора згасла адно маладое жыцьцё. Незадоўга прад сьмерцяй я спытаў: "Ці ня будзеш, дзіця маё, наракаць на Бога, калі забярэць цябе з гэтага сьвету?" "Не!" — адказала яно і то так проста, так лёгка, што я шаптаў: "Анёлам адным той сьвет павялічан…" Дзяўчо гэта ляжыць тут неўдалёчку. Моліцца мо' за мяне.. Спаткаемся!.. Будзь багаслаўлены час, у каторым я зьвярнуўся да Бога!*

*Бач, як азалаціла сонца жоўтыя лісты майго клёну! Касулькі яго ажывілі гэту мясьціну памёршых, і здалося мне, што гэты старэнькія крыжы з паблякшай зоркай палатнянай аднавіліся і загаманілі вечнай мовай Жыцьця з Божае ласкі. Недарма наш русьняк хіліць пакорна галаву прад гэтым знакам збаўленьня, нядарма значыць ім свае адкрытыя*

## *ЛЯ МАГІЛЬНАЕ БРАМЫ*

*У адзін з позных асеньніх дзён па дарозе на магільнік Цімох спаткаў свайго старога добрага прыяцеля Рамана і, прывітаўшыся, адразу загаварыў аб тым, што яго ў той час найбольш займала.*

*— Ведаеш, Рамане, іду на магільнік, а сам думаю, што б гэта было, каб людзі не ўміралі?..*

*— Хіба ж ты ня чуў, што кажуць старыя аб гэтым: «Як бы людзі не ўміралі, дык бы ў неба ўпіралі».*

*— Чуць пэўна ж што чуў, і яно, праўда, так ёсьць, але, ведаеш, неяк несамавіта робіцца, калі падумаеш, што вось па гэтай дарозе, па якой цяпер ступаюць твае ногі, некалі будуць несьці тваё нежывое цела вунь пад тыя дрэвы ў халодную яму.*

*— Ну ўжо тады дык холаду напэўна ня будзеш баяцца, — жартаваў Раман, — можа, наадварот, будзеш баяцца, каб ня трапіць у гарачую смалу.*

*— Цяпер дык можна аб гэтым жартаваць, але, мусіць, як пачуеш над сабою халодную руку Кастухі, дык аб жартах забудзешся.*

*— Можа тады й забудуся, але зачым ламаць сабе галаву аб тым, чаго ані ты, ані ніхто зьмяніць ня можа? Лепш ужо думаць аб тым, як выкарыстаць гэты кароткі час, пакуль нас носяць нашыя ногі, каб можна было потым з чыстым сумленьнем легчы ў дамавіну, а тады можна сьмяяцца нават самой сьмерці ў самыя вочы.*

*— Мусіць, такіх адважных мала знойдзецца.*

*— Ці мала, ці многа, гэтага ніхто ня ведае, але думаю, што, напэўна, ня стане валасоў на тваёй галаве (а ў Цімаха галава была лысая, як калена), каб усіх пералічыць.*

*— Я гавару зусім паважна, а ў цябе ўсё на жарты зьбіраецца, — крывіўся Цімох.*

*— А чаго мне перад часам у магілу перціся, сумаваць, завязваць сабе вочы чорнаю плахтаю? Ды й ты сам, як-бы прыглянуўся ўважней да таго, аб чым гутарыш, дык-бы так-жа жартаваў, а ня заводзіў хаўтурнае песьні.*

*— Ну ты, Рамане, мусіць, сёньня ўпіўся; якія ж гэта жарты са сьмерцю?*

---

*грудзі. Крыж вучыць яго веры Хрыстовай, крыж бароніць яго ад злой долі і распусты.*

*Чаму ж гэта ўзьеліся так на крыж некаторыя пісакі?.. Русьняк жыве, бо не замерла вера яго ў цудоўны знак крыжа. Русьняк зажыве паўнейшым жыцьцём, калі зглыбіць і пашырыць у сабе веру ў Хрыста ўкрыжаванага, праз каторага сьляпым вочы адкрываюцца, нямым голас даецца. Русьняк згіне, калі злыдні адбяруць ад яго веру ў Бога і Яго Сына Езуса».* (Сваяк, Казімір. Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі. Менск, 1992. С. 17, 26–27.)

*— Якія? Вось дзівак. Ты адно думаеш, што сьмерць кладзе ў дамавіну жыцьцё чалавека, а ня бачыш, што яна адначасна кладзе канец людзкому цярпеньню і адчыняе дарогу для новага жыцьця. — Сябры ішлі якраз алеяю ўсланаю апалым лісьцем. — Во глянь пад ногі, колькі тут між гэтых апаўшых асеньніх лістоў паедзеных вусенямі, пабітых градам, парваных ветрам. І вось цяпер апалі яны, згніюць, а на іх мейсца вясною дрэвы ўкрыюцца новым, сьвежым і прыгожым лісьцейкам. Або вось у тых магілах, колькі там калекаў, колькі пакрыўджаных, колькі зьняможаных, колькі друзлых старых, колькі розных хваравекіх? А каб жа людзі даўжэй жылі, дык сьвет аж кішма кішэў бы ад калекаў. А так вось спачываюць яны спакойна, а ім на зьмену прыйшлі новыя пакаленьні з юнацкімі сіламі, з анёльскаю красою, з імклівымі думкамі. А калі жыцьцё паломіць іхныя крыльлі, сьцьміць іхныя вочы, згорбіць іхныя стройныя постаці, як нас цяпер, дык што можа быць лепшае для нас, як пайсьці на вечны супачынак?*

*— Хораша ты гаворыш, Рамане, добра слухаць такую гутарку, але калі б гэта адносілася толькі да іншых, дык тады пэўна-ж дамавіну можна размаляваць прыгажэй за ўсякія палацы, але калі самому ў гэтую дамавіну легчы трэба, дык тады, нябось, скажаш: Хораша ў найме, да ня дай Бог мне.*

*— Яно не зусім так, бо я ўжо лепш скажу: Што будзе ўсяму сьвету, тое й бабінаму сыну, і пайду сабе сьледам за дзедам.*

*— Ну ў цябе-ж сёньня і настрой, усё роўна не як на магільнік ідзеш, а на якое вясельле.*

*— Магільнік магільнікам, а праўда праўдаю, і калі гэтая праўда для мяне нястрашная, дык чаго я маю маркоціцца. Вось няхай тыя маркоцяцца і лякаюцца, хто нячыстае сумленьне мае; усякія ліхадзеі, шкурадзёры, крывасмокі й злачынцы — во хто няхай сумуе. Дзякуй Богу, што на іх ёсьць сьмерць, а каб ня сьмерць, дык-бы яны на зямлі пекла зрабілі. А такія, як мы, што мы трацім уміраючы? Калі было што на сумленьні, дык не пабаімся шчыра выспаведацца, і хоць сёньня да Абрама на піва гатоў. Але тым, у каго сумленьне чарней асеньняе ночы, хто споведзі баіцца, як агню, вось аб тых ты падумай, якая на іх ёсьць іншая рада, акрамя сьмерці і пекла?*

*— Гэта праўду ты кажаш, Рамане, — ціха сказаў Цімох.*

*Сябры ўвайшлі ў магільную браму і змоўклі, толькі асеньняе лісьце шуршэла пад іхнымі нагамі*[468].

Наагул, трэба сказаць, што найбольш у асэнсаваньні сьмерці па-беларуску мы забавязаныя менавіта нашым пісьменьнікам-сьвятарам.

---

[468] Жменя, Анатоль. Кветкі і церні жыцьця… С. 103–105.

Ян Пятроўскі, акрамя перакладаў твораў Плятона, трохтамовіка ўспамінаў[469], пакінуў тры тамы «Лепшых думак чалавека»[470], дзе побач з развагамі, у прыватнасьці, пра сьмерць з «Бгагавад Гіты»[471], кітайскага фальклёру[472], Марка Аўрэліюса[473] ёсьць і беларускія, сярод якіх найбольш цікавыя — акурат Яна Пятроўскага. Вось аповед пра сьмерць ягонай жонкі Алісы:

*«Прыгожае жыцьцё — прыгожая сьмерць. [...]*

*Вочы былі закрытыя. Аліса ляжала спакойна, грудзі рытмічна й паволі знаходзіліся ў руху. Раптам яе левая рука зашавялілася, быццам шукае нечага пад лёгкім накрыцьцём. Я працягнуў да яе сваю руку, і нашыя рукі спаткаліся для апошняга разьвітаньня.*

*Хутка пасьля гэтага яна прыпадняла галаву й нешта сказала слабым голасам, але я ня мог зразумець. Па нейкай хвіліне яна зноў нешта сказала ў двух сылябах, але я й тут не зразумеўшы, прасіў яе, каб яна паўтарыла. Але яна нічога не адказала.*

*Грудзі яе паказвалі на тое, што яна яшчэ дыша.*

*Я стаяў нерухома й спакойна, памятаючы, як нехта яшчэ ў Слуцку казаў, што паміраючы чалавек павінен адысьці ў вечнасьць у цішыні й спакоі.*

*Я стаяў спакойна й глядзеў на яе.*

*Цяперака я бачу, як вочы яе пачынаюць паволі адчыняцца штораз далей і шырэй. Я гляджу ёй у вочы й атрымліваю ўражаньне, што вочы гэтыя ня бачаць ужо мяне. Грудзі паказваюць, што яна дыша яшчэ, і спасьцерагаю, што дыханьне слабее... і апошні рух.*

*Няма слоў, каб выразіць, як прыгожа Аліса выглядала: твар чысты й белы, прапалі ўсе зморшчыны, вочы закрытыя, быццам яна сьпіць, акуратна ў сваей прапорцыі знаходзіцца нос, з крышку прыадчыненых вуснаў выступае рад беласьнежных зубоў. Дзіўна, як Натура ўмее добрае чалавечае жыцьцё адлюстраваць у акце добрае сьмерці.*

*Я чую, як цяперака надыходзіць зьнекуль мамэнт цішыні, адсутнасьць Некага... назаўсёды...*

---

[469] Пятроўскі, Ян. Мэмуары. Стагодзьдзе ў рэтраспэкце. Кніга першая–трэйцяя. Флярыда, 1988–1996.

[470] Пятроўскі, Ян. Лепшыя думкі чалавека. Флярыда, 1977–1992.

[471] *«Для народжанага пэўнай ёсьць сьмерць, і нараджэньне — пэўным для сьмерці»*.

[472] *«Нараджэньне не зьяўляецца пачаткам, гэтаксама як сьмерць — канцом»*.

[473] *«Калі б хто-небудзь з багоў сказаў табе, што ты памрэш заўтра ці ў найлепшым выпадку — пасьлязаўтра, дык насілу ці стаў бы ты вельмі дабівацца, каб здарылася гэта пасьлязаўтра, калі ты толькі не запалоханы нікчэмнік? Бо ж розьніца тут вельмі нязначная. Гэтаксама не ўважай вельмі важным, памрэш ты пасьля шматлікіх гадоў ці заўтра»*.

*Добры чалавек, прыгожае й карыснае для іншых жыцьцё й прыгожая й велічная сьмерць»*[474].

Яму ж, пастару Яну Пятроўскаму, належаць і наступныя словы пра сьмерць, выдрукаваныя ў адным з эміграцыйных часапісаў, выданьні, здаецца, далёкім ад падобных праблемаў:

*«Зьявішча сьмерці зьяўляецца найболей паважным выдарэньнем у жыцьці чалавека.*

*Кажны чалавек на працягу свайго жыцьця праходзіць розныя фазы настаўленьня да зьявішчаў фізычнага й духовага сьвету. Малое дзіцянё пераважна занята ўвагаю вонкавага сьвету, у які яно пачынае ўваходзіць. Малады чалавек, аддадзены свомай яму энэргіі, заняты ўсім іншым, толькі ня зьявішчам сьмерці. Ён ня часта нават здагадваецца, што гэткае нешта існуе на сьвеце, а калі існуе, можа абавязваць кажнага іншага, але не яго.*

*І толькі на захадзе свайго жыцьця ў чалавеку будзіцца глыбейшая склоннасьць да паважнае думкі. Цяпер толькі ён пачынае разумець, што тое, што ён чуў данядаўна, пайменна, што жыцьцё зьяўляецца кароткім, пачынае набіраць для яго нейкі сэнс. Цяперака ён запраўды вычувае, што жыцьцё вельмі кароткае. Усё тое даўгое было толькі ўчора, сягоньня — час разважаньняў, а заўтра — наагул не належыць да яго»*[475].

Цалкам у сыстэму экзыстэнцыйных пошукаў Янкі Юхнаўца, але сугучна пастару Пятроўскаму — пра нябоязь сьмерці — кладзецца цьверджаньне героя адной з драмаў пісьменьніка: *«Цімка (устае ад стала і як бы кажа, прамаўляе, ціхавата-пэўна): А па-мойму дурна думаць, што чалавек палохаецца сьмерці. Ён найбольш палохаецца палітычнага й сацыяльнага тэрору, які аднімае паўнату жыцьцёвых адчуваньняў, што зьявіліся ад першага дня народжаньня... (ахопліва). Не, грамадзяне, трэба інакш сказаць (рэзка адчынае дзьверы кухні на знадворак, спыняецца). Тым, што жывуць страхам сьмерці, парадзім не адмаўляцца шукаць месца ўва ўсялякіх страхах. Патомства людзкое стварылі вельмі шмат страхоцьцяў, яно насьледна ў іх астаецца»*[476].

Тэма сьмерці сталася прадметам цікавай дыскусіі паміж Уладзімерам Глыбінным, аўтарам апавяданьня «Сьмерць Гэнрыка Шлегеля» [477], і Юркам Віцьбічам[478].

---

474 Пятроўскі, Ян. Лепшыя думкі чалавека. Т. 3. С. 188–191.

475 Piatrouski, Jan Pastar. Razvazanni nad mahilami // Siaubit. 1966. № 51. S. 9.

476 Юхнавец, Янка. Драматычныя начыркі. Выданьне аўтара. Нью Ёрк, 1996. С. 8.

477 Глыбінны, Уладзімер. На берагох пад сонцам. Апавяданьні і аповесьці. Нью Ёрк — Трой, 1964, С. 18–26.

478 Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў БДАМЛМ.

Сюжэт апавяданьня наступны.

Гэнрык Шлегель, жаўнер-шараговец нямецкай мэханізаванай пяхотнай дывізіі, трапіў у палон улетку 1944 г. пад Барысавам і быў скіраваны ў лягер на поўдні беларускага Палесься. Улетку 1954 г. абвесьцілі масавае вызваленьне ваеннапалонных, і Гэнрык наважыўся вяртацца на сваю бацькаўшчыну. Пасьля нялёгкай дарогі, з прыгодамі, ён ступае на нямецкую зямлю. Да хаты застаецца дзьве гадзіны шляху, як Гэнрыкавую ўвагу прыцягвае буйная рэпа, «салодкі плод баварскіх палёў». Ён нагінаецца, каб абраць сабе адну зь іх, як гаспадар, зь віламі наперавес, кідаецца ў абарону сваёй маёмасьці ды працінае Гэнрыка. *«Страта прытомнасьці наступіла амаль адразу. Ягонае цела доўга білася ў канвульсіі, лежачы перадам на рэпным полі, а нагамі на дарогу, зь якое ён, жывы й поўны ружовых надзеяў, саступіў колькі часінаў таму назад толькі на адзін крок за гэтай нешчасьлівай рэпай»*[479].

А цяпер — самое ліставаньне.

Першы ліст Уладзімер Глыбінны даслаў 10 студзеня 1961 г.:

*«Дарагі Юры Александравіч! […] Для мяне цяпер большае значаньне мае ня шырокі сьвет, а душа й думка асобных сяброў. От, прыкладам, хацеў бы даведацца, ці чыталі Вы мае апавяданьні, што зьявіліся на балонках "Бацькаўшчыны" летась? Некалі Вы ў нецьвярозым стане ў мяне на кватэры ў Нью Ёрку пасьля праслуханьня аднаго з апавяданьняў ("Сьмерць Гэнрыка Шлегеля") выказаліся аб ім як "выдатным". Ці трымаецеся Вы такога высокага пагляду на яго цяпер, прачытаўшы яго цьвярозым? Я зусім не хачу ад Вас камплімэнтаў. Мяне абыходзіць Ваш шчыры пагляд, дарма, што ён можа быць няпрыемным для маёй літаратурнай амбіцыі. Я хачу праўды і яшчэ раз праўды. Абы якая вострая праўда будзе для мяне больш прыемнай, чымся любая салодкая крывадушная пахвала. Вельмі-ж хочацца працаваць творча, маю багата творчых плянаў […]».*

Адказ на гэты ліст Віцьбіча не захаваўся, але ўяўленьне пра яго лёгка скласьці з чарговага ліста Глыбіннага (ад 1 лютага 1961 г.):

*«Дарагі Юры Александравіч! На гэтым мейсцы лічу патрэбным выказаць нязгоду з Вашым сьцьверджаньнем, што гэрой Шлегель загінуў за рэпу. Ідэяла рэпы ён ня меў, няўпрыклад гэрою Рэмарка, які гіне за радзіму, як за свой ідэял. А калі ад смагі й стомы ён нагнуўся вырваць рэпу, дык толькі дзеля свайго пустога страўніка, які нічога агульнага ня мае зь ягонымі ідэяламі. А апошнія ён вырабіў праз гады пакутаў і вялікіх выпрабаваньняў сярод народу, якога некалі разглядаў як ворага, а пажыўшы зь ім — зрадніўся і пераняў ягоны сьветапогляд. Дахаты ён ужо вяртаўся зусім іншым чалавекам. І*

---

[479] Глыбінны, Уладзімер. На берагох пад сонцам… С. 25–26.

*тое, што рэпа сталася прычынай выяву ўласьніцкае жорсткасьці баварца, толькі падкрэсьлівае трагэдыю й бяссэньсіцу ягонае сьмерці. Кажны чытач з душою добра разумее гэта. Аб гэткім разуменьні пісаў на балонках "Бацькаўшчыны" К. Акула ад 4 сьнежня 1960 г. Аб гэтым пішуць да мяне шматлікія чытачы ў лістох. Спадзяюся, што падумаўшы, Вы зьменіце Вашае разуменьне».*

Адказ Юркі Віцьбіча датаваны 7 лютага 1961 г.:

*«Дарагі Уладзімер Ільліч! Мяне зьдзіўляе Вашае зьдзіўленьне з тае прычыны, што мой пагляд на Вашае апавяданьне "Сьмерць Гэнрыка Шлегеля" не супадае з паглядам сп. Акулы, выказаным ім (на жаль, не чытаў) на старонках "Бацькаўшчыны", як і з паглядамі чытачоў, ад якіх Вы дасталі шматлікія лісты. Я, паводля Вашае просьбы, выказаў свой пагляд, выказаў яго проста й шчыра, не аглядаючыся пры гэтым па бакох. Мяне не абыходзіць у дадзеным выпадку думка іншых і зусім не абавязкова, каб я падпарадкаваўся ў гэтай галіне агулу. А ўрэшце рэштаў я не прафэсыйны крытык і таму не прэтэндую на тое, каб аўтар абавязкова згаджаўся з маім паглядам.*

*Так! На вялікі жаль, але запраўды, як на мой асабісты пагляд, Гэнрык Шлегель загінуў за рэпу. Аўтар нетыповае ў жыцьці мастацкі абагуліў і гэтае абагульненьне (вобраз) падкрэсьліў у назове твору.*

*Сакрат памёр ад цыкуты за свой сьветапогляд і прычына ягонае сьмерці заслугоўвае высокамастацкіх твораў. А каб Сакрат, напрыклад, памёр ад халеры, дык хоць ягоная сьмерць таксама сталася б вялікай стратай для чалавецтва, але прычыну сьмерці мастак абміне.*

*Кастусь Каліноўскі памёр на мураўёўскай шыбеніцы за свой сьветапогляд й прычына ягонае гэраічнае сьмерці знайшла адбітак у больш ці менш мастацкіх творах. А каб Кастусь Каліноўскі памёр ад тыфусу, дык ці наўрад мастак напісаў бы твор пад назовам "Сьмерць Кастуся Каліноўскага".*

*А навошта ўвогуле Гэнрык Шлегель краў рэпу? Даруйце, але калі аўтар, на жаль, блага ведае Нямеччыну (прынамсі, ейных баўраў), дык затое добра ведаў сваю бацькаўшчыну Шлегель. Ён, захацеўшы есьці, зайшоў-бы да перш-лепшага баўра, дзе-б яго накармілі, напаілі й на дарогу яшчэ-б далі. А пры гэтым пыталіся-б, ці не сустракаў ён у расейскім палоне іхніх сыноў, бацькоў, братоў дый увогуле сваякоў і знаёмых, аб якіх няма аніякіх весткаў. Ёсьць, праўда, паміж людзьмі й зьверы, але навошта адбіраць хлеб у аўтараў амэрыканскіх тэлевізыйных містэрыяў.*

*Мне давялося ў жыцьці, разам з тысячамі іншых небаракаў, красьці ў нямецкіх баўраў бульбу, рэпу, моркву й г. д., каб не памерці з голаду. Мелася гэтае за часы вайны на вайсковых працах, у Пру-*

*сах, каля возера Шпірдынг. Яны за гэтае ні аднаго з нас не забілі. Яны нават рабілі выгляд, што не заўважаюць нашых рабункаў. І калі баўры (а я іх добра ведаю на собскай скуры) гэтак ставіліся да аўсьлендэраў, да рабоў, дык як яны меліся паставіцца да свайго суродзіча, які вяртаўся да хаты з расейскага палону?*

*І крыху наконт чытацкіх лістоў. Я часам таксама дастаю іх, хоць можа й ня гэтулькі, колькі дасылаюць Вам. Вось месяц таму дастаў ананімовы ліст, які мае наступную бадай прачулую канцоўку: "Мы расчленим твою дурацкую кривицкую голову русским увесистым камнем". Адначасна дастаю і нейкія акахвісты. Але не хаваю ад Вас, што ні каліва не пераймаюся чытацкімі лістамі. Не я як аўтар мушу залежыць ад іх, але яны ад мяне. І акурат гэтая акалічнасьць накладае на кажнага аўтара вялікую адказнасьць перад самім сабой.*

*Прашу не злавацца.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанаю да Вас Юрка Віцьбіч».*

Апошні ліст у гэтай дыскусіі быў напісаны Глыбінным 12 лютага 1961 г.:

*«Дарагі Юры Александравіч! З жалем мушу зазначыць, што ўсё-ж Вы глыбака памыляецеся. Вы сьцьвярджаеце, што калі чалавек паміраe звычайнай сьмерцяй ад хваробы, дык ягоная сьмерць не заслугоўвае ўвагі мастака. А тым больш яшчэ выносіць гэты факт у назоў твору нібыта пярэчыць характару прозы. Ня ведаю, на якіх застарэлых паэтыках Вы выраблялі гэткія пагляды, якія даўно ўжо адкінутыя сучаснаю літаратурай. Вось прыкладам, Леў Талстой у ведамым апавяданьні "Сьмерць Івана Ільліча" не пабаяўся апісаць звычайную сьмерць Івана Ільліча Галавіна ад звычайнай хваробы, якую ён выклікаў тым, што пабіў сабе бок у часе перасоўваньня мэблі ў сваёй кватэры. Не пабаяўся аўтар вынесьці гэтую сьмерць у назоў твору. І аднак, насуперак Вашаму прынцыпу — "гэта можна, а гэтага нельга паказваць у мастацкім творы", — гэты твор стаўся адным з найбольш ведамых твораў, вызнаных сусьветнай апініяй як узор мастацкае прозы, і цяпер гэты твор упрыгожвае усе анаталёгіі апавяданьняў лепшых мастакоў прозы сусьветнае літаратуры. Вывучаюць яго нават у сярэдніх школах Амэрыкі, ня кажучы ўжо пра каледжы і ўнівэрсытэты.*

*Вашае сьцьверджаньне, што калі-б Каліноўскі памёр ад тыфусу, дык ягоную сьмерць ніхто-б ня стаў апісваць, таксама памылковае. Досыць прывесьці прыклад другога сусьветна вызнанага твору, каб пабачыць беспадстаўнасьць Вашае думкі. Іван Тургенеў у рамане "Бацькі й дзеці" змусіў гэроя Базарава памерці якраз ад тыфусу. Гэта-ж, аднак, не перашкодзіла гэтаму твору здабыць сусьветную славу аўтару, а само апісаньне сьмерці гэроя ад ты-*

*фусу становіць самае моцнае і ўразьлівае мейсца раману. Нават амэрыканцы плачуць, калі чытаюць гэтыя балонкі. Я перачытваў тое мейсца колькі разоў, аднак кажны раз не магу ўстрымацца ад вялікага хвалявàньня і ўзрушаньня, калі даходжу да сьмерці Базарава.*

*Калі Вы хочаце падказаць Шлегелю, што яму рабіць у дарозе дахаты — спыняцца ў баўраў й да г. п., дык гэтым самым Вы збочваеце з дарогі разуменьня душы чалавека, які больш за дзесяць гадоў ня бачыў сям'і, а цяпер быў ужо бадай-што на парозе роднае хаты. Хіба ў такі момант да наведваньняў і спынкаў па чужых хатах? І хіба-ж Вы самі ўстрымаліся-б ад тае спакусы, якая ўзмацнялася смагай у летні дзень па пыльнай дарозе? Пастаўце сябе ў ягонае становішча й судзіце аб чалавеку не з собскае каланчы сытага амэрыканца».*

У гэтым ліставаньні цікавая, сярод іншых[480], праблема, не сфармуляваная ані Віцьбічам, ані Глыбінным, але менавіта якая й

[480] Адною з такіх «іншых» праблемаў ёсьць розьніца паглядаў на сьмерць, уласьцівая розным культурам. Палеміка адбылася паміж двума прадстаўнікамі беларускай эміграцыйнай літаратуры, значыць, людзьмі нібыта адной культуры. Але стаўленьне да праблемы сьмерці якраз добра выяўляе Уладзімера Сядуру-Глыбіннага як чалавека расейскай культуры — у першую чаргу, і толькі ў другую — беларускай. Факультатыўна гэта пацьверджваецца таксама й працамі пісьменьніка (гл., напрыклад, у кн.: Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. С. 273–274).

Расейскі спэцыфічны пагляд на жыцьцё й сьмерць [тут цікаўных можна адаслаць альбо да альманаху «Смерть» (С.-Петербургъ, 1910), альбо да «Поэмы о смерти» Льва Карсавіна (Карсавин, Лев. Религиозно-философские сочинения. Т. 1. Москва, 1992. С. 235–305), альбо да «Откровений смерти» Льва Шастова (Шестов, Лев. Сочинения в 2-х томах. Т. 2. Москва, 1993. С. 25–148)], на філязофію, наагул, расейскі сьветапогляд з гэтым іхным *космизмом*, *вселенством*, *сакралом*, гэтай тэндэнцыяй да агульных гучных словаў, калі за самімі словамі — пустэча, нішто, псэўдадумка, псэўдаглыбіня, сталіся часткаю (часта — незаўважнаю нават для носьбітаў) пэўнай групы беларускіх пісьменьнікаў. Яскравы ўзор — Таіса Бондар, прыхільніца ідэі панславянства, саюзу з Расеяй і г.д.: *«Свечка ціха патрэсквала. Няроўны язычок полымя выцягваўся, танчэў, як перашчыкнуты раптам лёгкім павевам ветрыку, няўлоўным рухам паветра, ападаў і, здавалася, вось-вось згасне, але ўжо ў наступны момант зноў ярчэў, зноў пачынаў расці, выцягвацца ўгору, і цьмяны водбліск яго ажыўляў мёртвае цела крыжа. Мёртвае дрэва і агонь, сімвалы памяці… Думкі пра смерць незаўважна прыводзілі да думкі пра вечнасць. І ў тым быў свой вялікі сэнс. І свая праўда. І свая праўда! Нават калі яна незразумелая. Пакуль што — незразумелая. Бо абавязкова прыходзіў для кожнага дзень роздуму, дзень разумення, калі душы адкрывалася нябачнае розуму і яна спасцігала таемную, таямнічую сувязь сваю з былым і наступным. Прыйдзе такі дзень і*

*для Вадзіма. Цяпер жа ён плакаў — і святлеў тварам, святлеў душою ад гэтых ачышчальных у сваёй горычы слёз: і на міг не задумаўшыся ні пра далёкае, ні пра блізкае, ён помніў, ён успамінаў усё светлае і радаснае, звязанае з мамаю, і аплакваў яго страту. Аплакваў, яшчэ ня ведаючы, што нельга страціць тое, што ў ім, што перайшло ў яго і застанецца там да канца жыцця».* (Бондар, Таіса. Ахвяры // Полымя. 1992. № 6. С. 126.)

Што тут? Якая думка хаваецца за нанізваньнем словаў, сэнс якіх нібы ведаеш? І ці ёсьць тут якая думка наагул?

Няхай ня ўбачыцца тут нейкае асучасьніваньне праблемы. Этнапсыхалёгія — навука дакладная, хоць і ў ёй нярэдкія спэкуляцыі. Але заўсёды ёсьць магчымасьць сьцьвердзіць слушнасьць ейных высноваў і праверыць сучаснасьць — мінулым, літаратуру — гісторыяй, а тэорыю — практыкай: *«Яшчэ на пачатку 16 ст., калі войны з Маскоўскай дзяржавай вымагалі ад Вялікага Княства максімальнай мабілізацыі сілаў, шляхта не паддалася некаторым патрабаванням цэнтральнай улады, што адбіліся на характары выпрацаваных тады ваенна-прававых нормаў. Калі соймавая ўхвала 1507 г. прызначыла смяротнае пакаранне за самавольны ад'езд шляхціча з вайны (як і за нез'яўленне на месца збору рушання), дык ужо ў 1522 г. сойм мусіў замяніць смерць канфіскацыяй маёнтка, бо абсэнтызм стаў такой шырокай з'явай, што смяротнае пакаранне проста нельга было выкарыстоўваць. Таму і прадугледжаная III Статутам сістэма пакаранняў за вайсковыя правапарушэнні адрознівалася ад адпаведных нормаў суседніх дзяржаваў сваёй мягкасцю. Смяротная кара ўжывалася толькі ў тых выпадках, калі ратнік учыніў забойства, згвалціў жанчыну, параніў ці збіў шляхціча або святара. За такое важкае парушэнне дысцыпліны, як уцёкі з поля бою, вінаватага чакала толькі страта маёнтка і шляхецкае годнасці. За няўдзел у вайне, ухіленне ад попісу, недазволены ад'езд з войска шляхціччу пагражала таксама толькі канфіскацыя земскіх уладанняў. Для параўнання варта адзначыць, што тагачаснае права ў Маскоўскай дзяржаве прадугледжвала смяротную кару за ўзброены бунт, непадпарадкаванне, здраду, здачу горада непрыяцелю, прыём замежных людзей і проста зносіны з імі. За ўхіленне ад службы ратнікі высылаліся ў Сібір, за многія іншыя правапарушэнні ім пагражала адсяканне частак цела, турэмнае зняволеньне, а шэраг артыкулаў Улажэння 1649 г. патрабаваў "бити кнутом нещадно", што на практыцы скончалася забойствам абвінавачаных, бо лік удараў не вызначаўся».* (Сагановіч, Генадзь. Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мінск, 1994. С. 12–13.) Значыць, як мінімум у XVI ст. ужо было адрознае стаўленьне да жыцьця й сьмерці ў продкаў сёньняшніх беларусаў і расейцаў!

Калі ўжо размова зайшла пра адрознасьць культураў, варта зазначыць, што душы беларусаў разрываюцца ня толькі паміж Захадам і Ўсходам, паміж каталіцтвам і праваслаўем. Нашмат радзей — зрэшты, у адпаведнасьці з праблемамі, якія прыўносіць, — гаворыцца пра іншы падзел: паганства/хрысьціянства. Аднымі часамі яно амаль зьнікае, нівэлюецца, у другія часы набывае больш важкі памер, патрабуючы ўвагі і асэнсаваньнь-

сталася нутраною прычынаю дыскусыі. Праблема — у памкненьні ўвесьці сьмерць у жыцьцё, пакінуўшы як першае, гэтак і другое ў межах рэальнасьці, рэалістычнага мастацтва, адзінай сыстэмы эстэтычнага. Але ці можа рэалістычная традыцыя ўяўленьня сьмерці застацца рэалістычнаю ў сваёй сутнасьці? Наўрад ці, бо ва ўяўленьні пра сьмерць няма рэальнасьці, адно ёсьць месца для алегорыі, і мёртвае цела нямецкага жаўнера — гэта рэпрэзэнтацыя трупа, але ня сьмерці. Бо сьмерць — ня-ёсьць!

Віцьбічава нязгода — не адмаўленьне апавяданьня, тут — адмова ў блізкасьці, і хутчэй ідэалягічнай (пагляд на адлюстраваньне сьмерці), як тэхналягічнай (майстэрства пісьменьніка). Эмацыйнасьць не дазваляе чытачу, назіральніку, сьведку успрымаць рэпрэзэнтацыю вобраза сьмерці аб’ектыўна, бо немагчыма — праз адсутнасьць уласнага досьведу — уявіць яе. Што, уласна кажучы, трэба ўявіць? Нікому не вядома, што гэта.

Уявіць неўяўляльнае — значыць, стварыць нешта на ягоным месцы. З дапамогаю сымбалю, алегорыі, паралелі, гісторыі. Замяніць

---

ня: *«Як раптам усё сталася! Яшчэ тыдзень назад Страцім быў самым шчаслівым чалавекам. А за тры-чатыры апошнія дні ўсё перамянілася — смерць, лютая смерць адабрала ў яго дарагога чалавека, з якім ён нібы зліўся ўсёй істотаю, якога кахаў бязмерна. Яна таксама кахала яго так аддана, як толькі можа кахаць дзяўчына, стаўшы дружынай свайму мужу, маткай, яго і сваіх дзяцей, жанчынай у поўным сэнсе — як жонка і маці.*

*Смерць! Чаму яна спыняе жыццё нават людзям, поўным жыцця і сіл?*

*Страціму цяпер успомніліся словы яго хрысціянскага настаўніка — айца Нікіфара. Праўдзівей кажучы, не ўласная думка манаха-настаўніка, а настаўніка “нябеснага”: “Не паўстане новае жыццё, калі не памрэ тое, з чаго ўзнікне гэтае жыццё...” Так! так! Трэба было, каб Тэа нарадзіла дачку, каб перадала ёй усё самае лепшае, што мела, перш за ўсё — сваю красу. За гэта сама заплаціла сваёй смерцю... Але чаму так? Чаму ён, той нібы міласцівы хрысціянскі бог, тварэц і ўладар сусвету, тварэц першых людзей, чаму ён бывае нялітасцівы да людзей, пасылае ім такія цяжкія кары? Айцец Нікіфар казаў, што гэта — за грахі... Ну, добра, ён, Страцім, кепскі хрысціянін, але ж Тэафілія — сапраўдная хрысціянская душа, добрая, чыстая душа. Нашто ж яе пазбаўляць жыцця? Хрысціяне кажуць, што для такіх смерць — не кара, бо іх душы адразу ідуць па смерці ў рай... А хіба ж іх, яе жыццё тут не было раем? Хіба шчасце і радасць такога жыцця, поўнага ўзаемнага кахання, не былі бязмернымі? Якое ж яшчэ лепшае райскае жыццё можа быць, калі ўжо адна радасць з поваду дзяцей поўніла іх душы?.. Хаця б у імя дзяцей, не вінаватых яшчэ ў грахах, бог не слаў бы смерць такім, як яна... Не, не! Хрысціянскі бог — такі ж, як і іх дрыгавіцкія богі. А мо і горшы ад іх, бо ён лічыцца літасцівым, а куды больш гневаецца на людзей, чым, скажам, Пярун».* (Дыла, Язэп. Творы. С. 35–36.)

самую сьмерць — знакам. Як на могілках. Стварыць надмагільле для сьмерці па-Сядураўску, па-Салаўёўску, па-Віцьбічаўску…

Што дасьць агульнае поле, ня тоеснае ўласным складнікам, — поле сьмерці па-беларуску.

# ПАКАЗНІК АСОБАЎ



# ЗМЕСТ

**Юрэвіч, Л.**

Ю64 Літштудыі / Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 208 с.

ISBN 978-985-7180-18-9.

Кніга Лявона Юрэвіча «Літштудыі» складаецца з літаратуразнаўчых нарысаў, прысвечаных розным жанрам, аўтарам і творам айчыннага пісьменства. Сярод аб'ектаў цікавасці даследчыка беларускай эміграцыі і архівіста з Нью-Ёрка — творчасць З. Бядулі, Ю. Віцьбіча, Я. Дылы, У. Караткевіча, Р. Крушыны, В. Ластоўскага, Я. Юхнаўца і іншых. Пры гэтым паэзія і проза эміграцыйных ды метрапольных аўтараў разглядаецца ў непарыўнай сувязі, як неад'емныя элементы беларускай літаратуры.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

